Частка першая

# ТАТА+МАМА

## Тата

*Вугаль*

Тата страшэнна не любіць рыпення вугалю на зубах. Адны калоцяцца, калі нехта жалезінаю чыкірыжыць па шкле, другія не пераносяць шапацення паперы. А бацька не есць вугалю. Ён не можа пакаштаваць печанай у вогнішчы бульбы, што для беларуса — дзіва дзіўнае.

*Ручкі*

Калі тата нешта любіць больш за кнігі, дык гэта ручкі. Ён прывозіць іх адусюль: з Нью-Ёрка, з Парыжа, з Масквы... У татавым стале — поўная шуфляда самых розных ручак і алоўкаў. І калі збіраюся ў якое падарожжа, тата нагадвае пра ручку і сшытак. З дзяцінства памятаю, як ён старанна прамывае над ракавінай кітайскую асадку. Тата любіць, каб ручка

пісала тоненька і добра пускала атрамант. А першы раман, «Чужая бацькаўшчына», піша школьнай ручкаю, абмакваючы сталёвае пяро ў белую чарнільніцу. Апошнім часам тата пачынае друкаваць на машынцы, але кожнае другое апавяданне прыносіць да маёй сакратаркі Надзеі ў тонкім школьным сшытку, напісанае ручкаю.

*Нажы, ножыкі, сцізорыкі...*

З вайны ў таты застаецца любоў да нажоў. Пэўна, гэта генетычнае, бо ў сялянскай хаце нашага дзеда Уладзіміра нож — культавая рэч. Ніхто без дзедавага дазволу не можа крануць нож. Ён ляжыць у шуфлядзе кухоннага стала, іншага ў хаце і няма. Гэта ў бацькоўскай кватэры шмат сталоў і безліч нажоў. Тата з дзяцінства нажы збірае. Кажа, што ў вайну меў тры казацкія шашкі. Даводзілася хаваць іх у лесе, увагнаўшы ў зямлю па самыя тронкі і замаскаваўшы мохам. Нехта высачыў і скраў бацькаву зброю. Ад усяго вайсковага застаецца толькі нямецкі штых-нож. Тата хоча назваць свае чатыры раманы, сабраўшы іх пад адной вокладкай, «Цень ад штыха». Але перавыданне раманнага цыкла адсоўваецца ў няпэўнасць. На жаль. А я дык нажы, ножыкі, сцізорыкі не шаную. Купляю наступны, калі папярэдні губляецца альбо ламаецца.

*Кніжныя паліцы*

Тата любіць сядзець на канапе насупраць кніжных стэлажоў і разважаць пра літаратуру. Я магу гадзінамі стаяць побач і слухаць, слухаць... Завязваецца спрэчка. Няма такога, каб не распачалася палеміка. З-за Камю, ці з-за Дастаеўскага, ці з-за Вавенарга... Абавязкова я ці тата ловім суразмоўніка на памылцы ў цытаце ці няправільнай даце нараджэння кога-небудзь з класікаў. Спрачацца каля паліц з кнігамі — сямейная традыцыя. Мы даводзім адзін аднаму сваю праўду з томікамі ў руках. Тата паважае раманістаў, а мне даспадобы апавядальнікі. Ён выдатна ведае расійскую літаратуру, а я так ніколі сур’ёзна і не перачытваў Цютчава, бо захапляўся

Усходам — Сёнагон, Басё, Бусон, Іса. Мы розныя, але страшэнна любім сядзець на канапе насупраць кніжных паліц і весці дыялог пра літаратуру.

*Сябры*

У таты няма і не было сяброў у маім разуменні гэтага паняцця. Можа, у юнацтве ён і меў сябра, але я пра тое нічога не ведаю. Дый калі ўважліва прачытаць татавы творы, наўрад ці знойдзецца яскравы матыў сяброўства. Тата шмат з кім падтрымліваў добрыя стасункі, але каб ён на роўных з кімсьці сябраваў — такога не было. Ён больш за мяне еўрапеец, бо заўсёды трымаў людзей на адлегласці. Пэўна, таму тата любіць размаўляць з маладзейшымі, з тымі, хто не можа быць яму за сябра. І сваю выснову, што сябры знікаюць у пэўным веку, недзе ў гадоў трыццаць, я зрабіў, назіраючы найперш за татам, а не за сабою.

*Зялёны акіян*

Тата спакойна кажа пра смерць. Яшчэ ў сорак ён пачаў гаварыць сваім раўналеткам, што стары, што адмаўляецца ад той ці іншай справы або пагулянкі з-за свайго веку. «Які ж ты стары, Чэсь? Ты ж маладзейшы за нас на дзесяць гадоў!» — здзіўляліся некаторыя. «Не-не, я стары»,— настойваў тата. Таму, калі ён мне з братам Міраславам сказаў, што хоча сур'ёзна пагаварыць пра сваё пахаванне, мы ўспрынялі тое як належнае. Гэта было ў 1998 годзе, улетку. Мы сядзелі за сталом на татавай кухні, калі ён сказаў: «Я хачу знікнуць у зялёным акіяне. Мне не падабаюцца мінскія могілкі. Я хачу вярнуцца на сваю Наваградчыну, у Варакомшчыну, у свае лясы, і назаўсёды знікнуць у зялёным акіяне».

*Прыніжэнні*

Значна лягчэй перанесці ўласную знявагу, чым бачыць прыніжэнне таты. А можа, яно толькі здаецца. Адно ведаю дакладна: глядзець, як тата прыносіць скрэмзаныя рукапісы

сваіх твораў ад цэнзараў-рэдактараў, больш чым непрыемна. Яны выкрэслівалі палітыку, бурылі сюжэт, кастрыравалі вобразы і мову. Апавяданне «Кароль Нябожа»: ад 32 старонак засталося 18. І так праз усё жыццё, праз усю творчасць. Пэўна, таму большасць сваіх кніжак я выдаваў уласным коштам, паўлегальна і без цэнзараў.

*Галенне*

Тата голіцца перад выхадам з дому, а ў выхадныя — перад прыходам гасцей. Я — наадварот, галюся з самага ранку, не магу сесці снедаць, не пагаліўшыся. Тата можа да вечара прахадзіць па кватэры няголены, але спаць, не пагаліўшыся, не ляжа. Барады ён ніколі не насіў, бачыў у барадзе азіятчыну, а ён — еўрапеец, католік, і мусіць галіцца.

*Голас*

Які запаволены, слабы зрабіўся татаў голас. У тэлефоне ледзь чуваць. Даводзіцца перапытваць пра тое самае па некалькі разоў. Раней тата гаварыў у тэлефон вельмі гучна, ледзь не крычаў, баяўся, што не дачуюць, не зразумеюць. А цяперака гаворыць ціха і не баіцца.

*Сэрца*

У 1971 годзе ў таты схапіла сэрца. Ён ляжаў апрануты на засланым ложку. Панаехала дактароў. Усе паўтаралі страшныя словы: «Схапіла сэрца!» І мне ўяўлялася нейкая рука ў гумавай пальчатцы, якая хапае татава сэрца. Сперажываліся мы тады. Дагэтуль не магу спакойна сказаць два гэтыя словы: «схапіла сэрца».

*Уражлівасць*

Тата вельмі ўражлівы чалавек, акуратны і асцярожны. Ён не любіць чужога ў побыце і інтыме. Калі тата вучыўся ў Літаратурным інстытуце, ён у бібліятэцы памыў рукі і выцер іх ручніком агульнага карыстання. Праз гадзіну рукі

пакрыліся чырвонай высыпкаю. Можа, з месяц ён не мог пазбавіцца зудлівых плямін, ажно пакуль доктар не здагадаўся, што высыпка не інфекцыйная, а нервовая: псіхалагічна тата настроіўся на хваробу і захварэў. Праз такія здарэнні ён і не любіць усяго чужынскага, агульнага, грамадскага.

*Трускалкі*

Днямі зайшоў да бацькоў. Проста, каб пасядзець з імі. Маці запарыла гарбаты і пачаставала мяне трускалкамі. Тата працягнуў руку, каб узяць ягаду, а маці далікатна адсунула талерку. «Табе яшчэ няможна сырога». І яна і я ледзь стрымаліся, каб не заплакаць. Але стрымаліся і пачалі гаварыць пра палітыкаў. Тата захваляваўся, і да яго вярнуўся голас.

*Лес*

Тата ў бальніцы просіць Міраслава, каб звазіў яго ў лес. Яны заязджаюць у яліннік. Бацька адмаўляецца выходзіць з машыны. Адчыніў дзверцы, паглядзеў, і яны вярнуліся ў бальніцу.

*Лекі*

Міраслаў пытаецца ў доктара, чаму так мала лекаў ён прызначыў нашаму тату. «А ў нас больш няма, прывозьце свае лекі, і мы ўсё зробім». Тых лекаў і ў Мінску няма. Даводзіцца тэлефанаваць у Вільню, каб купілі і перадалі. Там запісваюць груваcткую назву, купляюць, перадаюць. Лекі не тыя. Што з імі рабіць? Доктар суцяшае: спатрэбяцца вашай маці.

*Колер твару*

У таты зусім кепскі колер твару. Як цяжка пра такое думаць! Калі ён быў дома з мамаю, я адганяў ад сябе гэтае назіранне. Але ў бальніцы зноў убачыў на бацькавым твары жоўты колер смерці. Такі колер быў на твары ў маёй хворай

на рак бабы Ядзі, калі яна сустрэла мяне ў бальнічным двары. Такі самы колер меў твар дзядзькі Чэся ў калідоры ракавага корпуса. Каб жа я памыліўся!

*Сваё*

Зрэдку ў іншых бачыш самога сябе. Так дзяды бачаць сябе ва ўнуках. Так я назіраю ў зыходзе таты ўласную нямогласць, слабасць і бездапаможнасць у бязлітасным свеце. Тата — частка мяне. Сумна і балюча ўсведамляць незваротнасць зыходу.

*Тэрмін*

Калі выпісвалі з лякарні бабу Ядзю, дактары напрарочылі ёй месяц жыцця. Яна пабыла з намі месяц і тры дні. Цяпер, калі мы забіралі тату, лекары сказалі, што пражыве ён толькі тры месяцы. Ад гэтых думак у мяне халадзее кроў і калоціцца сэрца. З усіх сіл стараюся хоць бы выглядаць спакойным.

*Агрэсія*

Бываюць імгненні, калі мая жывёльная сутнасць паўстае супраць відовішча паміраньня. Нехта нябачны падштурхоўвае ўдарыць тату і ўцячы. Я саромлюся гэтых думак, гэтых біялагічных жаданняў. Стрымліваюся. Пераступаю праз іх. Гавару з татам. Услухоўваюся ў ягоныя часам блытаныя сказы. Імкнуся зразумець, падтрымаць. Бывае, што ён ужо і не зусім побач і не зусім са мною. На сонечны дзень ён можа сказаць: «Вось і дождж пайшоў. У Бога ўсё гатова!» А жывёліна зноўку прачынаецца. І, каб стрымацца, я кусаю сваю шчаку да болю, да крыві.

*Мама*

Мама надзявае акуляры, і я бачу, якія ў яе вялікія і якія заплаканыя вочы. Мама ўспамінае, як яна з татам і са мною, трохгадовым, ішлі па вуліцы. Я — у самаробных валёнках. «Каціўся наперадзе». Вялікі п’яны дзядзька прысеў перада мною, працягнуў руку і павітаўся: «Сяргей». Я таксама даў

яму руку і сказаў: «Адамка».— «Ну, ён у вас маладзец! Адам яго завуць?» — «Не, гэта прозвішча»,— сказаў тата. Мама ўспамінае рознае, добрае, вясёлае, каб не закрычаць, не завыць, калі глядзіць на свайго Чэся.

*Маркі*

Далёкія і нязначныя дэталі маіх стасункаў з татам пачалі набываць патрэбнасць і выразнасць. Гэта выключна нашае з ім, яно нікому іншаму не належыць. Вось паштовыя маркі. Тата дасылаў іх мне з Масквы ў канвертах, разам з лістамі да маці. Я наклейваў маркі ў альбом для фотакартак і безнадзейна псаваў іх як калекцыйныя рэчы. Сутнасць таго збірання, дасылання і наклейвання была ў нашым разуменні адзін аднаго. Мы сядалі за стол, разглядалі маленькія карціны, гаварылі пра далёкія краіны, пра Бурундзі, пра Індыю, пра Алжыр...

*Спадчына*

Тата шмат напісаў. Апошнія гады ён пісаў па маіх замовах і нейкім чынам асабіста для мяне. Цяпер я разумею, што большасць напісанага татам зроблена дзеля мяне і майго брата, дзеля ўнукаў. Смешна згадваць тут аўтарскія правы і наогул нейкае там заканадаўства. Але татава літаратурная спадчына належыць мне, я гэта адчуваю. І законы мяне не абыходзяць, хоць большасць нашчадкаў і спадкаемцаў творчага чалавека якраз цікавяць законы і грошы, выгандляваныя за спадчыну. Звычайна гэта людзі бедныя, ва ўсіх сэнсах.

*Камяні*

Тата шмат разоў фатаграфаваў камяні. Вялікія валуны, што ляжаць на берагах беларускіх палёў. Захапляцца гэтымі цёплымі, парослымі мохам падарункамі ледавіка ён навучыў і мяне. Ёсць у нашых камянях неспазнаная таямніца, як у егіпецкіх пірамідах. Калі доўга глядзець на такі неабдымны, непад’ёмны валун, можна ўбачыць у ім Бога, Буду, будучы-

ню. Я вельмі ўдзячны тату за прагулкі да валуноў. Гэтыя камяні паміж полем і дарогаю сталі сімваламі нашай з татам Радзімы.

*Трава*

Праз інтэрнэт на мой сайт, дзе змешчана і татава кніга «Развітальная аповесць», прыйшло пытанне: «Чаму Вячаслаў Адамчык так часта зло ўжывае складаныя прыметнікі, напісаныя праз дэфіс: «зеленавата-блакітны», «рэдзенька-шары», «густа-ліловы»? Тата адказаў, што гэта з-за любові да батанікі ды, пэўна, перабольшанай увагі да розных даведнікаў і паказальнікаў раслін, дзе колеры кветак падаюцца праз дэфіс. Апісанне раслін у татавых раманах — адзін з найцікавейшых матываў, прынамсі, для мяне, чалавека, далёкага ад прыродазнаўства.

*Гадзіннікі*

Тата паскардзіўся Міраславу, што ў яго зламаліся ўсе гадзіннікі. Хоць насамрэч гэта няпраўда. Міраслаў падарыў тату навюткі японскі настольны будзільнік. Тата доўга разглядаў яго, а потым спытаў: «Колькі зараз часу?» — і вельмі здзівіўся, калі Міраслаў назваў час, які паказваў будзільнік. Тата ўсё ніяк не можа паверыць, што зламаліся не механічныя прылады, а разбураецца ягоны ўнутраны біялагічны час. Ён можа сказаць: «Во, ты схадзіў пераапрануўся!», хоць прайшло два дні, а ў яго ўсё яшчэ цягнецца адзін пакутлівы, хваравіты, цёмны дзень.

*Самагубства*

Калі бачыш, як няўхільна згасае зорка татавага жыцця, вельмі прымітыўнымі падаюцца нават думкі пра самагубства. Колькі пакут і роспачы нясе ў сабе адыход блізкай душы! А наколькі больш балюча такі зыход адгукнецца ў сэрцах блізкіх людзей, калі ён нясвоечасовы, калі дзеці паміраюць раней за бацькоў? І варта жыць толькі дзеля таго, каб не параніць сваіх блізкіх заўчасным зыходам.

*Аптэка*

Мама пайшла ў аптэку па лекі для таты. Па рэцэптах, выдадзеных у лечкамісіі, яна магла заплаціць палову ад кошту. Аптэкарка сказала, што такіх рэцэптаў не прызнае і выдасць лекі толькі за поўны кошт. Мама абурылася: «У такім разе я не прызнаю вашай аптэкі!» На што гандлярка секанула: «А вам засталося нядоўга купляць такія лекі». Мама расказвала пра сварку спакойна, плакаць у яе сіл няма.

*Рэчка Ятранка*

У кожнага чалавека ёсць свая рэчка, свой лес, сваё поле. Тата любіў Ятранку. Апісваў яе. Калі мы разам прыязджалі ў Варакомшчыну, дык першым чынам ішлі на рэчку. Тата сядаў на беразе, даставаў нататнік і пісаў. Уся ягоная проза нібыта напісана на беразе Ятранкі. І для мяне крынічная вада празрыстай Ятранкі — сімвал чысціні. Нідзе ніколі я не бачыў рэчкі, святлейшай за нашу.

*Вёска*

Ёсць тэмы, пра якія я пісаў мала ці амаль зусім іх не кранаў. Адна з такіх тэм — вёска. Так павялося: вёска — татава тэма. Калі ён казаў: «Тваё Койданава, твая Барселона», дык у падтэксце гучала: «Мая вёска, мой Наваградак, мая Заходняя Беларусь». Напэўна, так і застанецца надалей. Тата будзе жыць у «Чужой бацькаўшчыне» — сваім найлепшым рамане пра вёску.

*Сшытак*

Тата заўсёды пісаў у сшытках. Шмат хто з літаратараў піша інакш. Хто на асобных аркушах, як Уладзімір Караткевіч, хто адразу вылясквае на друкарскай машынцы, як Міхась Стральцоў. Апошнім часам камп'ютар ледзь не татальна авалодаў пісьменнікамі. А Уладзімір Сцяпан наогул надыктоўвае раманы на дыктафон. На пытанне «Чаму сшытак?» — тата адкажа: «А чалавецтва нічога лепшага за

сшытак не вынайшла. Кніга — той жа сшытак». А я так і застаўся мастаком, усё на асобных аркушах літары малюю. І толькі апошнім часам прымусіў сябе дзённік пісаць у сшытку. Любоў да сшыткаў у мяне яшчэ наперадзе.

*Брат Ян*

Хварэе тата амаль паўгода і ўвесь гэты час спадзяецца на выздараўленне. Мы ўсе як можам падтрымліваем ягоныя надзеі. Гаворым пра будучыя кнігі, апавяданні, пра палітычны лёс Беларусі. Хоць самі ведаем прысуд лекараў. І вось тата загаварыў з маці пра незваротнасць сваёй хваробы. «У мяне тое самае, што і ў Яна?» — «Не». Ян — татаў малодшы брат — памёр ад раку ў пакутлівых болях, калі морфій не дапамагае. Тата не паверыў маці і прыйшоў да Міраслава. У мяне ён пра сваю хваробу не пытаецца. Я для яго больш чужы і далёкі за маці і Міраслава. Пэўна, так і ёсць, бо магу ўначы спаць, а Міраслаў з мамаю спаць не могуць. У таты дзень пераблытаўся з ноччу. І ён паціху мірыцца з лёсам, са сваёй блізкай смерцю.

*Вайна*

Яшчэ адна тэма, якую я старанна абмінаю,— вайна. Для таты яна — аснова. Хлапечыя ўражанні ніколі не адпускалі яго душу. Спаленая, расстраляная з германскіх гармат вёска Варакомшчына. Галава каровы, якая высунулася з гумна ў акенца і таму не згарэла. Аднавяскоўцы, пасечаныя шашкамі казакоў, што перайшлі на бок Гітлера. Усё гэта запаланіла ягоную свядомасць. Можа, таму, калі доктар сказаў, што тата памрэ ў эйфарыі, падумалася: а колькі можна яму пакутаваць? Ён і так адпакутаваў за ўсе здзекі і прыніжэнні беларуса.

*Магнітафон і фотаапарат*

Нядаўна я прачытаў пра нью-ёркцаў, што яны забудуць сёння тое, пра што ты даведаешся заўтра, і магу пацвердзіць гэты факт. Бо музыку, якую слухаў і запісваў тата ў

Амерыцы, у Беларусі пачалі слухаць праз гадоў пяць, а графіці прыйшло ў Мінск праз два дзесяцігоддзі. З камандзіроўкі ў Нью-Ёрк, дзе тата быў у 1980 годзе ў складзе беларускай дэлегацыі ў ААН, ён прывёз магнітафон і фотаапарат. Тэхніка прывезлася не дзеля прапаганды амерыканскага ладу жыцця. Тата паехаў з ёй у сваю вёску, дзе сфатаграфаваў нашу зямлю, нашых дзеда Валодзю і бабу Броню. Запісаў іх галасы. Пэўна, хіп-хоп ніколі і не дакоціцца да Варакомшчыны, як не будуць распісаныя з балончыкаў сцены вясковых хат. І добра. А вось я, у адрозненне ад таты, не веру ў магутнасць тэхнікі. Я прымітыўна малюю тату на паперы і занатоўваю згадкі пра яго і пра нас з ім на аркушах у клетку.

*Партрэт*

Папрасіў у таты здымкі. Ён дазволіў іх забраць, нават сказаў, дзе ляжаць. Цэлы вечар я разглядаў фотакарткі, каб выбраць адну і замовіць мастаку апрацаваць яе на камп'ютары і надрукаваць партрэт. Выбраўся здымак 1965 года. Той час, калі нарадзіўся брат Міраслаў, калі тата займеў першае шырокае прызнанне, калі я пайшоў у школу, калі ў нас была маладая, шчаслівая, прыгожая сям'я — тата, мама, я і брат.

*Таблеткі*

Мама сказала, што няможна пакінуць тату ні на хвіліну, бо стаў зусім дзіця. Спрабаваў з'есці ўсе таблеткі. «Што ты робіш, Чэсь?» — «Ты ж мне сказала: з'ясі ўсе таблеткі — і хутка паправішся...»

*Тэлефон*

Думкі пра тату ўзнікаюць паўсюдна і ў самыя нечаканыя моманты. Вось узяў тэлефонную слухаўку і падумаў, што зусім хутка (а можа, ужо і сёння) я не змагу пагаварыць з татам па тэлефоне. Ужо цяпер гэта складана зрабіць, бо ён часам не можа націснуць на патрэбную кнопку. Сумна.

*Тое, што знікае*

Я так доўга збіраўся напісаць лірычны твор пра тое, што знікае. Адкладваў, адкладваў. Лічыў сябе не падрыхтаваным да тэмы. Так, адно накіды пра дым, які віецца над згаслай свечкаю, пра жоўты пясочак, што цячэ са стромкага берага ў рачную плынь, пра зменлівыя карункі аблокаў. А тут — татава паміранне... Нават у кроплях дажджу, што скочваюцца з лістоў ліпы за акном, я бачу свае слёзы, свой плач па тату.

*Два словы*

За мінулы дзень тата сказаў толькі два словы. Адно — ён сказаў маме, калі тая раніцай абмывала яму ногі. Паклаў далонь ёй на плячо і прашаптаў: «Цярплівая». А другое прашапталася ўвечары. Я зайшоў у спачывальню. Тата паспрабаваў сесці. Мама спытала, ці хоча ён вады. «Не».

*Вочка малпы*

Я дапамог маме пакласці тату на ложак. Ягоная прыўзнятая рука дробненька калацілася. Згадалася вочка малпы, якая пазірала з пашчы анаконды і хутка-хутка міргала. Тата ў пашчы ўсёпаглынальнай смерці, а мы — назіральнікі.

*Сава*

Так склалася, што ёсць два Вячаславы Уладзіміравічы Адамчыкі, і абодва яны з адной сям'і, больш за тое — родныя браты. Тата мой — Чэсь, брат ягоны — Сава, а ў савецка-прарасійскіх дакументах яны запісаныя Вячаславамі. Каб спраўдзіць тэлефон дзядзькі Савы, запісаны немаведама калі, я набраў нумар. Пачуў жаночы голас, які гукнуў у далёкай наваеленскай кватэрцы: «Дзядуля, цябе да тэлефона». Я сказаў, што тата зусім кепска сябе адчувае. Сава падзякаваў за званок і паабяцаў патэлефанаваць, і прыехаць. А я не змог яму сказаць, што ехаць пакуль не трэба. Вось не змог сказаць, і ўсё.

*Маміна прызнанне*

«Мне яшчэ не цяжка. Вось пастаю каля яго на каленях, скажу: «Чэсь, пацісні мне руку». Ён так слабенька, але ж пацісне. Я не адна».

*Прыезд Савы*

«Ты ж сказаў, што па тэлефоне пагаварыць з Чэсем не ўдасца, вось я і прыехаў». Сядзім выпіваем. Я, Міраслаў і Сава. «Ён мяне прызнаў,— паўтарае і паўтарае Сава.— Я зайшоў, а ён рукой махнуў. Вось так узняў руку і махнуў». Тата выйшаў у залу, каб пасядзець на канапе, я прысеў побач з ім. «Цяжка табе, тата?» — «Цяжка»,— амаль нягучна выдыхнуў ён і лёг на канапу. Дзядзьку Саву мы правялі на электрычку.

*Ноч*

Пасля выпітага з Савам і Міраславам я праваліўся ў небыццё. А мама з маёй жонкаю Аленаю цэлую ноч змагаліся з татам, бо ён уставаў і падаў. Пакідаць яго на ложку зрабілася небяспечна. «Баюся, каб не зламаў сабе што. Ён такі крохкі. Праціраю яго спірцікам, мажу дзіцячым крэмам і баюся зламаць якую костачку. Ён зусім крохкі»,— кажа мне мама на раніцу. Прыўздымаю тату, і ён выпівае паўкубачка вады з сардэчнымі кроплямі.

*Сцэнар*

На працы я паклікаў сваяка Мікалая, і разам мы пачалі пісаць сцэнар пахавання, складаць спіс неабходнага. Крыж. Труна. Месца на могілках. Партрэт. Вянкі. Надпісы на стужках. «Дарагому тату ад сыноў Міраслава і Уладзіміра», «Дарагому дзеду Чэсю ад унукаў Чэсіка, Ядзі, Вольгі і Мікалая», «Дарагому майму мужу ад жонкі Ніны». Надпіс на шыльдзе з крыжа. «Вячаслаў Адамчык. 1933—2001». Калі план быў збольшага гатовы і сакратарка Надзея набірала яго на

камп’ютары, дык збаялася друкаваць дату смерці і зрабіла пропуск. Давялося другі раз пісаць дату смерці пры жывым тату.

*Антон*

Развітацца з татам і падтрымаць сястру прыехаў з Койданава дзядзька Антон. Я выклаў на стол цыгарэты з запальнічкай. «Хіба ты курыш?» — «Куру і выпіваю».— «А вось я нічога не магу. За гэтае лета два разы ў бальніцы ляжаў. Сэрца цісне і цісне». Мне згадалася, як Антонава Ніна паскардзілася, што дзядзька выпівае штовечар. «Радуйся, Ніна, ён можа яшчэ чарку ўзяць»,— пасмяяўся я тады. А цяпер я зрабіў іншую недарэчнасць. Парадаваўся, што Антон добра выглядае. «Што ты, Валодзя! Паглядзі на мае рукі, яны ўсе ў сіняках ад кропельніц. Я хутка наркаманам стану». Маўчым. Сапраўды, так кепска, як выглядае тата, не выглядае ніхто. Пальцы на руках счарнелі. Ён ляжыць з немірготкімі вачыма і часта хрыпла дыхае.

*Дождж*

Выйшаў на вуліцу. Паліўся дождж. Я паглядзеў на неба з-пад парасона і падумаў: «Божа, калі ты ёсць, зрабі, каб скончыўся дождж. Ну хіба табе цяжка? Пакутуе тата. Мучыцца мама. Праз дзень у мяне самалёт да Барселоны. Як я кіну бацькоў? Што скажу людзям пра сваю адсутнасць на пахаванні?» — «Калі ты не пабудзеш на татавым пахаванні, ты сабе гэтага ніколі не даруеш»,— кажуць навокал. І яны кажуць праўду. «Божа, дай мне знак, спыні дождж». І дождж перастаў. Я вярнуўся дамоў, пачаў парадкаваць фінансавыя запісы. І тут патэлефанавала мама і сказала: «Тата не дыхае. Тата памёр».

*Апрананне*

Першыя гадзіны пасля татавай смерці прамінулі для мяне ў істэрычным паўсне. Цяпер я дакладна ведаю, навошта занавешваюць люстэркі. Калі пабачыў скрыўлены плачам уласны твар са звар'яцелымі вачыма, дык напалохаўся больш, чым ад выгляду аголенага таты, якому я трымаў твар, каб ён не застыў з адкрытым ротам. Вочы закрыў тату я. Калі апранаў пінжак, дык ледзь-ледзь не зламаў ужо нягнуткую і халодную татаву правую руку. Мы паклалі тату на стол у святочным гарнітуры і навюткіх чаравіках. Пасярод ночы прыйшоў Міраслаў, і я паехаў дадому паспаць. Выпіў гарэлкі і праспаў да дзесяці раніцы.

*Кроў*

Поўна людзей з кветкамі. Усе спачуваюць. А ў мяне кожныя пяць хвілін твар перакошваецца, збіваецца дыханне, слёзы цякуць з вачэй. Тату пераклалі са стала ў труну. Маміна цётка Віцця прывяла жанчын, і яны адспявалі нашага тату Чэся. У кватэры такая задуха, што я захацеў выйсці на вуліцу, каб не страціць прытомнасць. Калі адчыняў дзверы на праспект, дык ададраў кавалак скуры з указальнага пальца на правай руцэ. Стаю з акрываўленай рукой на праспекце, і кроў мая крапае на шэры брук. І тут падыходзіць да мяне мастачка ў чорных акулярах, падобная да вупыршы, і пытаецца: «Адамчык, што з табой? Ты вельмі кепска выглядаеш».— «Бацька ў мяне памёр. Зараз хаваць будзем. Вось я дзверы адчыніў і скуру з пальца садраў. Я і ўчора яе садраў, калі татавымі ключамі спрабаваў гэты замок адчыніць. Толькі ўчора ранка была маленькая...» Вярнулася Ядзя з аптэкі, забінтавала мне палец. Мастачка развіталася. «Крэпка будзе стаяць тое, пад што кроў пацякла»,— згадалася мне. Што будзе крэпка стаяць?

*Слова*

Труну закрылі вечкам і прыкруцілі. Як добра, што вечка прыкручваецца, і не будзе гэтага жахлівага гуку забівання

цвікоў. Хлопцы ўзнялі майго тату на плечы і панеслі. Мама па сходах лесвіцы ледзь ідзе, а таму труна далёка ўнізе. З цемнаватага пад’езда выходжу на сонца і слепну. Гучыць аркестр, але што за музыка, разабраць не магу. Падыходзіць Толік Кісель і абдымае мяне. З ім іду да аўтобуса-катафалка. Як толькі мы селі ў аўтобус, пайшоў дождж. Праз вентыляцыйныя люкі на труну, на крыж, на партрэт пачалі падаць буйныя кроплі, падобныя да кропель маёй крыві, адно празрыстыя. А перад самай Кальварыяй заззяла сонца. Неверагодна зыркае ў вільготнай свежасці. Тату чакала магіла на грудзе, непадалёк ад касцёла. На рамонт і адкрыццё гэтага касцёла тата адным з першых ахвяраваў грошы ў часы атэістычнай безнадзейнасці. Паніхіду праводзіла старшыня Саюза пісьменнікаў Вольга Іпатава. Выступалі татавы калегі. А калі далі слова мне, мама, якую я падтрымліваў за локаць, ціха сказала: «Толькі нядоўга, бо я не вытрымаю». Маміна рэпліка збіла мяне, і маму стала шкада больш за тату. І я толькі сказаў: «Тата, я так цябе люблю, што ў мяне няма слоў». Сказаў — і заплакаў гучна, непрыгожа. Потым гаварыла мама. Потым труну апусцілі ў яміну, засыпалі. Далакопы, калі ўпрыгожвалі капец, зламалі напалам кветкі. «Каб не пакралі»,— растлумачылі яны.

*Кватэра*

На жалобную вячэру ні я, ні Міраслаў не пайшлі, сілы не было. З дачкой я вярнуўся дадому. Пераапрануўся ў спартовае і пайшоў бегаць у парку, каб змучыцца фізічна і на нейкі час забыцца пра смерць. Пасля ледзянога душу я зноў апрануў усё чорнае, паехаў на бацькоўскую кватэру. Адчыніў Міраслаў: «Цяжка сюды прыходзіць, калі нікога няма». Сапраўды. Я прайшоўся па пустых пакоях. Усе татавы рэчы нібыта памерлі разам з ім. Кнігі, нататнікі, рукапісы ляжалі як нежывыя. Адчужанасць свяцілася ў кожнай рэчы. Мы дачакаліся маці. Толькі калі яна пераапранулася ў хатняе і загаварыла пра сонечнасць гэтага дня, пра тое, што тата збіраўся напісаць буквар, а цяпер мы мусім дарабіць задуманае, я перастаў хвалявацца за яе і развітаўся.

*Мора*

Стаю на беразе Міжземнага мора. Гляджу на ваду. Чалавечае жыццё падобнае да падзення хвалі. Я пра гэта казаў раней і, пэўна, скажу і падумаю не адзін раз. І пра тое, як небяспечна чалавеку зазіраць у сваю будучыню, у сваю магілу. І чамусьці ўсё адно даводзіцца гэта рабіць. На Кальварыйскіх могілках мы прыдбалі сямейнае месца. Пакуль там толькі тата, а я на беразе мора згадваю падарункі, якія ён прывозіў мне, якія я прывозіў яму. «Прывязі просты сшытак і простую ручку»,— казаў тата. І я прывязу яму ручку і сшытак і пакладу пад крыж, бо тата любіў пісаць, а я люблю свайго тату.

## Мама

*Кашулі*

Тату, ужо ледзь жывога, прывезлі на лецішча, у Валоўшчыну. Ён любіў свой блакітны двухпавярховы дамок у крышку неахайным садзе з яблынямі і кустамі парэчак. Тата сабраў свае старыя кашулі і папрасіў маму памыць. Там няма гарачай вады. Мама грэла яе і за некалькі дзён перамыла ўсе чыста кашулі. Каб тата, крый бог, не даведаўся пра свой блізкі сыход.

*Пас*

Дзядзька Антон падарыў мне салдацкі пас з важкай абзоранай спражкаю. Я вельмі ганарыўся скураным пасам. З ім я быў непераможны ў свае адзінаццаць гадоў. Калі перацягнуць такой зброяю па рэбрах, выдатны атрымліваецца ўдар. Толькі біўся я тым пасам, можа, якіх тры разы, дый то пабойваўся рассекчы галовы сваім аднакласнікам. Пасам лупцавалі мяне. За боты поўныя вады, за двойкі па паводзінах, за падманы,

за гырканні на бацькоў, за ўцёкі з дому... Было за што біць. Балазе пад рукою выдатны пас. Ён ляжаў на палічцы сцянной шафы ў вітальні. Выдатны пас. Перацягнуў раз-другі па плячах — і болей не трэба. Біла мяне мама. Тата сыходзіў у кабінет, як толькі пачыналася сварка. Мама брала пас, сварылася і лупцавала. Было за што.

*Рука*

Адзін з самых даўніх успамінаў пра маму звязаны з яе рукою. Я, двухгадовы, ахоплены страхамі, і не магу заснуць. Прашу: «Мама, дай мне руку». Маці сядае на ложак і кладзе далонь на падушку. Я абдымаю цёплую руку, супакойваюся і засынаю.

*Малако*

Не ведаю, хто такое прыдумаў і падказаў маме. Але нехта даўмеўся, што жаночым малаком добра прамываць мае хворыя вочы. Якраз нарадзіўся брат. Мама, калі карміла яго, клікала мяне і пырскала ў вочы малаком. Вочы ў мяне сапраўды моцна балелі, я страшэнна не любіў дактароў і розныя працэдуры, у тым ліку і малочныя прамыванні. Трываў, вядома. Плакаў. Слёзы змешваліся з малаком, я іх размазваў па шчоках. Ішоў мыцца. З люстэрка на мяне злосна глядзеў першакласнік, размалёваны маміным малаком.

*Ахвяры*

Дзеля татавай творчасці, дзеля мяне з братам мама адмовілася ад кар’еры. Ці шкадавала яна? Пэўна ж, так. Каб не шкадавала, дык і не ведаў бы я, што ёй прапаноўвалі пайсці ў аспірантуру, застацца працаваць у Нацыянальнай бібліятэцы, а яна выбрала сям’ю. Мама заўсёды выбірала сям’ю. Калі ў брата ўзніклі цяжкасці з урокамі, мама адмовілася ад пасады загадчыцы бібліятэкі і пайшла працаваць у школу настаўніцаю працы. Мама заўсёды жыла болей дзеля нас, чым дзеля сябе.

*Малюнкі*

Намаляваць маму цяжка. Вельмі блізкі чалавек, немагчыма аддаліцца, цяжка зірнуць адстароненымі вачыма. Таму, колькі ні рабіў я спроб намаляваць партрэт, не атрымлівалася нічога вартаснага. Аднаго разу ў інстытуце, калі я ўшчыльную вывучаў кубізм з ягоным жывапісным рэчывам, адзін сівагаловы мастак спытаў: «А маці сваю ты таксама будзеш раскладаць на квадраты і кубікі?» Малаадукаванасць выкладчыка не ўразіла — большасць з іх невукі, але нетактоўнасць абурыла, нібыта ён вылаяўся на маю сям'ю. Спрачацца я не стаў. Адзначыў сабе, што партрэт мамы я абавязаны намаляваць, і ўсё тут. Намаляваў. Выпадкова. Не малюючы намаляваў. Знайшоў яго сярод старых накідаў да вітражу ў сабор Успення Дзевы Марыі. Шукаючы вобраз Божай Маці, у 1982 годзе я зрабіў безліч эскізаў. Сярод іх знайшлася маленькая акварэль, на якой намалявалася не Дзева Марыя, а мая маладая мама. Тады і не заўважыў. Ёсць у мастацтве чароўнасць — здатнасць твораў жыць незалежна ад стваральніка.

*Маўчанне*

Па тыдні, а то і па два я не гаварыў з мамаю, а яна са мною. «Мы не гаворым»,— казаў я брату ці бацьку. «Чаму?» — «Не гаворым, і ўсё!» Прычыны сапраўды былі дробязныя, мізэрныя. Пэўна, мы стамляліся ад любові, ад шчырасці і цеплыні ўзаемаадносін і пераставалі размаўляць, каб адпачыць. «Дом для цябе — толькі месца начлегу. Прыбег, паспаў і збег»,— дакарала мама. Я замаўкаў, бо любіў свой прапахлы алейнымі фарбамі, застаўлены чарапамі і кнігамі, завешаны палотнамі і малюнкамі пакой. Бацькі дазволілі ператварыць яго ў майстэрню. А тут — начлежка. Крыўдна. Выйсці з маўчання цяжэй, чым апынуцца ў ім. Але мы выходзілі: побыт дае шмат нагоды загаварыць. «Валодзя, вынесі смецце!» — «Зараз, а ты каву звары». Каву п'ём разам і гаворым доўга, бо так шмат адбылося ўсяго ўсялякага, пакуль маўчалі.

*Лекі*

Праца. Камандзіроўкі. Масква. Вільня. Мітусня. Мінск. Вільня. Масква. За справамі маму не бачу. Пагавару па тэлефоне і супакоюся, нібыта адведаў. Мама пра тату сказала, што ягоныя рэчы стаяць на месцы, толькі лекі сардэчныя яна ўзяла і прымае. «Ён дазволіў. Прыйшоў у сне. Я паскардзілася на кепскі стан, на тое, што на вуліцу тры дні не выходжу, і запасы таблетак і кропель скончыліся. «Бяры мае,— ён так сказаў,— бяры мае». Узяла. Мне лягчэй».

*Талерачка*

Мама расказвае, што адным з першых маіх слоў было настойлівае «дай». Гаварыць я пачаў у дзевяць месяцаў, любіў сядзець на маміных руках і казаць: «Дай!» Патрабаваў усё чыста: і гадзіннік з гіркамі, і забіты ў сцяну цвік. Баба Ядзя абцугамі выдзірала той цвік і давала першаму ўнуку. Апагеем «дай» стала талерачка. «Дай мне талерачку з неба!» — запатрабаваў я ў мамы і паказаў на поўню. Яна смяялася. На гэтым мае «дай» і скончыліся, бо калі нешта прасіў, усе дадавалі: «І талерачку з неба».

*Сур'ёзнасць*

Наколькі я сур'ёзны, цяжка сказаць. Пэўна, настолькі, наколькі падобны да бацькі. Тата быў суцэльна сур'ёзны. Нават іронію ён скарыстоўваў, каб захаваць у недатыкальнасці сваё грунтоўнае стаўленне да жыцця. Мама, наадварот, любіла і любіць жыццё такім, як ёсць тут і цяпер. Яе аптымізм ураўнаважваў татавы песімізм і нігілізм. Маміна паглыбленасць у побыт, у матэрыю, у сучаснасць аказалася насамрэч больш сур'ёзная і запатрабаваная за нашы з татам надзеі, вечна няспраўджаныя, планы, заўсёды недавыкананыя, захапленні і расчараванні. На мамінай, а не на татавай сур'ёзнасці трымалася і трымаецца наша вялікая сям'я. Наша сур'ёзнасць у творчасці — толькі цень вялікай любові да мамы.

*Радзімка*

На безыменным пальцы левай рукі ў маёй мамы ёсць маленькая радзімка цьмяна-залацістага колеру. Такая радзімка была ў бабы Ядзі, якая навучыла маму ў цяжкія хвіліны дакранацца да яе, каб адчуць дапамогу. Такая ж чароўная радзімка ёсць і ў мяне. Калі мне кепска, я дакранаюся да радзімкі, і свет цяплее, маркота развейваецца — мама дапамагае мне.

*Мамін сын і татаў сын*

Была ў дзеда дачка, была ў бабы дачка... Так пачынаецца не адна беларуская казка. Падобным чынам можна распавесці і пра нашу сям’ю. Ёсць татаў сын і ёсць мамін сын. Татавым сынам усе называюць брата Міраслава. Ён і падобны да таты, і любіў яго тата болей. Я — мамін сын. Спачатку (я ж старэйшы за брата на сем гадоў) мне пашчасціла пабыць адзіным любімым Вовачкам і ў мамы, і ў таты. Калі ж мама пагадзілася купіць мне браціка, сказаўшы, што нарэшце назбірала грошай, тата засумняваўся. Маўляў, ці хопіць у яго любові, каб так моцна любіць некага іншага, як ён любіць мяне... Ніхто ніколі не дакараў тату за тыя сумневы, акрамя яго самога. Міраслаў адразу ж, з першага свайго дня, стаў татавым сынам. Цяпер, калі тата сышоў у краіну вечнай цішыні, мы абодва — маміны сыны.

*Падарункі*

Калі тата не меў сяброў, дык у мамы заўсёды было і цяпер ёсць шмат сяброўак. Мама ўмее сябраваць, умее захоўваць таемныя гісторыі, умее слухаць і суперажываць. На дзень нараджэння ёй тэлефануюць з усяго свету. Без перабольшвання. Эня з Нью-Ёрка, Ада з Адэсы, Галіна з Берліна. Завядзёнкі дасылаць падарункі ў гэтых сціплых кабет няма, па іх сродках і званок абыходзіцца нятанна. Таму Галіна прыдумала гульню. Яны з мамаю заходзілі ў ювелірную краму і на словах дарылі адна адной найкаштоўнейшыя ўпрыгажэнні. «Я дару

табе, Ніначка, вось гэты пярсцёнак з дыяментам!» — «А я табе, Галачка, дару залатыя завушніцы з рубінамі!» Абдораныя і вясёлыя яны пакідалі краму. Цяпер Галя распавядае маме пра берлінскую краму з кветкамі, быццам яны заходзяць туды і выбіраюць маме на падарунак пяць крэмавых руж. У гэты час я, чалавек, які амаль ніколі не дорыць кветак, зайшоў у падземны пераход і набыў пяць крэмавых руж. Мама вельмі здзівілася букету і пераказала размову з Галінаю.

*Ззянне*

Ралан Барт у сваёй кнізе «Камера», разважаючы пра ўздзеянне фатаграфіі на чалавека, прыйшоў да высновы, што найкаштоўнейшым здымкам асабіста для яго з'яўляецца партрэт маці. Ні адзін іншы чалавек не зможа адчуць і зразумець той таемнай сілы, якая сыходзіць на яго праз гэты, для ўсіх астатніх звычайны, партрэт. Барт пісаў пра фотамастацтва пасля смерці сваёй маці, а таму не мог параўноўваць фота з арыгіналам, цень з постаццю. Дзякуй богу, мая мама жыве, і я магу бачыць светлае ззянне, якое зыходзіць ад яе. Светлыню тую не зафіксуе ніводная камера, яе бачу толькі я.

*Прозвішча*

У мамы незвычайнае прозвішча — Глобус. Яе бацька паходзіць з Капыльшчыны, з вёскі Жыліхава. У энцыклапедыі можна прачытаць пра яе некалькі радкоў: «Жыліхава, вёска ў Бучацінскім с/с Капыльскага р-на Мінскай вобл. Цэнтр калгаса. За 32 км на Пд ад Капыля, 149 км ад Мінска, 13 км ад чыг. ст. Цімкавічы. 590 ж., 240 двароў (1997). Сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі». З гэтых сціплых звестак зацікавіла апошняя. Кіраўніком аддзялення сувязі ў пасляваенны час працаваў Уладзімір Глобус, мамін бацька. Даведалася яна пра тое ў 1970-х, калі мой тата ўгаварыў яе з'ездзіць на радзіму. Мама нарадзілася ў тым Жыліхаве ў 1934 годзе. Адносіны паміж яе бацькамі не склаліся. Баба Ядзя казала, нібыта Глобус загінуў на савецка-фінскай вайне. Пэўна, праз гэта мама не вельмі любіць сваё прозвішча і, калі злуецца,

кажа мне: «Ніякі ты не Глобус, ты — Адамчык». Мне падабаецца маміна прозвішча, настолькі, што свае літаратурныя творы і малюнкі падпісваю ім з 1977 года.

*Бібліятэкі*

З усіх бібліятэк найлепшай была тая, дзе працавала мама. Спачатку — бібліятэка ў будаўнічым трэсце № 4, пазней — у школе № 16, нарэшце — у Саюзе пісьменнікаў. Цяпер маці на пенсіі, жыве сярод кніжак, сабраных татам. У бібліятэкі я амаль не хаджу, чытаю куплёнае. Калі што трэба, у бібліятэку ідзе сакратарка. Бібліятэка без мамы для мяне не бібліятэка. Кніжны свет змяніўся за апошнія гады, у ім паменела таямніц. Бібліятэкі маміных часоў вабілі якраз забароненымі выданнямі, сховамі-турмамі для кніжак. Мама дазваляла мне чытаць усё, і я ўдзячны за давер.

*З натуры*

Калі напісалася апавяданне «Ма-ма», я паказаў яго тату. Ён сказаў, што пісаць на такія тэмы трэба пазней, калі яго з мамаю не будзе. У тэксце пераказвалася гаворка з маці, якая ўспамінала сваіх маму з бабуляю. Татава заўвага збянтэжыла. Жаданне пісаць з натуры пра блізкіх людзей знікла надоўга. Цяпер я шкадую. Дарма не напісаў словы пра тату, калі ён яшчэ быў сярод нас. Пісанне з натуры — найвыдатнейшы занятак, вынайдзены чалавекам. Праз яго мы бачым сябе такімі, як ёсць, а не вымалёванымі памяццю і ўяўленнем. Некалі Уладзімір Караткевіч прасіў, каб я напісаў пра яго праўду пасля смерці. Даючы згоду, я не ведаў, што не бывае праўды пасля смерці. Ёсць праўда смерці. Яе я апісаў падчас адыходу таты ў край цішыні. Ёсць праўда жыцця. Да яе імкнуся, пішучы гэты партрэт мамы.

*Гонар*

Мама ганарыцца сваімі дзецьмі, гэта натуральна. Я разумею сапраўднасць і шчырасць яе пачуццяў. Сам, тым не менш, такога гонару за дзяцей яшчэ не адчуваю. Наадварот, заўсёды ганарыўся сваімі бацькамі: татам і мамаю.

*Знішчэнне кніжак*

У людзей, далёкіх ад бібліятэчнай справы, складаецца ілюзія, што кніжкі жывуць доўга. Памылковая думка. Кніга, калі яе прачытае дзесяць самых акуратных людзей, развальваецца і падлягае спісанню. Колькі такіх зачытаных кніжак мама здала ў макулатуру! Гэта натуральны працэс, а было і іншае. Прыходзіў загад знішчыць кнігі новыя, і нават яшчэ нікім не чытаныя. Калі пачалася вайна з Кітаем, маму прымусілі зняць з паліц не толькі трохтомнік Маа, але і кітайскую кулінарыю, і гісторыю кітайскай літаратуры. Што змагла, мама перахавала, ды большасць кніжак вывезлі на сметнік, дзе ўжо гарэла вялізная, зробленая бульдозерамі гара паперы і кардону. Ці плакала мама, гледзячы, як гараць кнігі?.. Не. Яна схавала ў сумку том гісторыі кітайскай літаратуры, які падарыла мне.

*Булачкі*

Мама — самая прыгожая, мама — самая разумная, мама лепш за ўсіх гатуе. Я доўга не мог выбраць найсмачнейшую з прыгатаваных мамаю страў. Дранікі залатыя з лоем. Калдуны духмяныя са смятанаю. Чырвоны боршч з грыбамі. Кава патурэцку з драбочкам цукру. Столькі ўсяго! А бліны! І ўсё ж найсмачнейшымі былі булачкі. Пэўна, з-за ўдзелу ў працэсе. Белага хлеба на пачатку 1960-х у Беларусі не было. Муку выдавалі на святы па талонах. Мама атрымлівала папяровыя пакеты і, не чакаючы свят, замешвала цеста. Я каштаваў сырое салодкае цеста, здавалася, з’еў бы яго ўсё. Толькі мама забараняла. Мы сядалі насупраць духоўкі і час ад часу заглядалі ў яе. Водар салодкіх маміных булачак — найсмачнейшы ў

свеце. Я так доўга не мог вызначыцца са страваю яшчэ і з-за таго, што ў дзяцінстве і ў маладосці кепска еў. Не любіў я есці. І што б мама ні згатавала, казаў: «Не смачна», «не хачу», «не буду». Колькі крыўдных слоў пачула ад мяне мама на кухні! Процьму. Сорамна.

*Чаканне*

Самым цяжкім у дзяцінстве было чаканне мамы. У дзіцячым садку чакаў, калі ж яна прыйдзе і забярэ. У летніку — калі яна прыедзе, каб пагуляць са мною. У бабы Ядзі — калі павязе з Койданава ў Мінск. У нядзелі — калі яна вернецца з працы, бо ў маміных бібліятэках выхадны прыпадаў на аўторак. Я высоўваўся ў фортку, каб далей бачыць вуліцу, па якой вярталася мама. А калі ў мяне забалелі вушы і я тыдзень праседзеў на бабіным ложку з закручанай у хусткі галавою, мне ўсё здавалася, што толькі прыедзе мама — і вушы адразу перастануць балець. Так яно і выйшла. Мама прыехала, і боль сціх. Самая шчырая радасць, якую толькі давялося адчуць за жыццё, гэта хваля цяпла, што накрывала мяне з галавою пры сустрэчы з маёю мамай Нінаю.

*Рэдактура*

Мама просіць мяне, каб не рэдагаваў татавы лісты і дзённікі. Тлумачу, што рэдагаванне неабходнае. Без яго не абысціся. Прапушчаныя літары, недакладныя коскі з кропкамі, паўторы слоў — гэта ёсць у кожным рукапісе, але не мусіць быць у друкаваным тэксце. Прыхарошваць і цэнзураваць татавы творы я не збіраўся. Мама ведае пра гэта, ёй проста хочацца пагаварыць са мною пра яго.

*Ёсць ці няма*

Навокал шмат цынізму, процьма нігілістычных і песімістычных настрояў. Даходзіць да таго, што адукаваныя людзі кажуць: «Мяне няма!» І далей... Нас няма, адказнасці няма, злачынства няма... Мушу спытаць у такога: «А мама ў цябе ёсць?» У мяне мама — ёсць.

*Заклейванне вокнаў*

Цяжка растлумачыць у час татальнай замены драўляных аконных рам на шклопакеты, што такое заклейванне вокнаў на зіму папяровымі стужкамі. Драўляныя рамы мелі такую непрыемную звычку — рассыхацца. Утвараліся шчыліны, з якіх увосень пачынала дзьмуць так, што скавышы гулялі па ўсёй кватэры. У крамах прадаваліся рулоны папяровых стужак. Мама купляла іх, варыла крухмал. Мы з ёй і заклейвалі рамы. Стужкі вытрымлівалі зіму, а ўвесну, напрыканцы красавіка, са шкляным трэскам я абдзіраў пажоўклую паперу, і мы з мамаю мылі вокны і рамы. Мыццё вокнаў і абдзіранне стужак — не такі просты занятак. Калі гэта рабіць у халодны, хай сабе і сонечны дзень, можна лёгка падхапіць запаленне ці ангіну. Але мама вельмі дакладна вызначала дзень мыцця вокнаў, і мы ні разу не захварэлі. Тата ніколі не абклейваў рамы і не мыў вокнаў. Яго раздражняў скрыгат сухой паперы па шкле. Ён сыходзіў з кватэры. Мыццё вокнаў — маё з мамаю свята. Цяпер мае вокны мые пакаёўка. Яна чамусьці прастужваецца, бо не ўмее вызначыць цёплы дзень, не адчувае яго.

*Кветкі і вазы*

Чаму ў нашым доме было мала раслін і кветак? Не магу адказаць. Мама іх вельмі любіла і любіць. У бібліятэках, дзе яна працавала, заўсёды раслі амарылісы і розныя іншыя кветкі. А ў кватэрах зелянеў мясісты і калючы альяс. Мы адломлівалі яго лісты-шчупальцы, каб закапаць густы сок у закладзены прастудаю нос. Дапамагала. Гаючая расліна — альяс. А кветкі? Іх не было і ў шматлікіх збанках і вазах, што мама назбірала. Ведаю, вельмі прыгожа глядзіцца доўгая галіна вішні ў квецені, пастаўленая ў высокую вазу, непараўнальна выглядаюць белыя нарцысы ў крышталёвай шклянцы, цёмна-чырвоная лілея грыцыёзна стаіць у гліняным гладышы. Ведаў — і ніколі не прыносіў дамоў кветкі. І тата не прыносіў, і брат. Расліны і жывёлы з’яўляліся ў нашым доме выпадкова і на кароткі час. Толькі альяс, які яшчэ называюць сталетнік, прыжыўся на маміным падваконні.

*Просьбы*

Як мы не любім прасіць! Жах як не любім. І не просім. Адстойваць сваё? Калі ласка. Патрабаваць належнае? Абавязкова. А прасіць. І давялося прасіць. Кватэру. Мне. Дзве сям'і на адной кухні... Хто не ведае, няхай і не ведае. Мы пайшлі да чыноўніка. Той сказаў, што ў кабінеце на такую далікатную тэму гаварыць не будзе, што мы мусім пачакаць у скверыку пасля працоўнага дня. Мама і я чакалі. Ён падышоў з самазадаволеным выглядам і сказаў, што нічым дапамагчы не зможа, паспрабуе, але не зможа, пастараецца, але нічога не выйдзе. Я ўзненавідзеў яго і сябе — за тое, што маме давялося прасіць гэтую паўразбураную пыхаю, алкаголем і абжорствам пачвару. Кватэру мне далі, насуперак усім пачварам і пачваркам. Яе даў значна большы чыноўнік, які з павагай ставіўся да бацькавага літаратурнага таленту. І каб тата мог працаваць, мяне з дзецьмі і жонкаю адсялілі. На ўскраіну. Прасіць некага аб нечым я зарокся, а тым больш прасіць маму, каб яна ў некага нешта прасіла.

*Даросласць*

У дзяцінстве вельмі хацелася хутчэй вырасці і стаць дарослым. У кожнага чалавека існуе пэўная незадаволенасць фізічным станам. Але мая найбольшая незадаволенасць прыпала менавіта на дзяцінства. Пагаварыць з татам на падобныя тэмы не атрымлівалася, заставалася мама. Ёй трэба было давесці маю мужчынскасць і дарослаць. І я давёў. На выхадныя маму запрасілі на пікнік у коласаўскую вёску Мікалаеўшчына. Цэлы аўтобус будаўнікоў выправіўся адпачываць і весяліцца. Хто ехаў рыбу лавіць, хто — грыбы збіраць, хто — гарэлку піць каля вогнішча. Мама ўзяла мяне ў рамантычнае падарожжа. Пачалося ўсё з чытання паэмы «Новая зямля», а дэкламаваў класічныя вершы малодшы брат Якуба Коласа дзядзька Юзік. Крышку па-настаўніцку ён выглядаў, але мне спадабалася апавяданне пра тое, як Колас на ўласныя грошы збудаваў школу. Непадалёк ад той школы і пераплыў я Нёман. Пайшоў адзін на рэчку. Пераплыў на другі бок і

вярнуўся гэтаксама назад. Прыйшоў да мамы, якая гатавала на вогнішчы вячэру, і сказаў: «Я Нёман пераплыў, я — дарослы!» Сапраўды, я стаў дарослым, бо мама не сварылася, а толькі папрасіла больш не плаваць аднаму, бо рэчка хуткая, з вірамі, з крыніцамі — можна патануць.

*Пярэпалах*

Адзін з першых успамінаў, звязаных з мамаю, вельмі непрыемны. Плачу, плачу, крычу і не магу супакоіцца. Прыйшла цётка Пэля, схілілася нада мною і зашаптала, загаварыла пярэпалах. Запомнілася сутарга ад крыку. Пазней мама раскажа, як хадзіла карміць маіх малочных сясцёр, Іру і Тому, дачок дзядзькі Чэся. А ў таго быў вялізны злы сабака. Ён гыркнуў на маму, тая пералякалася, пасля пераляку і пакарміла мяне. Жах праз малако перадаўся мне — васьмімесячнаму немаўляці. Цётка Пэля ўшчувала маму за тое, што накарміла дзіця «перапалоханым малаком». Хто ведаў, што страхі захоўваюцца ў малаку? Толькі чараўніца Пэля навучыла, што пасля сполаху малако трэба сцэджваць. Дурнога сабаку, які раз-пораз зрываўся з ланцуга і палохаў усю вуліцу, дзядзька Чэсь прыбіў.

*Трывогі*

Мама перажывала і перажывае за мяне і за Мірыка. Толькі калі яна перажывае за мяне, я не бачу яе гора і пакут. А вось яе трывогі за Мірослава я бачыў і суперажываў. Аддаць любімага сына ў салдаты — як гэта горка! Пагатоў, калі ідзе вайна, і ён можа апынуцца на фронце ў Афганістане. Міраслаў напісаў з войска, што яны трэніруюцца ў гарах. Мама сабрала валізу з прадуктамі і паехала ў Чарнаўцы, дзе Мірык займаўся ў вучэбцы. Паехаў з мамаю і я. Брат быў вельмі худы, твар счарнеў, ён засынаў на хаду, чым ганарыўся: «Магу ісці і спаць!» Мама сустрэлася з афіцэрамі, падаравала ім прадукты і каньяк. Тыя, выдаўшы ваенную таямніцу, сказалі, што могуць размеркаваць Міраслава толькі ў тры месцы: у Афганістан, у ахову турэмных цягнікоў або ў Чэхаславаччыну. Выбралі апошняе...

Падобнае здарылася з маім дзедам Уладзімірам, калі немцы ўзялі яго ў закладнікі, а баба Броня выкупіла яго за тры скруткі палатна. Якое таннае чалавечае жыццё, калі яго можна памяняць на каўбасу з каньяком або на скрутак палатна!.. І якая вялікая любоў павінна быць, каб тое здзейсніць насуперак законам і акалічнасцям.

*Мода*

Мама ніколі не была модніцаю. Вядома, яна апраналася лепш за ўсіх, як для мяне. Модным і стыльным хадзіў тата. У яго былі гарнітуры і чаравікі, прывезеныя з-за мяжы. А мама любіла нашае. Толькі аднойчы яна доўга насіла модны плашч. Цяпер гэта выглядае дзіўным. У сярэдзіне 1960-х пачаўся бум балоневых дажджавікоў. Цёмна-брунатныя, зеленавата-балотныя, чорна-сталёвыя плашчы з сінтэтычнага, падобнага да цэлафану рэчыва захапілі свядомасць насельнікаў СССР. Калі ты не меў балоневай апранахі, ты быў не зусім чалавекам. Тата прывёз маме з Масквы брунатна-шакаладны плашч. «Яго можна скласці ў сумачку і надзець, калі пойдзе дождж». Жанчыны толькі і чакалі гэтага дажджу, каб дастаць і надзець наймаднейшае. Я вельмі любіў маму ў шакаладным плашчыку. А яна ганарылася тым, што тата здалёк прывёз ёй такую модную рэч... Некалькі гадоў таму тата падараваў маме выдатнае футра. Яна вельмі радавалася падарунку, але насіць не насіла. Надзела колькі разоў і павесіла ў шафу, а потым і зусім перадарыла яго ўнучцы, маёй Ядзі. Сумна, калі такія рэчы перадорваюцца. І сказаць нічога не скажаш.

*Ідэалізацыя*

Ці ідэалізую я вобраз мамы? І так, і не. Каго яшчэ мне любіць і ўсхваляць, як не яе? Тату? Я спазніўся са словамі прыязнасці і павагі. Таты няма з намі. Адной з прычын яго хуткага згасання была любоў да алкаголю. Мама страшэнна перажывае і нервуецца, калі даведваецца, што я ці брат выпіваем. Не гавару з ёю на тэму п’янства. А яна мяне папя-

рэджвае: «Бачыла сон, як цябе сустрэў наш сусед Караткевіч (ён таксама заўчасна пакінуў гэты свет праз гарэлку), як ён паклікаў цябе пайсці разам з ім. Я прачнулася і не змагла заснуць ажно да раніцы. Так што, наліваючы чарку, ведай: гэта ён цябе кліча». «А тата мяне не кліча?» — падумаў я і змаўчаў. Нікога я не ідэалізую: ні сябе, ні маму сваю.

*Споведзі*

Калі думаць, што ў бібліятэку прыходзяць адно разумныя і выхаваныя людзі, можна моцна памыліцца. Наколькі кніжкі трапляюцца разнастайныя, настолькі стракатыя ў іх і спажыўцы. Што ўжо казаць пра чытачоў часопісаў ды газет! Асабліва надакучлівыя прыходзяць напрыканцы працоўнага дня. Мама сабралася зачыняцца, а тут увальваецца нейкі чытач з гучным голасам і пачынае на ўсё памяшканне пераказваць газетныя навіны. Бібліятэка — ціхае месца, ці прынамсі мусіць быць такім. З'яўленне шумлівага чытача і нясвоечасовае і недарэчнае. Але паспрабуй скажы, што бібліятэка зачыняецца. Мама і не казала. Ну няма дзе выгаварыцца чалавеку! Цэрквы і касцёлы пазачыненыя стаялі. Вось і хадзілі людзі ў бібліятэку, да маёй мамы, як на споведзь. Хто навіны пераказаць, а хто пра самае патаемнае распавесці. Мама нікому ніколі тыя споведзі не пераказвала, чым вельмі ганарылася і ганарыцца дасёння. А калі хто і быў навязлівы і надакучлівы, дык яна спакойна трывала і такіх.

*Вока*

За маміну прыгажосць я перажываў заўсёды больш, чымсьці за яе здароўе. Лічыў, што знешнасць і адлюстроўвае яе стан. Наколькі памыляўся, яшчэ пытанне. Калі мама адчувае сябе добра, яна і выглядае выдатна. Сам такі. Таму, калі ў мамы захварэла вока, я заперажываў. Яно нібыта выкацілася наперад, зрабілася вялікім, немірготкім. Ягоная нерухомасць і блакітная празрыстасць палохалі мяне. А тое, што мама з хворым вокам хадзіла ў сваю бібліятэку,— абурала. «Ну што ты ходзіш на працу? Пабудзь дома!» — «Ну

як гэта людзі застануцца без кніжак, без часопісаў новых, без свежых тыднёвікаў? Сам падумай!» Маміна вока мне, бясспрэчна, даражэйшае за ўсіх яе чытачоў, але забараніць ёй хадзіць на працу не змог. А трэба было б. Добра, што вока вылекавалася, а маміна прыгажосць вярнулася.

*Помнік і лавачка*

Які помнік паставіць на татавай магіле? Мы з братам бясконца гэта абмяркоўваем. Крыж? Камень? Які надпіс? Ці скульптуру рабіць? Ці архітэктару праект замовіць? Знаёмыя не надта ахвотна гавораць на тэму могілак і мемарыялаў. Ці то пабойваюцца. Ці то занадта асабістай справай лічаць. Мама сказала: «Рабіце што заўгодна, а мне толькі лавачку пастаўце». Атрымалася — лавачка пры татавай магіле на Кальварыйскіх могілках і ёсць галоўнае ў помніку, астатняе можа быць якім заўгодна, а лаўка мусіць быць найлепшай, бо яна — для мамы.

*Чаравікі*

«Мама, а чым ты чысціш чаравікі?» — спытаў брат, калі мы, папіўшы гарбаты, абуваліся і збіраліся сыходзіць. «Нічым не чышчу, абціраю вільготнай анучкай і ўсё. Тата займаўся абуткам, і сваім і маім»,— мама заплакала. Бацькі пражылі разам сорак чатыры гады, мама ўсё яшчэ не змірылася з татавай смерцю, не можа рабіць тое, што звычайна рабіў ён. Балюча на гэта глядзець, горка пра тое думаць.

*Адметнасць*

Сваю адметнасць мама заўсёды імкнулася схаваць. Непадобнасць да іншых была ў яе з самага маленства. Прозвішча Глобус інакш як дзіўная мянушка не ўспрымалася, упартасць асуджалася, любоў да кніжак ніхто не ўхваляў. Пагаварыць пра Чарльза Дзікенса і ягоны Лондан не было з кім. Таму мама пачала хаваць уласную непадобнасць. Яна звычайна апраналася, хадзіла на звычайную працу, гатавала звычайныя стравы.

З усяго незвычайнага навідавоку ў яе засталося прозвішча, але хто ў нас цікавіцца прозвішчам замужняй жанчыны? Ніна Уладзіміраўна для ўсіх знаёмых была жонкай Чэся Адамчыка, і, адпаведна, Адамчыхай. Пра яе незвычайную дабрыню, такт, розум ведаюць, збольшага, толькі блізкія людзі.

*Наваградская кнігарня*

Адным са шматлікіх вынаходак «бацькоў» савецкага ладу жыцця было раўнамернае размеркаванне кніжак па кнігарнях. У нас усе роўныя, і кніжак, як хлеба і солі, атрымаюць пароўну, за выняткам спецразмеркавальнікаў для начальства. Пра чыноўнікаў апушчу. А пра наваградскую кнігарню распавяду. Нічога не маю злога да наваградцаў — наадварот, іх вельмі люблю і паважаю: яны ж яшчэ і татавы землякі. Але нашто было рабіць у Наваградку асартымент кнігарні такі самы, як і ў сталічнай, даўмецца не магу. Так было ў 1970 годзе. Мама, як убачыла стэлажы дэфіцытных кніжак, узрадавалася. Пайшла і дамовілася з загадчыцаю кнігарні, што яна адкладзе патрэбныя для бібліятэкі выданні, а потым з Мінска пералічыць грошы і кнігі забярэ. Мама наадкладала тамоў 500. Цешылася, як дзяўчынка. І я радаваўся з мамаю, а тата скептычна заўважыў, што нічога ў мамы не атрымаецца, кніжкі застануцца гібець у Наваградку. Мама заспрачалася, і дарэмна, бо выйшла па-татаву. Чыноўнікі-начальнікі не дазволілі мінскай бібліятэцы камплектавацца ў нейкім там Наваградку. Мама, ледзь не плачучы, патэлефанавала загадчыцы крамы, але тая нічым дапамагчы не змагла.

*Вязанне*

Вязанне пруткамі і кручком, безумоўна, жаночы занятак. Мне вельмі падабалася, як мама вяжа. Любіў я клубочкі і маткі нітак. Дапамагаў змотваць маткі ў клубочкі. У часопісах і кніжках пра вязанне падоўгу разглядаў узоры розных вязак. Нават навучыўся накідваць петлі на пруткі, далей за накідванне петляў навучанне не пайшло. А болей за ўсё маё сэрца ахоплівала радасць, калі распускаў звязанае і акуратна

змотваў нітку ў шчыльны клубок. Калі маме не падабалася звязанае, яна клікала мяне, каб распусціў. У гэтым распусканні я стаў, безумоўна, майстрам, такім жа добрым, як у вязанні мама.

*Першы дзень вясны*

У першы дзень вясны мама ад самае раніцы адчыняла дзверы на гаўбец і ўмывалася снегам. І нас мыла чыстым снегам. Вельмі паэтычна з надыходам вясны абмыць твар і рукі іскрыстым сняжком. Цяпер такія зімы, што і снегу няма. Але калі зноў зіма надыдзе доўгая, марозная і снежная, я першага сакавіка абавязкова ўмыюся снегам і павіншую маму з першым днём вясны.

*Уцёкі*

Шмат разоў я ўцякаў з дому, таму выдатна разумею ўсіх малалетніх бадзяг. Дома ўсё кепска, а свет такі вялікі. Адзінае, чым мой час дзяцінства адрозніваўся ад цяперашняга — у ім зусім не было беспрытульных дзяцей. Уцякаць даводзілася аднаму. Першы раз я збег зімою, калі вучыўся ў трэцім класе. Намеры былі самыя рашучыя. Мароз лютаваў. Рукавіцы я не ўзяў, забыўся. Пакуль дайшоў да вакзала, рукі абмерзлі. Ехаць без квітка я збаяўся, давялося вярнуцца. Мама, як убачыла мае чырвоныя рукі, аж заплакала. Павяла мяне ў лазенку. Пусціла ваду. Сказала: «Не бойся, яна халодная, а табе будзе здавацца, што гарачая». Сапраўды, было такое адчуванне, нібыта рукі сунулі ў кіпень. Мама расцірала мае рукі ў халоднай вадзе, боль паціху сплываў. Мама ў мяне такая добрая, любіць мяне... Чаго было ўцякаць?

*Каханне*

Мама любіла тату, а ён — яе. Але гэта не вобраз іх кахання. Словы, якія кожны ці амаль кожны можа сказаць пра сваіх бацькоў. Мне хацелася стварыць вобраз, і я доўга ўспамінаў, як мама распавядала пра тату. Згадаўся і такі выпадак. Яны,

толькі пажаніўшыся, паехалі да татавых бацькоў. Было спякотнае лета. Яны прыехалі ў Наваельню. Да татавай вёскі было кіламетры тры. Можна было пайсці па напаленай сонцам дарозе, а тата прапанаваў маме ісці па рэчцы. Яны разуліся і пайшлі, узяўшыся за рукі, па празрыстай і халаднаватай вадзе Ятранкі. Яна неглыбокая, дно — залаты пясок. Мама казала, што гэтае падарожжа па рэчцы, у засені алешніку і вербаў,— найлепшае ў яе жыцці... Калі тата пісаў пра сваю рэчку: «Яна цячэ праз маё сэрца», ён пэўна згадваў і як яны з мамаю ішлі па ёй, узяўшыся за рукі, такія прыгожыя і маладыя, як мае дзеці цяперака.

*Іспыт*

Мама грунтоўна рыхтавалася да іспытаў. Стыпендыя была жыццёва неабходная. Сям'я дапамагчы не магла. Маміна маці, Ядзя, пасля разводу з Глобусам выйшла за Броніка Кісяля і нарадзіла Антона і Рэню. У паваенным Койданаве грошы не вяліся. Бронік вярнуўся з фронту паранены, ледзь жывы. Таму мама вучылася на выдатна, і іспыты для яе мелі лёсавызначальнае значэнне.

Вярнуўшыся з бібліятэкі ў інтэрнат, яна пераапранулася ў сваім пакоі, дзе жыло ажно дваццаць дзяўчат, і пайшла на кухню, каб запарыць гарбату на вячэру. А там нейкая першакурсніца пытаецца: «Ніна, ты маму бачыла?» — «Маму?» — «Твая мама прыязджала, уся ў чорным». Мама пабегла ў свой пакой, а дзяўчаты пагасілі святло і ўдавалі, што спяць. Мама казала, што ніколі ў жыцці ёй не было так страшна, як стаяць у цёмным пакоі, дзе ляжаць пад коўдрамі дзевятнаццаць сяброўак. «Яны робяць выгляд, што спяць. Я не ведаю, што спытаць. Нешта здарылася. Нешта жахлівае. Што? З кім? Мама ў чорным».— «Ды скажыце вы, што здарылася?!» — закрычала мама з цемрадзі. Дзяўчаты запалілі лямпачку, пачалі супакойваць маму. Расказалі, што прыязджала яе маці, бо памерла баба Марыя, і папрасіла, каб да іспытаў нічога не казалі, а сказалі пасля. Мама ноч не спала. Першай прыбегла ў інстытут, атрымала пяцёрку і паехала на пахаванне любімай бабулі Марыі.

*Паніва*

Ёсць здарэнні, пра якія не ведаю, як напісаць. Галоўнае — я зусім не ўпэўнены, ці варта згадваць пра іх наогул. Але яны навязліва запаўняюць сабой маю свядомасць і захінаюць іншыя згадкі. Яны патрабуюць: напішы пра нас, напішы! Адкладаю, наколькі магу. А потым скараюся. Адно з такіх здарэнняў — выпадак з панівою. Мама ў студэнцкім інтэрнаце смажыла бульбу. А вельмі самаўпэўнены маладзён, са знакамітай артыстычнай сям'і, пачаў непрыстойна сябе паводзіць. Ягонае хамства давяло маму да таго, што яна вывернула яму паніву з салам і бульбаю на галаву. Як не выпаліла вочы, ніхто не ведае. Цудам хлопец не стаў калекам. На наступную раніцу ў інтэрнаце з'явілася прыма Купалаўскага тэатра — Стэфанія. Яна спрабавала сварыцца на маму, а тая сказала, што калі яшчэ раз яе сын палезе з заляцанкамі, дык застанецца не толькі без скуры, але і без галавы, і прынясуць яго дамоў безгаловага. Артыстка абяцала паспрыяць выгнанню мамы з інстытута. Марныя былі запалохванні.

Напісаўшы пра паніву, не адчуў я палёгкі. Можа, пазней адчую. Спадзяюся.

*Матылі*

У нашым садзе над блакітнымі качанамі капусты лёталі белакрылыя і жоўта-лімонныя матылі. Іх называлі капусніцамі. Я так любіў ісці праз сад, па вузкай сцежцы, за мамаю і любавацца няўпэўнена-лёгкімі палётамі капусніц. Колькі разоў мне казалі, што матылі шкодныя, што яны ператвараюцца ў вусеняў і ядуць-шкодзяць капусныя лісты! Мне было не шкада тых тоўстых лістоў, а матылёў я любіў. Вядома, я любіў іх менш, чым маму. Але сад, мама, матылі! Што можа з гэтым параўнацца? А яшчэ — жыццё маё было наперадзе.

*Каты і сабакі*

Хто з жанчын не любіць коцікаў і сабачак? Мая мама. У яе развілася алергія на звярыную поўсць. Яна не можа

знаходзіцца ў памяшканні, дзе ёсць ці нядаўна была жывёла. Ёй робіцца кепска. Падобная алергія мучыць маю стрыечную сястру Вольгу. Яе арганізм не прымае пахаў рыбы. Аднойчы Вольга ледзь не задыхнулася, калі яшчэ дзіцёнкам схапіла ў рукі люстранога карпа. Вось і мама пачынае задыхацца ад каціных пахаў. З гэтае прычыны яна не прыходзіць да мяне ў госці. Мой кот Чарлі, куплены для Ядзі, нібыта не пускае яе. Пазбавіцца ад ката я не магу, бо Ядзі часцяком даводзіцца заставацца адной, а з коцікам не так самотна. Зрэшты, да брата Міраслава мама таксама не ходзіць, хоць у яго ні ката, ні сабакі даўно няма, толькі два шэрыя пацукі ў драцяной клетцы.

*Плач*

Заўсёды саромеўся сваіх слёз. Такі менталітэт: мужчына мусіць хаваць пачуцці, стрымліваць слёзы, быць злым і жорсткім. Такія героі ў нашых казках і аповесцях. Такіх мужчын нашы жанчыны хочуць бачыць у жыцці. Збольшага мы такія і ёсць. Я вельмі перажываю з-за таго, што прылюдна заплакаў на татавым пахаванні. Праявіў слабасць замест таго, каб з каменным тварам рабіць выгляд новага галавы сям'і. Затое маміны слёзы ўспрымаліся натуральна, як абавязковае, як неабходнае. Днямі, паміж камандзіроўкамі ў Лондан і Вільню, я забег да мамы на каву. Мы сядзелі на кухні, і мама расказвала пра сябе: «Мне так сумна без яго. Устану раніцай, пагляджу на партрэт, і слёзы душаць, але не плачу. Прыходзіць пакаёўка Алена, прыбірае, мые мне галаву, стрыжэ, робіць прычоску. А дзеля каго я такая парадная, з прычоскаю? Няма з кім пасварыцца, няма перад кім паплакаць». Мама здымае акуляры і плача. Мне прыемна глядзець, як плача мая мама. Твар у яе чырванее, робіцца жывым. Так важна, каб твар у мамы быў жывы. «Не перажывай. Я зараз сабяруся. У мяне ёсць вы, але гэта ўсё іншае. З вамі я не магу пасварыцца». Тое, што напісана тут — слабейшае за тое, што не сказана і не запісана. Плач — мацнейшы за слова.

*Жабрак*

Заўважаецца такая заканамернасць: калі дом квітнее, абавязкова ў яго прыходзяць вар'яты і жабракі-папрашайкі. І не важна, які гэта дом, палац японскага імператара ці Дом літаратара ў Мінску. Жабракі прыходзілі ў дом пісьменнікаў розныя, але адзін моцна вылучаўся сярод іх. Звалі яго Валера. Ён заходзіў у розныя кабінеты, у тым ліку і ў бібліятэку. Чамусьці ён называў маму Емяльянаўна. Пэўна, з-за таго, што доўгі час у бібліятэцы разам з мамаю працавала Еўдакія Емяльянаўна, сястра паэта Панчанкі. Мама заўсёды давала жабраку на хлеб. Прыпадкі Валеравай агрэсіі мама ўспрымала спакойна. «Ну не будзем жа мы дактароў выклікаць»,— казала яна, і вар'ят супакойваўся, прасіў прабачэння ў Емяльянаўны і хаваўся за дзвярыма.

*Бібліятэкі*

Маміны бібліятэкі былі для нас другім домам. У чытальных залах я, а пазней і Мірык рабілі ўрокі. Любіў я маляваць, схаваўшыся за кніжнымі стэлажамі. Не было такога свежага часопіса ці новай кнігі, якія я не перагортваў. А найвялікшым задавальненнем было ўзяць у мамы ключы ад бібліятэкі, прыйсці туды ў выходны дзень і доўга разглядаць і чытаць кнігі ў адзіноце, у поўнай цішыні. Тата, брат і я сапраўды лічылі бібліятэку домам. Аднаго разу я прывёў Мірыка да дзвярэй дзіцячага садка і пабег у школу. Я быў упэўнены, што ён пойдзе ў групу. Думаць не думаў, што мой малодшы брат у садок не зойдзе, а пацягнецца біць абцасамі лёд на лужынах. Хто з нас не ведае, як прыемна прайсціся па малочным шкле плыткай калюжыны? Толькі ў адной з іх была яміна, і Мірык праваліўся ў ледзяную ваду па пояс. Выбраўшыся з вады, ён павалокся не дахаты, а ў бібліятэку. І прастаяў пад дзвярыма гадзіны дзве, пакуль выхавацелька з інтэрната, які быў у адным будынку з бібліятэкаю, не знайшла яго і не патэлефанавала нам дамоў. Мірык забыўся, што па аўторках мама не працуе, а дадому не пайшоў, бо тата насварыўся б

мацней за маму. Гэта няпраўда, тата на Мірыка амаль ніколі не сварыўся. Проста маміна бібліятэка была для нас другім домам.

*Павага і любоў*

«Сынок,— кажа мама,— спачатку трэба, каб дзеці паважалі бацькоў, а бацькі любілі сваіх дзяцей. Пазней надыходзіць час, калі ўсё мяняецца: трэба, каб старыя бацькі паважалі сваіх дзяцей і любілі ўнукаў, а дзеці любілі сваіх старэнькіх бацькоў. Я вельмі ганаруся сваімі дзецьмі, і цябе паважаю». А я люблю цябе, мама.

Частка другая

# БАБА З ДЗЕДАМ

## Баба

*Камень*

Улюбёным сынам у дзедавай сям'і быў малодшы з трох братоў — Ян. Дзеля Яна дзед з бабай пасадзілі сад, дзеля яго пачалі будаваць дом у яблыневай засені. Калі зрабілі падмурак, суседзі напісалі скаргу, нібыта наш новы дом загародзіць ім сонца. Дзяржава ўзяла бок суседзяў, бо наша вёска апынулася ў спісе неперспектыўных. У такіх вёсках забаранялася будавацца. Каб скаргі не было, дык не прыехаў бы бульдозер і не пакрышыў бы падмурак. Прыпёрся, насмуродзіў сінім дымам і, зламаўшы плот, патрушчыў цэментовыя брусы. Бульдозер з'ехаў, а ўзрадаваная суседка на ўсю вуліцу ўсхваляла Бога і кляла нашых сваякоў да пятага калена. Баба Броня падняла з зямлі камень і патрапіла суседцы ў галаву. Тая змоўкла, павалілася на дарожны пыл і ляжала, пакуль

не прыехалі міліцыянты. Баба Броня сказала, што суседка сама сабе разбіла галаву, каб нас абгаварыць, бо разбуранага падмурка ёй замала. Міліцыянты вырашылі правесці следчы эксперымент, бо сведкі мяліся з абодвух бакоў. Асноўнае пытанне, на якое мусіў адказаць эксперымент: ці магла баба Броня дакінуць такі вялікі камень з таго месца, дзе стаяла, да таго месца, дзе паваліласа суседка? Колькі разоў мянты ні спрабавалі дакінуць камень, ні разу не дакінулі. Пра тое, каб пацэліць у лоб, і гаворкі не вялося. Гэтым разам улада стала на бок бабы Броні. Толькі радасці не было. Дзе ж ты парадуешся, калі твой плот, твой сад, твой падмурак пабурылі, а твой любы сын змушаны з’ехаць ад цябе назаўсёды!..

*Казка пра дзедаву дачку*

Дзедава хата. Цёмна. Не сплю, варочаюся на льняной прасцінцы. «Валодзя, чаму не спіш?» — баба Броня гладзіць мяне па галаве. «Не спіцца».— «Давай я табе казку раскажу. Слухай... Была ў дзеда дачка і ў бабы дачка. Купіў дзед бычка Трацячка. Выправіла баба дзедаву дачку пасвіць бычка і дала ёй пук верацён і пук кудзялі, каб у полі дзедава дачка нітку ссукала, палатно саткала, выбеліла і дадому гатовае прынесла. Навязала дзедава дачка бычка Трацячка ў полі, а сама села побач і плача. «Чаго ты плачаш?» — пытаецца бычок у дзедавай дачкі. «Дала мне мачыха пук верацён і пук кудзялі і загадала прынесці з поля гатовае палатно».— «Не плач. Я ўсё зраблю». З’еў бычок Трацячок пук верацён і пук кудзялі і нарабіў з яго скрутак белага палатна. На другі дзень баба дала дзедавай дачцэ дзесяць пукоў верацён і дзесяць пукоў кудзялі, а сваёй дачцэ наказала пільнаваць. Высачыла тая, што не дзедава дачка палатно прадзе і беліць, а бычок парабляе. На трэці дзень баба паслала ў поле сваю дачку пасвіць бычка Трацячка і дала ёй сто пукоў верацён і сто пукоў кудзялі. Загадала бабіна дачка бычку Трацячку з’есці сто пукоў верацён і сто пукоў кудзялі. З’еў бычок Трацячок сто пукоў верацён і сто пукоў кудзялі і стаіць. Зазірнула бабіна дачка бычку Трацячку пад хвост, ду-

мала, выйдзе з-пад хваста палатно. А бычок Трацячок абрабіў бабіну дачку з галавы да ног. Прапала сто пукоў кудзялі і сто пукоў верацён. Загадала баба дзеду зарэзаць бычка Трацячка. Пайшоў дзед нож вастрыць, каб зарэзаць бычка. А дзедава дачка пабегла да Трацячка, абняла яго за шыю і плача. «Не плач, дзедава дачка, а мяне паслухай... Калі зарэжуць мяне і скажуць табе пайсці на рэчку памыць мае вантробы, ты знойдзеш у іх залатое зярнятка. Пасадзіш яго каля хаты. З залатога зярнятка вырасце залатая яблыня з залатымі яблыкамі, яны дапамогуць табе... Спі, заўтра дакажу, як залатое зярнятка дапамагло дзедавай дачцэ і звяло са свету бабіну дачку...» — «Не хачу спаць, хачу даслухаць, як залатое зярнятка звяло са свету бабіну дачку».— «Зарэзаў дзед бычка Трацячка. Панесла дзедава дачка на рэчку вантробы, памыла іх і знайшла залатое зярнятка. Пасадзіла дзедава дачка залатое зярнятка каля хаты. Вырасла з таго зярнятка залатая яблыня з залатымі яблыкамі. Ехаў царэвіч на белым кані. Убачыў залатыя яблыкі і захацеў пакаштаваць. Яблыня ўзняла свае галіны высока-высока. Не змог царэвіч дастаць ніводнага яблычка. Папрасіла дзедава дачка яблыню, каб тая нахіліла галінку. Пакаштаваў царэвіч залаты яблык і закахаўся ў дзедаву дачку. Пасадзіў яе на каня і паскакалі яны ў палац жыць. Праз дзевяць месяцаў нарадзіўся ў іх сын Салівон. Запрасіў царэвіч на хрэсьбіны Салівона ўсіх сваякоў. Баба з дзедам прыйшлі і бабіну дачку прывялі. Пакуль госці гулялі, баба і бабіна дачка схапілі дзедаву дачку, прывязалі на шыю камень і ў рэчку ўкінулі. Расплакаўся Салівон, малака захацеў. Пабеглі госці Салівонаву мамку шукаць, пачалі гукаць. Салівон плача, малака просіць! Салівон плача, малака хоча! Пачула дзедава дачка, як плача яе сын Салівон, і адгукнулася: «Я бягу-бягу, падбягаю, камень грудзі мае прыціскае, раса вочы мае выядае...» — «Баба! Як гэта раса вочы выядае?» — «Гэта не тая раса, што зранку на траве, а тая трава, што на дне рэчкі расце, нібыта змеі зялёныя па пяску сцелецца...» — «Далей...» — «Пачулі госці голас дзедавай дачкі. Выцягнулі яе з рэчкі. Накарміла яна малаком сына Салівона. А злую бабу і бабіну дачку царэвіч разадраў на баране! Спі!» І я спаў на белай ільняной прасцінцы.

*Казка пра лісічку*

На стале талерка з забеленай фасоляю. «Валодзя, бяры лыжку і еш»,— баба Броня сядае побач і заглядае мне ў вочы. Набычваюся: «Не хачу».— «Фасоля мякенькая, у печы пастаяла. Паглядзі на яе, нібыта цукеркі... Ты будзеш есці, а я казку раскажу. Еш і слухай... Жылі дзед і баба. Скончылася ў іх яда. Выправіла баба дзеда рыбу лавіць і наказала нікога на воз не садзіць. Запрог дзед каня і паехаў на рэчку. Налавіў рыбы цэлы мех і дахаты вяртаецца. Даганяе дзеда лісічка і просіць: «Дзед, падвязі мяне да лесу». «Не падвязу, мне баба наказала нікога на воз не садзіць»,— кажа дзед. «Усё, больш не буду, жывот забаліць».— «Пабаліць і перастане. Еш і слухай... “Ты, дзед, нікога і не пасадзіш, калі адну маю лапку падвязеш. Можна, я адну лапку на воз пакладу, замерзла ў мяне лапка”».— «Ну, кладзі сваю лапку». Паклала лісічка лапку на воз, крышку прабегла і далей просіцца: «Дзед, ты такі добры і паслухмяны, можна, я другую лапку на воз пакладу?» — «Ат, кладзі і другую». Ну, дзе дзве лапкі лісіччыны леглі, там і чатыры апынуліся. Толькі хвост дзед не дазволіў класці на воз. І дарма не дазволіў, бо лісічка хвастом замятала ў снег рыбу, якую паціху выкідала з прадранага меха. Як выпатрашыла лісічка мех, дык падзякавала дзеду і шуснула ў лес, каб вярнуцца і паесці смачнай рыбы. Прыехаў дзед пад хату, а баба на падворку чакае: «Налавіў?» — «Ого, шмат налавіў!» — Глянуў дзед на воз, а там пусты дзіравы мех ляжыць. «Ты каго, дзед, падвозіў?» — «Нікога. Адну лапку лісічкі, надта ўжо прасілася».— «Ну і сядзі галодны, калі бабу сваю не паслухаў. Хай тваю рыбу лісічкі ядуць». Вось і ўсё. Бабу трэба слухаць, і фасолю трэба есці. Пад’еў і бяжы гуляй, каб жывот не балеў». І я бег на рэчку да хлопцаў гуляць у вайну.

*Казка пра Васілька*

Дождж. «Баба Броня, я пагуляць пайду».— «Куды ты такім дажджом пойдзеш? У хаце пасядзі, а я казку раскажу... Быў у маці сынок, звалі Васілёк. Любіў Васілёк рыбу лавіць. Пры-

вядзе яго маці на возера, пасадзіць у чаўнок і накажа: «Сынку Васільку, плыві і рыбу лаві, толькі да берагоў не падплывай, бо вядзьмарка схопіць цябе, панясе і з'есць. Толькі калі я цябе паклічу, ты да берага плыві». Так і павялося. Прыходзіла маці і клікала: «Сынку Васільку, плыві на беражок, дам табе піражок». Прыплываў чаўнок на беражок, і маці частавала сынка піражком ды вяла дахаты. Прачула вядзьмарка, што Васілёк рыбу на возеры ловіць. Прыйшла, схавалася за вярбу і гукае: «Сынку Васільку, плыві на беражок, дам табе піражок». А Васілёк адказвае: «Не паплыве мой чаўнок на беражок, бо ў маёй маці голас тоненькі, а ў цябе, вядзьмарка, тоўсты». Пабегла вядзьмарка да каваля і папрасіла расплюскаць ёй язык, каб голас патанчэў. Расплюскаў каваль вядзьмарчын язык, і голас патанчэў. Прысунулася старая вядзьмарка на возера, схавалася за дрэва і кліча тоненькім голасам: «Сынку Васільку, плыві на беражок, дам табе піражок». Прыплыў чаўнок на беражок. Схапіла вядзьмарка Васілька, закінула на плечы і панесла, каб у лесе засмажыць і з'есці. Несла, несла, стамілася і спаць захацела...» — «Баба Броня, я таксама ў прыбіральню хачу».— «Схадзі, толькі дзедаў пінжак накінь, каб не змокнуць». Злётаў я ў прыбіральню і лёгкі вярнуўся. «Пасадзіла вядзьмарка Васілька на пень, а сама побач спаць легла. Пачаў Васілёк прасіць пень: «Расці, расці, пень. А каб ты, ведьма, не выспалася!» — «Што ты там гаворыш?» — «Прашу Бога, каб табе лёгка спалася».— «Ну, прасі». Прасіў Васілёк пень, і той вырас пад самае неба. Выспалася вядзьмарка і бачыць, што Васілёк сядзіць не на пні, а на высокім дрэве. Пачала вядзьмарка скакаць, каб Васілька дастаць. Не змагла даскочыць. Пачала дрэва грызці. Зубы пакрышыла, а дрэва не перагрызла. Пабегла да каваля, прынесла сякеру і кажа: «Сячы, сякера, па палене!» А Васілёк папраўляе: «Не па палене, а па калене!» Секанула вядзьмарка сабе па калене, раззлавалася і пакульгала да каваля па пілу. Прынесла пілу і пілуе. А Васілёк паглядзеў на неба, каб у неба папрасіць паратунку. Ляцелі па небе качкі. Пачаў Васілёк качак прасіць: «Качкі, качкі, скіньце мне па пёрку, каб я крылы зрабіў і да маці паляцеў». Кінулі качкі па пяры, зрабіў Васілёк крылы і да маці паляцеў. А

вядзьмарка не бачыла, што няма Васілька, і пілавала дрэва, і перапілавала. Паваліласся дрэва на вядзьмарку і забіла яе».— «Баба Броня, дождж скончыўся».— «Абувай боты і ідзі». І я ішоў на вымыты дажджом двор.

*Казка пра ваўка*

Зімовы вечар. У хаце залатое святло лямпачкі, а за шыбамі глыбокая сінеча снежаньскіх халадоў. «Баба Броня, раскажы мне казку».— «Пра каго?» — «Пра зіму».— «Добра, слухай казку пра ваўка... Жылі дзед і баба. Жылі — не бедавалі. Мелі скварку і да скваркі. На куццю нагатавала баба розных прысмакаў, і селі яны з дзедам за святочны стол. Толькі яны сабраліся павячэраць, як у шыбу нехта грукае. Калядоўшчыкі, кажа баба. «Хто там?» — пытаецца дзед. «Гэта я, воўк! Аддай, дзед, каляду, бо я бабу павяду!» Цэлы мех гасцінцаў напакаваў дзед ваўку, і пабег той у лес. Селі дзед з бабай за стол, зноў нехта пад вокнамі ходзіць... «Аддай, дзед, каляду, бо я бабу павяду!» Сабраў дзед усё, што ў хаце было, і аддаў ваўку. Ледзь пацягнуў воўк дзедавы падарункі. Залезлі дзед з бабай на печ. Сядзяць, маўчаць, доўга маўчалі, а потым баба кажа: «Воўк усё забраў, але ж мы з табою засталіся жывыя і здаровыя, гэта ж добра...» — «Аддай, дзед, каляду, бо я бабу павяду!» — «Што ты да нас прычапіўся, воўк? Ідзі калядуй у другую хату! Няма ў мяне больш нічога!..» — узбунтаваўся дзед. А воўк схапіў бабу, закінуў на спіну — і бягом у лес. Застаўся адзін дзед у пустой хаце. Ні скваркі, ні да скваркі, ні бабы... «Хай бы ўжо і мяне воўк забраў!..» Толькі дзед так падумаў, як з'явіўся воўк, схапіў дзеда і ў лес павалок. Вось і ўся казка».— «Баба, а каму іх пустая хата дасталася?» — «Нікому не дасталася, бо не было ў тых дзеда з бабай унука. Каб у іх гадаваўся ўнук, дык не даў бы ён ваўку хату рабаваць. І хата перайшла б да яго. Наша хата дастанецца табе. Ты ж ваўка прагоніш?» — «Прагано...»

*Печкуры*

Баба запальвала керагаз і ставіла на яго патэльню. Па чорным сподзе патэльні з патрэскваннем разбягаўся скрылік масла. Печкуры выкочваліся ў муцэ, клаліся ў шапатлівыя алейныя карункі і залацелі проста на вачах. Печкуроў усяго тры. «Галоўнае — ты іх сам злавіў»,— казала баба. Праз бабіна «сам» пачынала праступаць мая самасць, маё сапраўднае «я». Галоўнае — не смажаныя печкуры, чорная патэльня, блакітны агонь і сіні керагаз... Галоўнае — «сам». У большасці людзей сваё «я» з'яўляецца праз люстэрка. Вось ён — адбітак мяне, вось і я сам. Да мяне самасць прыйшла праз рыбалку, смажанне і паяданне залатых печкуроў з чорным хлебам.

*Ведзьмакі*

Баба Броня казала, каб не даваў рукі старым людзям, як яны маюць паміраць. Тлумачыла тым, што чортава сіла не дае лёгкай смерці, а праз руку можна гэтую сілу перадаць іншаму чалавеку. Жанчыне лягчэй перадаваць хлопцу, а мужчыну лягчэй, калі руку падасць дзяўчына. Баба Броня, калі тое расказвала, сядзела на ложку, а я тым часам, седзячы за сталом, маляваў чырвоныя дзверы дзедавай хаты. Праходзіць, можа, хвілін пяць, і я забываюся пра бабіны словы. А яна раптам на ўсю хату: «Прасіць будуць — а ты не давай рукі!» Так і запомнілася папярэджанне.

*Палітыка*

У вёску да бабы Броні я прывёз паказаць свае вершы з фотаздымкам, надрукаваныя ў часопісе «Маладосць». «Вось і ты, як і твой бацька Чэсь, пачаў займацца вершыкамі. А я й яму казала, і табе скажу... Кепскі занятак — палітыка. Палітыкаваць не трэба. Не палітыкуй, Валодзя. Уся палітыка канчаецца аднолькава — давядзецца ўцякаць у Польшчу ці куды далей. Мой брат, Ян Шайбак, таксама палітыкаваў, а цяпер каля мора ў Польшчы жыве і сюды прыехаць не можа...»

# Дзед

*Аддаленасць*

Углядаюся ў мінулае. Яно расплываецца, як акварэль на вільготнай паперы. Вобраз дзеда зусім далёкі, як сон; нібыта ён, мой дзед Валодзя, і не меў той вызначальнай ролі ў маім станаўленні, якую насамрэч меў. Заўсёды, калі жыццё пераломлівалася, страчвала каштоўнасць, а жах і паняверка авалодвалі маёй душой, згадваўся дзед, ягонае простае сялянскае жыццё. Я казаў сабе: калі твае творчыя і палітычныя ілюзіі рассыплюцца, калі грошы скончацца, калі сябры знікнуць, ты вернешся ў вёску Варакомшчына, будзеш пасвіць кароў і ў полі пад высокім небам пісаць вершы. Менавіта вобраз дзеда Валодзі доўгі час даваў мне апірышча. Зямля, поле, дарога, хата, карова, студня, рэчка, лес. Усё гэта — аснова, усё непарыўна было звязана з дзедам. Цяпер не так. Ён — успамін. Мне цяжка пачуць ягоны голас. Даводзіцца доўга і напружана настройвацца, каб усё ж пачуць яго слова — слова, сказанае голасам дзеда Валодзі. Я яшчэ чую яго. Яшчэ чую...

*Акварэль*

На Неўскім праспекце мама купіла мне акварэльныя фарбы. Яны называліся «Ленінградскія». Набылі ладную скрыначку і яшчэ з дзясятак колераў, што прадаваліся ў маленькіх ванначках уроссып. Усю дарогу дадому, у Мінск, я думаў пра акварэльныя малюнкі. Колькі розных сюжэтаў і кампазіцый з'яўлялася ў маіх марах!.. Безліч! Эрмітаж мяне ўразіў. А найбольш здзівіў Шардэн. «На дзюбцы пэндзля ў яго не фарба, а само жыццё»,— перад нацюрмортам Шардэна сказала маміна сяброўка Кіра, мастацтвазнаўца з Эрмітажа. «Само жыццё...» Найлепшымі фарбамі я мусіў намаляваць «жыццё». Пасля Зімняга палаца, Ісакіеўскага сабора, вуліцы Растрэлі, сфінксаў каля Акадэміі мастацтваў, бронзавых коннікаў я намаляваў свайго дзеда Валодзю на ровары. Намаляваў вялікае, крытае

саломаю гумно і высачэзныя серабрыста-крохкія таполі пад рэдзенька-шарым небам. Дзед быў у кепцы і клятчастай сінебелай кашулі. Акварэль рабілася доўга і старанна, але расчаравала мяне так, што была падраная на дробныя шматкі і выкінутая ў смеццеправод.

*На «Вы»*

Тата з братамі звярталіся да майго дзеда толькі на «Вы». Баба казала пра яго «наш бацька». Слова «бацька» нейкім чынам засталося ў нашай сям'і за дзедам Уладзімірам. Бо да свайго бацькі мы казалі «тата», мама гаварыла «Чэсь», «мой Чэсь», мае дзеці звярталіся па-сталічнаму: «Вячаслаў Уладзіміравіч». Мне вельмі падабалася да дзеда з бабай звяртацца на «Вы». Наогул, «ты» недалюбліваю, нейкае яно не зусім нашае. Нібыта ўсе свае, нібыта блізкія, сяброўскія, таварыскія, а насамрэч «Вы» да свайго дзеда — правільна, а калі так, то «Вы» і вернецца.

*Хада*

Адметнасць хады дзеда Уладзіміра я заўважыў на фотаздымку, які зрабіў тата ў Маскве. Па Чырвонай плошчы ішоў мой брат Мірык. Вастраносыя чаравікі, джынсы, усмешка, сабор Васіля Бажаволка. І раптам я згадаў здымак дзеда. Боты, клятчастая кашуля, кепка, крытае саломай гумно. Агульнае, падобнае? Хада. Унук і дзед аднолькава рухаюцца, аднолькава выкідаюць нагу наперад, насок ідзе крышку ўбок, але не ў сярэдзіну, а вонкі. Такое ўражанне, што па Чырвонай плошчы ідзе малады дзед Валодзя, а па вясковым падворку крочыць стары Міраслаў. І тата і я мелі такі самы крок, тую самую хаду. У мяне кепскі зрок, таму, каб пазнаць чалавека, я запамінаю паставу, хаду, рух паставы. Для мяне вельмі важна, як чалавек ідзе, таму я лёгка пазнаю знаёмага ў натоўпе. Зрэшты, што ёсць жыццё? Чалавек выйшаў з дому і вярнуўся дамоў. Дзіўна іншае — дзед і ўнук ідуць з дому дамоў аднолькавай хадою.

*10 сантыметраў*

Тата быў вышэйшы за свайго бацьку на 10 сантыметраў. Для таты чамусьці было важна, што ён вышэйшы. У дзяцінстве тата казаў мне: «Я вышэйшы за твайго дзеда, ты павінен вырасці вышэйшым за мяне; калі дзед мае 163, я — 173, дык ты мусіш мець 183 сантыметры росту...» З разваг пра рост толькі пачынаўся пералік маіх будучых абавязкаў. Бо я мушу быць багацейшы за тату ў столькі разоў, у колькі ён багацейшы за дзеда. Мушу займець большую папулярнасць і стаць на больш высокую прыступку ў сацыяльнай іерархіі грамадства... У выніку я зразумеў, што задачы невыканальныя, што занятак майго дзеда — праца на зямлі — не менш значны за высокія пасады і ўладныя рэгаліі. Можа, з-за гэтага разумення мой рост толькі 180, а жаданне ўпісвацца ў жорсткія структуры дзяржаўнага кіраўніцтва — мізэрнае. Часам мне падаецца, што дзедавы каштоўнасці — зямля, дождж, бараны, дом, сад, гарод, малако — больш вартасныя за каштоўнасці бацькі: мова, Радзіма, кнігі, літаратура. Пераўзысці дзеда і бацьку я не збіраўся і не збіраюся. Для мяне ўсё ж найбольш каштоўным з'яўляецца іншае: не сама карова, а пасвінне каровы; не напісаны раман, верш, твор, а магчымасць пісаць. І яшчэ пра рост... Калі я цэлы дзень прабадзяюся па Барселоне, дык рост мой робіцца 176 сантыметраў. Правяраў, і не адзін раз.

*Кепка*

Дзед любіў кепку. Ад маразоў да маразоў ён хадзіў у светлай у шары ранцік кепцы з вялікім брылём. У хаце для дзедавай кепкі быў забіты ў сцяну адмысловы цвік. Тата, як і дзед, усё жыццё прахадзіў у кепцы, а мне ўсё карціць мяняць уборы: я то ў берэце, то ў капелюшы, то ў скураной кепачцы, то ў палатнянай, то ў вязанай шапцы. Такі вось я пераменлівы, наогул не ўспрымаю галаўныя ўборы як свае; мне і валасы чым карацей падстрыжаныя, тым лепш пачуваюся. Толькі заўсёды хацелася мець у сваёй хаце адмыслова забіты ў сцяну цвік для маёй кепкі. Пайду і ўб'ю.

*Чытанне*

Наш дзед Валодзя пачаў чытаць толькі ў 70 гадоў. Усё жыццё — цяжкая праца на зямлі і на чыгуначнай станцыі грузчыкам. Калі бальшавікі забралі зямлю, а за імі немцы спалілі хату, выбіраючы паміж калгасам і станцыяй, дзед выбраў чыгунку, бо яна ўсім уладам і рэжымам патрэбная. Работа на станцыі вызваляла ад войска. Дзед нікому ніколі не даваў прысягі, ён адпрацаваў за траіх, а мо і за дзесяцярых мужыкоў са зброяю. Жыццё дзеда Уладзіміра цалкам стваральнае. І толькі ў 70 гадоў яго з грузчыкаў перавялі ў вартаўнікі. Пільнуючы макулатуру, дзед панапрыносіў у хату старых падручнікаў літаратуры і ўзяўся чытаць. Чытаў выключна прозу і абураўся на няпраўдзівасць, ілжывасць напісанага пра вайну, пра вёску, пра Беларусь. Дзядзька Сава спрабаваў яго пераконваць у патрэбнасці фантазіі і мастацкасці, на што дзед сурова адказваў, што выдуманае і звершаванае — у малітоўніках для жанчын, а мужчынскае мусіць быць пераканаўчае і праўдзівае.

*Манеты*

У дзедавай хаце была стопка, дзе стаялі кубельцы з салам, бочкі са збожжам, віселі мяхі з крупамі. Там панаваў заўсёдны халадок, і ў найспякотныя дні я спаў у стопцы. Яшчэ тамака стаяла скрынка з цвікамі, паміж якімі пракідаліся і манеткі зніклых дзяржаў: капейкі Расійскай імперыі з двухгаловым арлом, злотыя часоў Пілсудскага, пфенігі Трэцяга рэйха, састарэлыя медзякі СССР. Дзед трымаў манеты з цвікамі, каб, прыбіваючы якую бляху ці толь, рабіць у цвіка шырэйшую плешку. Я быў выпрасіў у дзеда тыя манеты, а потым, сам не ведаю чаму, ссыпаў назад у цвікі, і не шкадую.

*Баран*

«Бэра-Бэра-Бэра-Бэра...» — мы, я і дзед, так клікалі свайго барана, выманьваючы яго са статка, што вяртаўся з поля, кавалкамі чорнага хлеба. Бэра бег да нас, выводзячы за сабою і

чатырох авечак. Хлеб баран любіў. Еў са смакам. Пакарміўшы, можна і пакатацца на баране. Дзед падсаджваў мяне, чатырохгадовага, на шырокую цёплую спіну. Я браўся за гладкі рог, дзед, трымаючы за другі рог, абводзіў барана вакол падворка. Авечкі чакалі каля гумна, побач з кароваю Зоркаю, што піла з вядра ваду. Мае дзеці не каталіся на баранах — толькі на конях і толькі на спартовых.

*Дратаванне*

Ёсць у свінні звычка рыць зямлю. Каб яна не рыла гумно, яе дратуюць. Дзед навучыў мяне дратаваць падсвінкаў. Ён прывёз іх — яго і яе — у мяху. Купіў на нядзельным кірмашы ў мястэчку. Кабанчык быў белы, а свінка рабая, у чорныя плямы. Дзед адшчыкнуў два кавалкі меднага дроту, завастрыў іх на наждаку і спярша папрасіў мяне патрымаць кабанчыка. Я моцна прыціснуў свіную галаву да зямлі, а дзед спрытна прабіў дротам лыч і закруціў яго, пакінуўшы вялікую пятлю, каб, калі кабан вырасце, пятля не раздзерла лыч. Каб дратаванне рабілася зараз, а не трыццаць пяць гадоў таму, я б сказаў: «Мы зрабілі свінні пірсінг», а так даводзіцца гаварыць «дратаванне». Зрэшты, слоўца «дратаванне» можна ўжываць замест слова «пірсінг». Дзіўным было тое, што падчас пірсінгу кабанчык нацурыў, а свінка абрабілася. Добра, што дзед папярэдзіў мяне, і я не ўфэндаўся.

*Мяхі*

Капаю з дзедам Уладзімірам пограб. Сонца. Спёка. Пот у вочы цячэ. Дзед махае рыдлёўкай поравень са мною і яшчэ распавядае пра тое, як працаваў грузчыкам на чыгунцы... «Усе думаюць, што грузчык мусіць быць вялікім. Неабавязкова. Грузчык можа быць і малы. Галоўнае, каб спрыт меўся. Каб ведаў: як закінуць мех на плечы, як несці, як скінуць. Можаш быць вялікі, як гара, а няправільна падымеш і парвешся...» Пасля абеду я адмаўляюся капаць пограб, дзед дакопвае без мяне. Мусіць, і рыдлёўку, як тыя мяхі, трэба ведаць, як браць.

*Вера*

Наколькі рэлігійная была баба Броня, настолькі абыякава да ўсяго гэтага ставіўся дзед Валодзя. З усіх царкоўна-касцёльных абрадаў ён шанаваў выключна святы і, як сапраўдны беларус, святкаваў як праваслаўныя, так і каталіцкія, жончыны. Слова «Бог» ад дзеда Уладзіміра я ні разу не пачуў. Ці то мала гаварыў з ім, ці то слухаў няўважліва... Хаця не, слухаў я дзеда ўважліва, бо ставіўся да яго з вялікай павагаю.

*Хата*

Калі памёр дзед Уладзімір і мы, старэйшыя мужчыны, засталіся ў хаце пасля жалобнай вячэры, каб вырашыць лёс маёмасці, упершыню я адчуў, як пасунуўся час, як з маладзёна я пераўтварыўся ў мужчыну, чыё слова мае вартасць, важкасць, кошт. Тры дзедавы сыны: Чэсь, Сава, Ян і старэйшы ўнук завялі гаворку, што каму пяройдзе. З-за стомы і гарэлкі гутарка пайшла ў крывы бок. Тата, як старэйшы, хацеў, каб яго слова было галоўнае. Сава, які пражыў усё жыццё побач з бацькамі, адно ўсміхаўся, бо ведаў вынік той гаворкі наперад. Дзядзька Ян, абапіраючыся на аўтарытэт таты і меркаванне аднавяскоўцаў, меў намер прадаць хату. Я чамусьці падтрымаў Саву. Ён адзіны, хто жыў на нашае зямлі, хто дапамагаў дзеду штодня, хто заслужыў тую невялікую спадчыну. Тата з Янам зазлавалі на мяне, але выйшла ўсё адно на Сававу карысць, бо ні я, ні Ян, ні тата, як з’ехалі пасля пахавання, так больш ні разу ў дзедаву хату і не зайшлі, а дзядзька Сава кожнае лета жыве ў ёй. Перабіраецца са свайго мястэчка Наваельня ў нашую вёску Варакомшчыну, бульбу садзіць, сад даглядае. Ні таты, ні Яна ўжо няма, але я не паспеў пераканаць іх у правільнасці сваіх слоў, сказаных на карысць Савы, бо дзедава хата для іх была хутчэй сімвалам веры, чым рэальнай будынінай з бярвёнаў. З такімі стратамі нельга змірыцца, як са смерцю бацькоў.

## Частка трэцяя

# БРАТ

*Вочы*

Калі Мірык нарадзіўся, вочы ў яго былі цёмна-цёмна-сінія, як берлінскі лазурак, а потым паступова зрабіліся «чорнымі» — цёмна-карымі. Гэта, пэўна, самае чароўнае пераўтварэнне, якое я ў ім назіраў.

*Сон*

Калі мы з маці прыехалі да Мірыка ў вайсковую вучэбку, што мясцілася ў Чарнаўцах, і забралі яго на суткі, дык мяне вельмі здзівілі змены, якія адбыліся з братам. Юнак-студэнт пераўвасобіўся ў істоту, якую ў народзе абразліва называюць «гарматнае мяса». Худы да нейкай спружыністай драўлянасці, Мірык глядзеў на свет вачыма, якія ў адначассе кантралявалі вонкавыя з’явы і ўглядаліся ў глыбіні ўласнай прыгнечанай душы. «Я магу спаць стоячы,— салдацкім голасам распавядаў брат,— магу спаць ідучы. Існі і спаць. Магу бегчы і спаць. А галоўнае, я магу бегчы і спаць з расплюшчанымі вачыма...» Мама вельмі ўразілася гэтымі здольнасцямі. А я ўзрадаваўся, бо з такога воіна не зробіць гарматнае мяса ніводзін генералісімус.

*Удар*

У кожнага мужчыны ўзнікае жаданне разбіць твар іншаму, падобнаму да сябе. І раней ці пазней абставіны складаюцца на тое, каб злосць увасобілася ў бойку. Чалавек — істота ваенная. Нічога не паробіш. З астатнімі нічога не зробіш, а сябе ўсё ж у пэўны момант можна пераарыентаваць. Удар, які Мірык абрынуў на тоўстае дзвярное шкло, каштаваў яму шмат. Шкло разляцелася на аскепкі, але і кулак ператварыўся

ў крывавую кашу. Геніяльны, без перабольшання, хірург Пал Палыч Беспальчук нейкім магічным чынам разабраўся ў крывавай кашы і сшыў, склаў, аднавіў брату руку наноў. Тыдні тры Мірык праляжаў у бальніцы ў Беспальчука, скінуў кілаграмаў дваццаць і выйшаў падобны да падлетка. Яго сустрэла Таня, другая жонка, з-за якой і разляцелася тоўстае шкло. Мусіла разляцецца на кавалачкі галава Танінага першага мужа, які цяжка перажываў страту жонкі і часткі рэчаў. Каб хоць неяк выглядаць па-мужчынску, ён не аддаваў Тані яе вопратку, а тут прыйшоў Мірык. Ударыў ён адбітак Танінага мужа, ударыў адлюстраванне, а не арыгінал, разбіў цень, каб істота, што цень наводзіла, спалохалася і ўцякла. Істота збегла. Скалечаная рука гаілася доўга. Больш за год брат не адчуваў пальцамі ні холад, ні цяпло. Бывала, курачы цыгарэту, заўважаў, як на пальцы ўздзімаецца пухір апёку, але болю не чуў. Жахлівы пах спаленай чалавечай скуры напаўняў пакой, але Мірык ні разу не пашкадаваў пра тое, што зрабіў.

*Чужыя словы*

Ці варта згадваць чужыя словы пра брата, калі сваіх яшчэ шмат не сказаных? І ўсё ж працытую, дзеля больш размаітага і аб'ектыўнага партрэта... «Мірык — звер! Так, так... Мірык — звер! І я яго паважаю. У вас усім кіруе Мірык, мне так падаецца. І гэта правільна. Кіраўнік мусіць быць адзін, каб справа не размазвалася. Кіраўнік мусіць быць зверам!» — так разважаў настаўнік біялогіі Карпейчык. А паліграфіст Хацкевіч за бутэлькаю віскі ў самалёце сказаў наступнае: «Мірык мне гаворыць: як Валодзя скажа, так і будзе. Уяўляеш, як гэта важна — мець у жыцці чалавека, якому можна цалкам давяраць. Як Вова скажа — так і будзе! У мяне няма такога. Я ў справах застаўся зусім адзін. Я люблю працаваць адзін, прымаць рашэнні, за ўсё сам адказваць... Але часам так хочацца быць меншым, некага паслухаць, некаму даверыць свае самыя патаемныя думкі! Каб нехта сказаў, і я паверыў...» Чужыя словы — яны таму

і чужыя, што не свае, а таму не зусім дакладныя, але недзе паміж развагамі Хацкевіча і Карпейчыка ляжыць чыстая праўда.

*Зброя*

Калі хто любіць па-сапраўднаму зброю ў нашай сям'і, дык гэта брат. На самых першых сваіх фота ён заўсёды з нейкім пісталетам ці аўтаматам. Улюбёнай гульнёю ў яго была вайна з алавянымі салдатамі. Маляваў ён усё генералаў і генералісімусаў, абчапляных стужкамі, пагонамі і ордэнамі з медалямі. Таму цацачная зброя ператварылася ў сапраўдную. Ягоныя лукі і рагаткі мелі даволі моцную сілу. А ў дзявятым класе ён набыў пісталет і кінуў школу. Шаснаццаць гадоў — самы ўзрост, каб займець уласны баявы пісталет і паслаць адукацыю да д'ябла. З пісталетам у кішэні Мірык хадзіў на кватэры, дзе гулялі ў карты на грошы. Чым бы гэта ўсё магло скончыцца, можна толькі здагадвацца. Але лёс зрабіў пасвойму... Брат закахаўся, праз тое каханне трапіў у бальніцу, з бальніцы — у школу рабочай моладзі, дзе за магільнае маўчанне ставілі моцнае «тры», са школы — ва ўніверсітэт, а з універсітэта — у войска. Галоўнае — нечага моцна захацець, і жаданне здзейсніцца. Хочаш зброю? На табе палігон! Паўтары гады брат праслужыў на палігоне ў Чэхіі на самай мяжы з радзімай усіх войнаў і ўсёй зброі — Нямеччынай. Настраляўся на ўсё астатняе жыццё. Часам здараюцца рэцыдывы. Яму, як афіцэру, без праблем далі дазвол на паляўнічую стрэльбу. Ён і скрыню жалезную замовіў, нават дзве скрыні: большую для стрэльбы, меншую для патронаў. Але ў апошняе імгненне адмовіўся і ад скрынак, і ад стрэльбы. Захваляваўся: а раптам сын залезе, бяды наробіць... Чэсь, сын, вельмі да брата падобны, і ўзрост гэты збройны ды антыадукацыйны набліжаецца. «На чорта мне ружжо?! Я і так любога тхара голымі рукамі задушу, а калі не змагу — ты дапаможаш...» — разважаў брат, п'ючы чорную гарбату з японскага кубка. «Тхара задушыць? Вядома, дапамагу, няма пытанняў».

*Сны*

Больш як дзесяць гадоў я працую з братам. Раней, у маладосці, былі ілюзіі, што некаму можна давяраць. Адна за адной тыя надзеі развеяліся; ад некаторых і слядоў не засталося, а іншыя пакінулі ў памяці шнары на ўсё жыццё. Вельмі балюча, калі цябе прадае лепшы сябар ці каханая жанчына перакідаецца ў драпежную хцівую фурыю. Тата памёр, мама састарэла, і я аберагаю яе ад перажыванняў, давяраю толькі брату. У мяне ад брата сакрэтаў няма. Ёсць сякія-такія дробныя недагаворкі наконт творчых планаў ды летуценных каханняў. Улюблівы я занадта ў параўнанні з братам. А так ён пра мяне ведае ўсё. Наколькі адзін чалавек можа ведаць усё пра другога. Я ганаруся тым, што ёсць чалавек, якому можна верыць. Звычайна, каб схаваць сваю няверу ў людзей, гавораць пра веру ў Бога, у Цуд, у Лёс. А як можна верыць у Найвышэйшае, калі сваім родным не давяраеш? А большасць разумных, навучаная горкім вопытам здрады, нікому не верыць. Пра дурняў няма гаворкі, яны самі сабе не вераць. Я веру брату. Гэта важна. Важна настолькі, што, з'язджаючы ў адпачынак, я дні тры-чатыры сню адзін і той жа сон. Быццам прыходжу на працу, вару каву, прыходзіць брат, мы п'ём ранішнюю каву і абмяркоўваем справы. Натуральна так гаворым, бывае, што і слушныя думкі прамаўляюцца. Тады я тэлефаную і пераказваю свой працоўны сон брату. Збольшага, праўда, гаворыцца нейкая абракадабра; можа, у сне і былі разумныя думкі, але, калі іх пачынаеш перацягваць на працоўны стол рэальнасці, стройнасць і логіка прападаюць. Зрэшты, у адпачынку свая логіка — добра адпачыць, каб вярнуцца і даць адпачыць брату, які працуе за двух.

*Прабачэнне*

У кожнай справе галоўнае — зазірнуць наперад. Ці то ты селянін і разважаеш пра будучы ўраджай, ці рамеснік і думаеш, як выканаць замову і выгадней прадаць плён рук сваіх,

ці як брат літаратар, выдавец, мысляр. Яго здатнасць бачыць будучыню мяне заўсёды радавала і дзівіла, бо сам я — чалавек настрою, люблю хуткаплыннасць, зменлівасць, незавершанасць. Таму ў мастацтве раблю накіды і шкіцы, у літаратуры пішу лірычную прозу, а ў выдавецтве кірую праектамі сезонных кніжак. Брат — іншы, ён супрацьлегласць мне, ягоная стыхія — доўгатэрміновыя праекты. Калі мы толькі распачыналі працу над «Сусветнай гісторыяй» у 24 тамах і толькі збіраліся выкасоўваць цытаты марксаў-ленінаў, а факт паставіць вышэй усялякіх каментароў і трактовак, я толькі на адсоткаў трыццаць верыў у поспех (які поспех?!), у простае выкананне працы аб'ёмам у 12 000 кніжных старонак. Брат верыў, ён бачыў гэтыя кнігі, ён бачыў іх дзесяціразовае перавыданне і пераўтварэнне ў ілюстраванае каляровае выданне. Цяпер, калі нашы кнігі па сусветнай гісторыі налічваюць больш за сотню тамоў, а колькасць замоў толькі на гэтую тэму не змяншаецца, я магу любога скептыка падвесці да паліцы з кнігамі і сказаць: мой брат здатны зазірнуць у будучыню, і ягоная здатнасць, увасобленая ў сотні і тысячы тамоў,— тут, перад Вамі.

*Японія*

Японія далёка-далёка, а Беларусь яшчэ далей. Каб убачыць і зразумець Беларусь, трэба пісаць японскія вершы, трэба вывучаць і перакладаць Басё. Як гэта растлумачыць недасведчаным? Ці трэба тлумачыць недасведчаным і насіць ваду ў рэшаце? Пройдзе адзін час і надыдзе іншы, адны недасведчаныя адыдуць, а другія ўжо будуць ведаць, што Беларусь стала бліжэй, бо нехта пісаў хайку на палігоне ў гарах на самай мяжы з радзімай усіх войнаў — Нямеччынай, бо брат мой пераклаў зборнік Басё, і сем разоў той зборнік перавыдаваўся ў сталіцы адной з найвялікшых імперый свету — Маскве. Там нейкі майстра зрабіў для таго зборніка вокладкі з цялячай скуры і скрынку з дрэва, абклеіў яе ядвабам і дарагой паперай. Кніга круцілася ў ярка асветленай шкляной вітрыне і зіхацела, як каштоўны камень. Яе кошт

быў большы за кошт двух залатых заручальных пярсцёнкаў. Але я не мог не набыць братаву кнігу. «Ці былі там яшчэ такія кнігі?» — спытаў Мірык. «Былі».— «А ці былі сярод аўтараў жывыя?» — «Не было».

*Тэа*

У гісторыі мастацтва найузорнейшым прыкладам узаемаадносін братоў, адзін з якіх мастак, а другі бізнесовец, прынята лічыць узаемаадносіны Тэадора і Вінсэнта ван Гогаў. Небеспадстаўна. Бо менавіта Вінсэнт дзякуючы матэрыяльнай падтрымцы Тэадора разбурыў міф пра неабходнасць мастака быць інтэграваным у грамадства і для рэалізацыі здольнасцей выконваць сацыяльныя замовы царквы, дзяржавы або мецэнатаў. Лічыць Тэа мецэнатам Вінсэнта нельга, бо калі б той і не намаляваў ніводнага палатна, брат усё адно дапамагаў бы хвораму брату чыста па-людску, як шмат хто іншы, маючы магчымасць, апякуецца бяднейшымі сваякамі. Жаданне быць вангогамі за кошт братоў распаўсюдзілася ў мастакоўскім асяродку з хуткасцю чумы. Тысячы эпігонаў па ўсім свеце лічаць сябе роўнымі, а то і лепшымі за вялікага галандца і патрабуюць-вымагаюць сродкі на існаванне ад наіўных сваякоў. Сапраўды спакуслівa піць, гуляць, маляваць і ні за што не адказваць, нават за якасць уласнага пэцкання. З іншага боку, ахвяруючы невялікія грошы, прыемна цешыць сябе думкаю, што ўтрымліваеш не проста разбэшчанага п’янтоса і няздару, а ўкладаеш сродкі ў генія, якога праз пэўны час прызнае ўвесь свет. Безумоўна, Мірык хацеў бы, каб я стаў знакамітым, як Вінсэнт ван Гог; бясспрэчна, мне было б значна прыемней займацца выключна станковым мастацтвам і лірычнай літаратураю. Але нашыя адносіны падобныя да стасункаў славутых братоў якраз сваёй шчырасцю, даверам. Міраслаў збірае мае малюнкі і паспрыяў выданню вялікага тома маіх літаратурных практыкаванняў, каб падтрымаць маю хісткую веру ў свае здольнасці. Я занадта ўважліва вывучыў біяграфію ван Гога, каб зразумець яе непаўторнасць, унікальнасць і драматызм. Сама-

губства Вінсэнта прывяло да самазабойства Тэа. Дробныя шарлатаны ад мастацтва замоўчваюць гэты сумны факт. І калі галандскі галерэйшчык праз пасярэднікаў (усё брыдотнае чамусьці робіцца праз усмешлівых пасярэднікаў) замовіў мне сцэнар фільма пра ван Гога Менскага, я спытаў: «У жытнёвым полі ты, ван Гог Менскі, страляцца будзеш?» — «Не!» Пра ягонага брата, які ўтрымлівае майстэрню па вытворчасці надмагільных помнікаў, я пытацца не стаў і пісаць сцэнар адмовіўся, бо Вінсэнт ван Гог не існуе без Тэа.

*Гады*

Наколькі я не люблю павукоў, змей, шэршняў, чарапах, восаў, настолькі іх любіць і заўсёды любіў Мірык. Ён чытаў пра іх кнігі, кшталту Халіфмана пра пчол, ён маляваў іх, лавіў, садзіў у загадзя падрыхтаваныя скрыначкі і слоікі, разглядаў праз павелічальнае шкло і вельмі дзівіўся, калі нехта не ведаў, колькі лапак у тарантула або які максімальны памер змяі-мядзянкі. Каб бацькі толькі дазволілі, у нашай кватэры абавязкова з'явіўся б тэрарыум, а так братава захапленне абмяжоўвалася жукамі і восамі. Ён іх сапраўды любіў настолькі, што яны яго не кусалі. А мяне... Мяне джыгнуў шэршань, ад аднаго ўспаміну пра той выпадак скура на шчоках шэрхне, а вушы пачынаюць гарэць. Мы жылі каля возера, на Браслаўшчыне. Усялякім гадам там проста рай. Калі казачны чорт угаварыў дурнога беларускага мужыка развязаць мех з гадамі, якіх Бог загадаў вартаваць, дык тое здарылася не на Палессі, а на Браслаўшчыне. Мірык ад раніцы да ночы тых гадаў лавіў, садзіў у скрынкі і ставіў на падваконне. Лета стаяла задушлівае, і я завёў сабе звычку адпачываць — чытаць і спаць пасярод дня. Чытаючы, я адчуў, як ражок падушкі нязручна ўпёрся мне ў шыю, я паправіў ражок... Толькі гэта быў шэршань-уцякач. Кінжальны боль працяў маю шыю навылёт, скура на твары зморшчылася, вушы распухлі, язык запоўніў увесь рот, вочы вырачыліся і перасталі міргаць. У гняўлівым шале я разбіў, патрушчыў, паламаў усю братаву ка-

лекцыю гадаў і жамярын. Дзень мы не размаўлялі, а ўвечары дамовіліся, што ўсё злоўленае ён будзе адразу ж умярцвяць. Забіраць жыццё ў гадаў Міраслаў навучыўся хутка, і робіць гэта па-майстэрску.

*Карты*

Шмат якія зробленыя Міраславам адкрыцці і праекты прыпісваюцца мне. Грамадству, пэўна, так лягчэй; лепей трываць аднаго авантурыста, чымсьці двух. І яшчэ я вельмі люблю інтэрв'ю як літаратурны жанр, калі маеш справу з процьмаю самых ідыёцкіх пытанняў і спрабуеш, не выкідаючы іх, зрабіць чытэльны тэкст ці разыграць сцэнку перад мікрафонам або камераю. Проста я больш публічны чалавек. Але вернемся да чыста Міраслававай ідэі выдаваць карты. Вядома, не геаграфічныя. Звычайна карты выдаюць дзяржавы, на карты ў дзяржаў манаполія, як і на большасць рэчаў, звязаных з азартам. Каб гэта ведаць, трэба ў маладосці набыць пісталет, кінуць школу і на падпольнай кватэры гуляць у прэферанс на вялікія грошы. Зброя ў дадзеным выпадку — доказ братавага практыцызму і ягонай неазартнасці. Руляй лёгка супакойваецца штучная істэрыка і астуджваецца азарт сквапных гульцоў. Спасцігнуўшы сакрэты картачных гульняў, братаў розум быў цалкам падрыхтаваны ў патрэбны момант, калі дзяржава СССР разбурылася, а Рэспубліка Беларусь не стала на ногі, сказаць: «Карты будзем друкаваць». Ад ідэі да рэалізацыі шлях быў доўгі і няпросты. Асабліва мярзотна выглядалі два моманты. Замовы на паліграфічную прадукцыю не прымаліся без хабару. Пры дырэктарах існавалі хабараносцы. Колькі яны заносілі, а колькі пакідалі сабе, без пісталета не разбярэшся, але на той час зброі ў Мірыка не было. Другі брыдкі момант: фабрыка адмовілася складаць карты ў калоды. Пэўна, хабараносец шмат недадаў хабарніку-дырэктару, і мы атрымалі асобна каралёў і асобна шасцёркі. Нанятыя намі людзі больш за год складалі і прадавалі тыя выдатна намаляваныя мастаком Чарыновічам карты. Праект быў геніяльны, прыдумаць яго мог толькі брат. І галоўнае: у час, калі імперыя зла зруйна-

валася, а новыя незалежныя дзяржавы толькі ўздымалі свае сцягі, ніякіх іншых картаў, акрамя нашых, на рынку проста не было.

*Скура*

Наколькі ў Мірыка цёмная, татава, скура, якая загарае за адзін сонечны дзень і ніколі не ведае ніякіх апёкаў,— настолькі ж у мяне белая, маміна, якая ўвесь час абгарае на сонцы. Але ні я, ні ён не любім ляжаць на сонцы. Валяцца каля мора ці рэчкі — не наш занятак. Ісці ўздоўж вялікай вады — гэта нашае, гэта любіў тата, люблю я і любіць брат.

*Псеўданім*

На пачатку сваёй творчасці Мірык узяў за псеўданім прозвішча татавай маці — Шайбак, што ў перакладзе з цюрскіх моў азначае «сад у квецені». Пад Наваградкам, адкуль паходзіць род нашага бацькі, ёсць цэлае мястэчка Шайбакова, дзе жывуць нашчадкі тых ваяроў, што баранілі Вялікае Княства ад усходніх і заходніх захопнікаў. Шайбак — прозвішча крымска-татарскага хана. Гучны ў брата псеўданім. Але потым ён вярнуўся да подпісу Міраслаў Адамчык, чым вельмі ўсцешыў тату. Ніякіх уцямных тлумачэнняў гэтай змены я ад брата не чуў, бо не вельмі дапытваўся. Гэта яго асабістая справа. Тым больш надыходзіў час, калі нашы подпісы на кнігах мяняліся ледзь не з кожнай новай публікацыяй, бо ў Расіі прозвішча Адамчык стала настолькі вядомым і настолькі неадназначным, што маскоўскія кнігагандляры папрасілі, дзе толькі можна яго зняць. Зрэшты, усе мастакі так ці інакш, раней ці пазней карыстаюцца псеўданімамі. Як мне, дык найлепшы ў брата быў подпіс — Міраслаў Шайбак. Што можа лепш цешыць погляд, як сад у квецені? Хто не зразумеў прыгажосць кветкі, той не зразумеў жыцця.

*Ордэн*

Дзейнасць майго брата заслугоўвае ўзнагароды. Ну хоць бы за тое, што ён стварыў выдавецтва «Сучасны літаратар», якое ў 2000 годзе ўжо было найбуйнейшым замежным выдавецтвам, якое працуе ў Расіі. На маскоўскім кніжным кірмашы выдавецтва атрымала дыплом і скульптуру — глінянага Івана Фёдарава, таго самага, што вучыўся ў нашага Пятра Мсціслаўца. За гэты дыплом у нас разы тры прасілі грошы: на падтрымку часопіса «Кніжны бізнес»; на газету «Кніжны агляд», якая разоў дзесяць аблівала брудам і нашае выдавецтва, і нашыя кнігі, і нашае прозвішча; на рэкламу таго ж кірмашу. Не далі. Мірык сказаў «не». Ён сказаў «не», а яны сказалі «так» і дыплом далі, каб прапанаваць ордэн Георгіеўскі крыж з уручэннем у Крамлі. Без уручэння — 2000 даляраў, з уручэннем — 5000 даляраў. Як пры дырэктарах фабрык былі хабараносцы, так і ў Крамлі яны ёсць. І агульная дэталь: ты ніколі не даведаешся, ці дайшоў твой хабар да таго Крамля. З-за гэтай няпэўнасці брат адмовіўся ад «крыжа». Не гатовы ён стаць «крыжаносцам», хоць і заслужыў-зарабіў на Святога Георгія.

*10 кіламетраў*

У дзяцінстве брат не хадзіў ні ў якія спартовыя секцыі, нават школьныя ўрокі фізкультуры ігнараваў, даставаў праз знаёмых даведкі, нібыта яму забаранілі фізічныя нагрузкі. Можна ўявіць, як фізрукі ненавідзяць такіх вучняў. Аднаго фізрука Мірык давёў да таго, што той прылюдна абазваў брата «мяшком з гаўном». Скандал дайшоў да дырэктара школы, і наіўнага выкладчыка — а ўсе школьныя фізрукі, далікатна кажучы, наіўныя — перавялі працаваць у іншыя класы. Выглядала на тое, што спорт і брат ніколі не перакрыжуюцца. Ды не... У войску спатрэбілася сіла. Каб муштраваць і ганяць маладых салдат, розуму было замала. Кулак у войску — такі самы аргумент, як і слова. Нават не так... Кулак, а не зброя, аснова войска. Маа памыляўся: уладу нараджае не стрэльба, а

кулак. Зброя можа нарадзіць дзяржаву, дзяржаўную ўладу, але не здатная стварыць уладу ў чыстым — біялагічным выглядзе. Мірыкаў кулак прынёс і ўладу, і званне, і адпачынак за выдатную службу на мяжы сацыялістычных і капіталістычных лагераў. З войска брат прыехаў байцом. Колькі разоў мне нават даводзілася станавіцца паміж братавым кулаком і прадстаўнікамі прытручанай алкаголем, гнілавата-баязлівай дысідэнцка-савецкай інтэлігенцыі. Сіла чамусьці не цанілася ў антысавецкіх багемных колах, усе спадзевы былі на творчасць і розум. Прынамсі, у Беларусі было так. Мірык паверыў у гэтую ілюзію і надоўга закінуў спорт. Толькі ўсё вяртаецца, калі ёсць куды вярнуцца. Усё бяжыць, калі ёсць воля бегчы. Мірык прабягае ў дзень 10 кіламетраў, гэта звычайна, а калі стаміўся ці прыхварэў — бяжыць 6. У яго трэнажор. Брат не любіць бегаць па вуліцы, дзе дурныя сабакі ўсё ж разумнейшыя за гаспадароў, бо разумеюць, што кулак нараджае ўладу. Брат бяжыць па трэнажорнай дарожцы, бо можа сабе дазволіць мець у кватэры спартовую залу.

*Скаціна*

Біць скаціну — вялікае майстэрства. Далёка не кожны зможа закалоць кабана ці хоць бы папрысутнічаць пры гэтай падзеі. Брат б’е скаціну па-майстэрску. Навучыўся ён гэтаму мужчынскаму рамяству на бульбе. Студэнтаў ганялі выбіраць калгасную гародніну. Гатаваць яны мусілі сабе самі. На сотню дзевак на філалагічным факультэце, дзе вучыўся брат, было менш за дзесяць хлопцаў, адпаведна на мужчынскую работу — упраўляцца з коньмі і біць скаціну — выбар быў небагаты. Каб накарміць сто ратоў, штодня трэба было або цяля забіць, або падсвінка зарэзаць. І не толькі забіць, а і скуру злупіць, і разабраць. Біццё скаціны — работа цяжкая, жывое-маладое паміраць не хоча, супраціўляецца, ірвецца, трапечацца... Яшчэ Эзоп заўважыў вінаватасць жывёлы ў тым, што нам хочацца есці, асабліва пасля цяжкай працы на полі, якая зноў жа мусіць карміць іншых... Бясконцае харчаванне, бясконцы канвеер прыро-

ды... За месяц брат так прапах жывёльнай смерцю, што вясковыя сабакі, толькі ўчуўшы яго, змаўкалі, падціскалі хвасты і хаваліся ў будкі.

*Размовы*

Ёсць шмат рэчаў, пра якія магу пагаварыць толькі з братам. Пра падарожжы... Мы разам ездзілі ў Афрыку. Тата яшчэ папрасіў: раскажыце пра пустэльню. Я спрабаваў апісаць словамі той жах, які выклікае бясконцая хвалістасць пяску пад цалкам пустым небам. Аповеды не ўражвалі. А ў размове з братам мне дастаткова сказаць: «Памятаеш Сахару?», каб ён зразумеў. Мешаніну іклатых і кіпцюрастых рэптыліяй на кракадзілавай ферме, дзе смурод гніення ўвабраў у сябе ўсе найсмуродлівейшыя водары планеты, таксама можа ўспомніць толькі брат. Як толькі я магу зразумець, чаму ён вырашыў аб'ехаць Калізей на кані. Падарожжы — гэта лірыка, грошы — вось кроў эканомікі нашай вялікай сям'і. Сур'ёзна пра капітал толькі з братам і гавару. Грошы — рэчыва цякучае, патрабуе штодзённага догляду і новых формаў. Таму адной размовы ў дзень пра фінансы нам замала. А ёсць такія дні, калі мы зачыняемся і дзень навылёт гаворым толькі пра грошы. Сям'я, як і грошы, таксама аб'ект зменлівы і непрадказальны. Тут у нас погляды розняцца, але разуменне захоўваецца; у сям'і галоўнае — разуменне і дараванне недаравальных учынкаў. Таму нам лёгка, адносна лёгка, гаварыць пра нашыя недахопы і памылкі, ведаючы, што можна не толькі сказаць, а паверыць, што цябе пачуе хоць бы адзін чалавек. А яшчэ з братам магу пагаварыць пра мару. Не саромеючыся, сказаць пра самае патаемнае, якім бы прымітыўным і плыткім яно ні выглядала звонку, як тое скаканне на кані па Рыме, вакол вечнага Калізея.

*Чорная рука*

Больш гавораць пра расійскае п'янства і меней — пра зладзействы, хоць варта гэтыя заганы суседняга народа памяняць месцамі і паверыць Салтыкову-Шчадрыну, які на

просьбу імператара ахарактарызаваць адным словам ягоны народ сказаў: «крадуць», а не сказаў: «п’юць». У брата ўкралі п’есы. Прыехаў у Мінск віхлясты круцель з часопіса «Піянер», выпрасіў п’есы, ажно чатыры — «Чорная рука», «Белая прасціна», «Чырвоная пляма» і «Пацук-людажэр», і з’ехаў... Не, ён не прапаў, ён даслаў ліст, у якім прапаноўваў перарабіць п’есы ў аповесць. У круцяля было вельмі літаратурнае прозвішча — Шаўчэнка. Не менш літаратурнае прозвішча было і ў таго аўтара, які ўсё ж зрабіў з п’ес аповесць,— Успенскі. Толькі гэта не бацька расійскай педагогікі Успенскі, а той Успенскі, які прыдумаў Чабурашку і розную падобную дрэнь. Не скажу, што Мірык прыдумаў Чорную руку, нават пісаць літаратурныя творы на матыў дзіцячых фолк-гісторый пра гарадскія жахі ён пачаў з Клімковічам — зразумела, не з аўтарам ажно двух гімнаў Беларусі, а Максімам Клімковічам, які стварыў першы новабеларускі дэтэктыў «Сцэнарый смерці». Карацей, п’есы скралі і перарабілі ў аповесць. Што-небудзь давесці ў судзе немагчыма, ды што гэта за пісьменнік, калі ён у судзе адстойвае аўтарскія правы... Літаратар даводзіць сваю праўду творамі. Напісаныя ў нашым выдавецтве аповесці пра чарапашак-ніндзя проста замачылі чабурашак на рынку. І калі пакрыўджаны Успенскі абураўся на тэлеэкране і заклікаў рускіх дзяцей не чытаць кнігі пра амерыканскіх чарапашак-ніндзя, брат толькі пасміхаўся, бо якія яны амерыканскія, калі яны — ніндзя, калі клічуць іх Леанарда, Мікеланджэла, Данатэла і Рафаэль, а напісалі пра іх у нашым мінскім выдавецтве «Літаратура».

*Выбар*

Выбіраючы паміж сябрам і братам, заўсёды выбіраю брата.

*Кот*

Калі нарадзіўся брат, да нас зайшоў мой найлепшы з тагачасных сяброў першакласнік Юра. Ён вельмі сур’ёзна агледзеў тады яшчэ безыменнага чалавека і сказаў: «Што такое брат? Вось у мяне ёсць кот Мурза, ён лепшы за твайго брата...»

Юравы словы зняважылі мяне страшэнна. Які кот? Які Мурза? Я ледзь стрымаўся, каб не ўдарыць Юрку, але пашкадаваў брата будзіць. Братаў сон у тыя дні быў найкаштоўнейшым скарбам у нашай сям'і. Тую знявагу я не забыў і таму не спачуваў Юру, калі ягоны Мурза здох. Кот заблыхасціў. Юраў бацька памыў яго дустам, знакамітым ББТ. Кот аблізаў сябе і атруціўся. А я, грэшны, радаваўся сябравай бядзе. Толькі тая брыдкая радасць не змыла крыўды. Дагэтуль я не дараваў з'едлівага «што такое брат?», недзе там, у самых глыбінях душы, не дараваў. Ёсць рэчы, якія проста не даруюцца ніколі.

*Падарункі*

Брат любіць рабіць падарункі. Больш скажу, ён робіць падарункі заўсёды завышанага кошту. Што б ні казалі, а выбіраючы падарунак мы так ці інакш ацэньваем чалавека, якому збіраемся зрабіць прэзент. Чым большая розніца паміж коштам падарунка і ўласнымі магчымасцямі чалавека нешта сабе набыць, тым больш шанцаў яго прынізіць і зняважыць. Адна рэч — падарыць свайму супрацоўніку на юбілей траціну ягонага месячнага заробку. І зусім іншая — таму самаму супрацоўніку набыць кватэру ў крэдыт, калі памер крэдыту перавышае трохгадовы заробак. У першым выпадку супрацоўнік будзе вельмі ўдзячны і набудзе сабе спінінг і блёсны на шчупака. У другім варыянце ён абразіцца і паспрабуе ўсімі праўдамі і няпраўдамі ўцячы ад цябе. Ні на якую ўдзячнасць у выпадку з кватэраю спадзявацца не даводзіцца. Брат падарыў людзям пяць кватэр. Не без майго ўдзелу тое рабілася, але ініцыятыва сыходзіла ад яго. На ўлазінах ён быў толькі ў адной кватэры з пяці. «Нічога страшнага, што твой учынак, твой падарунак не ацанілі цяпер, галоўнае — твой жэст запомнілі, запомнілі назаўсёды. Нават і добра, што людзі не разумеюць значнасці твайго ўчынку і каштоўнасці падарунка. Чым надалей адкладаецца іх удзячнасць, тым лепей».

*Каронка*

Бываюць рэчы, якія мяне ў Мірыку страшэнна раздражняюць. Да прыкладу, жалезная каронка на зубе. Служба ў войску прывучала абыякава ставіцца да ўласнага аблічча. З'явілася самурайская суіцыднасць у паводзінах. Ад кепскага харчавання на палігоне ў брата пачалі развальвацца зубы. Ягоных роўных вялікіх зубоў яму было не шкада. І ў кароткім адпачынку яго ледзь угаварылі паставіць на зубы металічныя часовыя каронкі. Маўляў, прыйдзеш з войска, памяняеш. Прыйшоў — і яшчэ гадоў пяць бліскаў жалезнай усмешкаю. Паступова вярнулася стыльнасць аблічча: чаравікі, гарнітур, гальштук, роўная акантоўка валасоў, механічны гадзіннік, скураны пас... Нарэшце знікла і жалеза з усмешкі. Вядома, я мог перaканаць яго і раней зняць каронкі, але нашто раздражняць адзін аднаго па дробязных справах?

*Скандал*

Брат не любіць скандалаў. Хто іх любіць? Толькі бізнес ёсць бізнес, і надыходзіць момант, калі хочацца набыць пісталет і зняць праблему. Каб не набываць зброі, каб не выкарыстоўваць кулак, даводзіцца павышаць голас. Аднойчы брат так крычаў на людзей, вінных нам грошы, што свядомасць пакідала яго, а калі вярталася, даўжнікі, што імгненне таму стаялі зусім побач, былі ўжо за метры тры ад брата. Калі свядомасць вярнулася другі раз, даўжнікі былі далёка-далёка, у самым канцы даўжэзнага калідора. Дзіўна, але ўзброеная ахова тых людзей зусім не рэагавала на крык, пэўна, яна была абучаная прыпыняць фізічную, а не вербальную агрэсію. Брат крычаў пра купленыя ордэны і званні акадэмікаў, пра гандаль міністэрскімі партфелямі і разбазарванне агульных сродкаў на непатрэбныя камандзіроўкі і ўтрыманне раздзьмутага штату супрацоўнікаў, пра абяцанкі-цацанкі і нетрыманне слова. Ён усё казаў слушна і лагічна, не лаяўся, не абражаў, не

параўноўваў людзей з жывёламі. Ён браў крыкам і ўзяў, бо пасля тэлефонных прабачэнняў усе зрабілі выгляд, што ніхто ні на каго не крычаў. Важна, што брат умее крычаць да страты свядомасці.

*Драматургічнасць*

Гадоў дзесяць у мінскім тэатры «Вольная сцэна» ідзе братава п'еса «Чорны квадрат», кабарэ-дэтэктыў пра Казіка Малевіча і Віцебск 20-х гадоў рэвалюцыйнага XX стагоддзя. Каб у Мінску былі вартыя павагі тэатры, брат пісаў бы п'есы. Павагі да беларускіх тэатраў у брата няма. Яму сорамна глядзець на свае спектаклі. Але жаданне ствараць драматургію ў кішэню не схаваеш. Адно тое гатэльнае перасяленне чаго вартае. Пачалося ўсё з таго, што наш аўтобус заглух у джунглях. З аднаго боку дарогі была вада, якая называлася Сіямскім морам і плаўна пераходзіла ў Індыйскі акіян, з другога — джунглі, варухлівая пыльна-зеленаватая мешаніна з флоры і фаўны. Над аўтобусам вісела тайландскае сонца, якое стварала на дарозе саракаградусную гарачыню. Пакуль кіроўцы порkaліся ў маторы, мужчыны спраўлялі патрэбы перад аўтобусам, а жанчыны — за ім, брат прыдумаў п'есу. Трэба ўдакладніць, што людзі, здатныя дабрацца з Мінска да тайландскіх джунгляў, дзе ў той час дажываў свае апошнія дні крываж эрны сацыяліст Пол Пот, мелі ўсе характарыстыкі байцоў. Сутнасць п'есы — помста за пакуты ў джунглях. Ідэя — мы павінны пасяліцца ў гатэль, лепшы за той, што нам прапануюць. Калі аўтобус завёўся і прывёз нас у патайскі чатырохзоркавы гатэль, брат нібыта незнарок гучна кінуў падпальны сказ: «Я ж казаў, гатэль будзе найгоршым!» І пачалося... «Ды не будзем мы тут жыць!» — «Сметніца, а не гатэль!» — «Шукай нам нармальнае жытло». Адказныя за рассяленне сварыліся і рассялялі людзей шэсць гадзін... Я паспеў паплаваць у моры, паспаць і павячэраць, пакуль дайшла наша чарга перасяляцца. Нас прывезлі ў цудоўны шматпавярховы шкляны будынак з вялікім басейнам і фантанам у фае. Вакол басейна стаялі светлыя лакіраваныя сталы, на адным была засцелена

газета, на якой стаяла бутэлька «Сталічнай» і ляжаў накроены хлеб з салам. Тры бандзюганы пілі гарэлку проста з рыльца. Ну няма ў Тайландзе чарак, няма, а піць гарэлку з рыльца ці з кубка — якая розніца! Убачыўшы нашага гіда-паляка, адзін з бандзюганаў узрадаваўся і сказаў: «Што, пшэк, усё дурыш рускага брата!» Тут і пачалася мая маленькая роля... «Паехалі назад!» — «Як назад, гэты гатэль лепшы»,— паспрабаваў спыніць мяне паляк. «Рускія тут. Рускія. Тут жыць нельга!» — «Разумею, рускія...» Па дарозе ў стары гатэль брат расказваў, як напіша п'есу пра скандал у гатэлі. Не напісаў. Зрэшты, напісаў, проста не запісаў яшчэ.

*Казкі*

Яшчэ з дзяцінства я не любіў казкі з харошым канцом. Звычайна там нейкі ўмоўна станоўчы герой забівае так званага адмоўнага. Каб заканчываць не забойствам, а вяселлем, станоўчы яшчэ забіраў у адмоўнага жонку-палонніцу, ну а розных там вядзьмарак-пляткарак раздзіралі на баране. Такія фіналы лічацца добрымі, а дрэнным можна назваць такі: «Бяжыць брат-забойца па лесе, а Поўня за ім бяжыць; бяжыць брат-забойца па полі, а Поўня за ім ляціць. І бачыць брат-забойца на Поўні ясны твар свайго забітага брата». Так канчаецца беларускі казачны пераказ біблійскага сюжэта пра Каіна і Авеля. Менавіта яго я хацеў праілюстраваць у мастацкім інстытуце. Тэму мне не зацвердзілі. Можа, і правільна зрабілі, бо грамадству больш падабаюцца вяселлі, перамогі герояў над цмокамі і дабра над злом. Разважаць пра грэх братазабойства хто захоча? Я лічу, што першародны грэх Бога перад чалавекам — гэта якраз правакаванне Каіна забіць Авеля. Чым Каінаў хлеб быў горшы за Авелева ягня? Бог паставіў Авеля над Каінам, Каін загневаўся і забіў брата. Брат забіў брата... Што можа быць горш? Нічога. Чаму ў словах пра брата Міраслава я закрануў Поўню, з якой Авель глядзеў на Каіна? А таму, што я не хачу, каб нехта, ведаючы простую біблійскую схему правакацыі, пасварыў нас, не хачу, нават каб гэта быў сам Бог.

Частка чацвёртая

# ДЗЯДЗЬКА

*Словы пра дзядзьку майго Антона Кісяля*

*Эпапеі*

Дзядзька Антон зачытваўся тоўстымі кнігамі. Дзюма, Купер, Шышкоў пісалі прыгодніцкія эпапеі для такіх чытачоў, як наш Антон. Ён браў важкі двухраманны том Фенімора Купера, клаў на стол, а побач ставіў высокі кубак з моцнай і духмянай гарбатай. Антон чытаў пра прыгоды непераможнага індзейца Чынгачгука — Вялікага Змея, еў батон з яблычным павідлам і запіваў гарбатай. Захапленне раманамі прыйшло да Антона ад старэйшай сястры — Ніны. Праўда, яна зачытвалася зусім іншымі пісьменнікамі, такімі як Дзікенс, Бальзак і Заля.

*Кош*

«Валодзя, вазьмі кош і занясі ў палатку да салдат. Я сабрала паесці: сыр, хлеб, сала. Наш Антачак служыць. Можа, і ён у якой палатцы сядзіць. Хай бы нехта і яму прынёс паесці. І ў Карэліі павінны быць добрыя людзі. Яны паўсюль павінны быць… Ідзі!» — баба Ядзя дала мне кошык з харчамі. Вельмі апетытна выглядалі ў ім свежыя гуркі. Пёры цыбулі сабраныя ў пук глядзеліся шыкоўна побач з мармурова-белымі варанымі яйкамі. Ісці да чужых салдат мне зусім не хацелася. Трэці дзень за горадам, на скрыжаванні, каля шашы Мінск—Брэст стаяла вялікая брызентавая палатка. У ёй жылі чацвёра вайскоўцаў. Ішлі вучэнні. Аднаго разу па нашай вуліцы ўночы праехалі танкі. Зямля дрыжэла. У бабіным буфеце пазвоньваў шкляны посуд. Выйсці на вуліцу і паглядзець на танкі зблізку ніхто з нашых не рызыкнуў… «Пакажы-пакажы… Што ў кошыку? — салдат паперакладаў сабранае бабай Ядзяй і сказаў нечаканае: — Не вазьму. Нам тут дзеўкі столькі

ўсяго панапрыносілі, мы і за месяц не з’ямо. Нясі ўсё дадому. Скажаш бацькам “дзякуй”». Сыходзіць я не спяшаўся, было крыўдна за бабу Ядзю, якая сабрала гэткі прыгожы кошык для салдат, збірала, як для нашага Антона, а яны не ўзялі. «Пачакай! — Салдат схаваўся ў палатцы, а праз хвіліну выйшаў з поўнымі жменямі дарагіх шакаладных цукерак: — Вось табе шакалад, за добрую службу!» Салдат высыпаў цукеркі ў мой кош.

Калі Антон вярнуўся з Карэліі, я папытаўся, ці прыносіў хто з карэлаў салдатам паесці. «Ніхто ніколі нічога не прыносіў»,— адказаў былы памежнік.

*Войска*

Антон збіраўся паступаць ва ўніверсітэт, а потым перадумаў і вырашыў ісці служыць у войска. У той час былі паўсюдныя недаборы, бо хлопцаў, якія нарадзіліся ў час вайны, было зусім мала, а таму забіралі служыць на тры, на пяць, а то і на ўсе сем гадоў. Антона ў ваенкамаце сустрэлі з радасцю. Сказалі, што ён самы здаровы прызыўнік у Койданаве. Здаровага і вясёлага прызыўніка закінулі служыць памежнікам на карэла-фінскую мяжу. Антон служыў у Запаляр’і. Там нават гарэлка замярзала так, што ў бутэльцы з лёдам заставалася вадкім адно яечка спірту. Антон расказваў, што на мяжы лавілі перабежчыкаў. Усіх іх называлі бандытамі і расстрэльвалі без суда і следства. Калі маладыя салдаты не хацелі страляць у людзей. Тады гэтых непаслухмяных салдат прымушалі закапаць бандыта жыўцом. «Раз закапаеш жывога чалавека ў зямлю і наступным разам страляеш так, каб забіць, бо гэта больш гуманна і не так страшна, як жывога пад зямлёй пакідаць». Ахова мяжы на далёкай і чужой Поўначы праходзіла для Антона складана. Там ён і цяжкае раненне атрымаў. З напарнікам і аўчаркай Антон бег за бандытамі. Лейца, якой напарнік стрымліваў сабаку, заслізнула ў расколіну і захрасла ў ёй. Пакуль напарнік вырываў з расколіны лейцу, Антон бег за бандытамі адзін. Бег і наляцеў на нож. Бандыт схаваўся за дрэвам, прапусціў Антона наперад і напаў на яго са спіны. Вялікім нажом ён парэзаў

Антону бок. Бандытаў не вырataваў той крывавы напад. Іх упалявалі і пазабівалі. Антона ўзнагародзілі гадзіннікам і адпусцілі ў адпачынак ажно на цэлых дзесяць дзён.

*Казытка*

У дзяцінстве мяне, пэўна — як і ўсіх нас, прымушалі спаць пасярод дня. Былі спакойныя дні, калі я клаўся і хутка засынаў, а здараліся выпадкі, калі не спалася. Прыйшоў дзядзька Антон з войска ў адпачынак. Усе з ім гавораць не нагаворацца, усе яго слухаюць не наслухаюцца, а мне трэба ісці і класціся ў ложак. Сям'я сядзіць за сталом, а мяне праганяюць. Упарчуся, злуюся, ваўком пазіраю… Баба Ядзя кажа Антону, каб завёў мяне ў спачывалню і паклаў спаць. Антон вядзе мяне і гаворыць, што можа навучыць не баяцца казыткі. Усе дзеці яе баяцца. Усе адзін аднаму расказваюць, як бандзюкі і кітайцы заказытваюць сваіх ахвяр да смерці. Не веру я Антону. Хацеў бы паверыць, але не верыцца. Ён прапаноўвае паказытаць яго. Казычу, не смяецца. Антон кажа, што трэба навучыцца трываць казытку. Ён казыча мае падэшвы, я трываю. Казыча па рэбрах — трываю. Нават казытку пад пахамі я ператрываў. Стаміўся ад напружвання і заснуў. Прачнуўся і адразу згадаў, што навучыўся трываць казытку. Сапраўды навучыўся на ўсё жыццё.

*Паравоз*

Я з маці чакаў Антона на пероне. Ён вяртаўся з Карэліі, дзе адслужыў бясконцыя тры гады. Зіма. Чорна-сіні вечар. Блакітны рыпучы снег. Залатое святло вакзальных ліхтароў. Я страшэнна змерз. Маці прапаноўвала чакаць у вакзальным будынку, але мне хацелася стаяць на пероне. Здавалася, што так хутчэй дачакаюся сустрэчы з Антонам. Нарэшце чорна-чырвоны паравоз прыцягнуў ланцуг зялёных вагонаў. З вагонаў неяк вельмі хутка насыпалася на перон процьма пасажыраў. У таўкатнечы і мітусні мы баяліся размінуцца з Антонам. Дарэмна баяліся, бо гурт салдат у жоўта-зялёных бушлатах

нельга было не заўважыць. Маці закрычала на ўвесь вакзал: «Анто-о-он!» Адзін з салдат спыніўся і азірнуўся. Ён! Антон! Вярнуўся! Жывы!!! Маці абдымала свайго брата і нават плакала. Я стаяў на снезе і чакаў. Я чакаў пакуль дзядзька Антон скажа: «Які ты вялікі! Мужчына!» З паравоза на перон ляцела белая пара. Антон развітаўся з салдатамі, і мы ўтраіх пайшлі праз марозны вечар, на трамвайны прыпынак.

*Значкі*

Калі Антон вярнуўся з войска, у яго на гімнасцёрцы было шмат розных значкоў. «Гэх! Каб жа мне такіх значкоў на грудзі паначапляць, я быў бы самым шчаслівым хлопцам!» — так я думаў, але сказаць пра тое Антону не наважыўся. Пра значкі сказаў Толік Кісель. Ён быў на два гады старэйшы за мяне і рашучасці меў больш. Толік ужо ў школу хадзіў, а я яшчэ ў садок. «Барыс Ладаўшчук, калі прыйшоў з войска, дык параздаваў сваім хлопцам усе значкі з гімнасцёркі! Яны лёталі па вуліцы і выхваляліся, што ў іх ёсць вайсковыя значкі, а ў нас такіх няма і не будзе. Мы сказалі, што Антон вернецца з войска, і падорыць нам свае значкі!» — такую гісторыю Толік распавёў Антону. Той зняў з гімнасцёркі значкі і паначапляў нам на грудзі. Я быў такі шчаслівы, што ўсміхаўся, адкрыўшы рот. Так мяне і сфатаграфаваў Славік Александровіч. На здымку я атрымаўся з шырокай усмешкай, са значкамі на куртцы, але без пярэдніх верхніх зубоў. Дзед Бронік паглядзеў на маю зялёную куртку абчапляную вайсковымі значкамі і сказаў: «Табе можна ў войска не хадзіць, усе ўзнагароды ты цяпер маеш».

*Папяросы*

Толік Кісель скраў у свайго бацькі папяросу «Север», а я вытрас з татавай пачкі папяросу «Беломорканал». З папяросамі і запалкамі мы схаваліся за хлеў. Пакуль дарослыя за накрытымі сталамі балявалі, мы пускалі дым у сіняе вераснёвае неба. За пакурваннем нас злавіў дзядзька Антон. Ён сварыўся не столькі за крадзеж папярос, колькі за тое, што

курылі мы каля складзенай за хлявом саломы, якую яшчэ не закінулі на гарышча. Каб, не дай ты бог, салома ўспыхнула, дык мог згарэць і ўвесь наш хлеў з кабанамі ды матацыкламі. Кабаноў было шкада па-сапраўднаму.

*Дараванне*

Вэнджаны кумпяк смачнейшы за кумпяк засолены. Таму і сабраліся нашы койданаўскія мужчыны і паставілі ў Казікавым садзе вежу вяндлярні. Вырашылі шэсць кумпякоў вэндзіць. Два кумпякі прынёс Іван Мілько, два кумпякі прыцягнуў Казік Кісель і два даў наш дзед Бронік Кісель. Вэндзіць трэба доўга — некалькі дзён узапар, таму мужчыны напісалі расклад на тры змены. Антону дасталася начная змена. Ён цэлую ноч падкідаў на вуголле ядлаўцовыя лапкі, падкідаў-падкідаў, а пад раніцу заснуў. Антон заснуў, а вяндлярня загарэлася. Шэсць кумпякоў пападалі ў вуголле і моцна абгарэлі. Што не згарэла, тое спяклося. Тры сям’і засталіся без вэнджаных кумпякоў. Антон страшэнна пераживаў. Абяцаў Івану і Казіку адкупіць кумпякі. «Антачак, ды не еш ты сам сябе! Згарэла сала? Чорт яго бяры! Выкармім мы новых кабаноў…» — так мая баба Ядзя суцяшала сына. «Мама, паслухайце, што скажу… Віця Мілько не заснуў! Шурык Мілько не заснуў! А я, дурань слабавольны, заснуў у апошнюю ноч. Дзе справядлівасць? Каб п’яны быў. Каб launch пераtomлены чым. Цвярозы заснуў. Крыўдна!» — Антон ледзь стрымліваўся, каб не заплакаць. Каб чаго кепскага з ім не здарылася, усе гаспадары абгарэлых кумпякоў сабраліся і вырашылі Антону дараваць за сапсаваныя харчы. Каму іншаму можа і не даравалі б. Іншаму давялося б адкупляць кумпякі.

*Свінтус*

Койданаўскіх кабаноў мы называлі па-рознаму. Дзюдзькі, дзюдзі, кабаны, кабанчыкі, свінні... Дзядзька Антон казаў на самага вялікага Свінтус-грандыёзус. Усё дзяцінства я быў упэўнены, што наш Антон сам прыдумаў для кабана такую манументальную мянушку. Нават, паглядзеўшы камедыю

нашага земляка Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошнім», у якой той Свінтус-грандаёзус і нарадзіўся, я ўсё адно не паверыў, што сатырык Кандрат Кандратавіч вынайшаў грандыёзнага свінтуса сам. Нешта ў гэтай мянушцы ёсць праўдзіва-народнае, надаўтарскае і не зусім каб тэатральнае. Пра Свінтуса-грандыёзуса добра казаць і жартаваць у хляве, дзе пахне свежым гноем, варанай бульбай і смалістым пілавіннем.

*Дошка гонару*

Твары на дошках гонару такія афіцыйныя, што знаёмых людзей у іх цяжка пазнаць. У рэальным жыцці ў людзей твары зусім і не геройскія. Раней дошак гонару было шмат. На кожным прадпрыемстве, каля кожнай фабрыкі і кожнага завода стаялі стэнды з фотапартрэтамі герояў працы. Я асабліва не ўглядаўся ў перадавікоў вытворчасці, бо нікога са знаёмых тамака не было. Нікога, акрамя майго дзядзькі Антона. Ён працаваў токарам на маторарамонтным заводзе. Яго гераічны фотапартрэт быў выстаўлены на вулічнай Дошцы гонару. Калі я ішоў з чыгучнага вакзала ў дзедаў дом ці з дому бег на вакзал, дык абавязкова вітаўся з дзядзькавым фотапартрэтам. «Добры дзень, Антон!» — «Антон, добры вечар!» Не стану нешта-нейкае казаць пра астатніх на дошцы маторарамонтнага, а дзядзькам маім можна было ганарыцца па-сапраўднаму. Токар ён быў адметны. Каля станка і ногі згубіў. Ад штодзённага сямігадзіннага стаяння ў Антона пачаўся трамбафлібіт, а пазней зрабілася кепска з сэрцам. З завода давялося сыходзіць. Фотапартрэт яшчэ нейкі час пакрасаваўся на дошцы, але потым яго замянілі іншым ганаровым тварам.

*Праца*

Антон неяк хутка стаміўся ад жыцця. Хваробы напалі на яго з розных бакоў: ногі, сэрца, вочы... Давялося аформіць інваліднасць. Войска і завод высмакталі з нашага волата ўсе сокі. Ён занудзіўся. Пачаў выпіваць. Аднойчы раніцай Антон пазваніў у дзверы маёй мінскай кватэры. Ад Антона моцна

пахла віном. Мы пагаварылі, стоячы ў пад’ездзе, бо зайсці ў кватэру ён адмовіўся. Дзядзька папрасіў знайсці яму працу ў Мінску. Хацеў змяніць лад жыцця. Збіраўся кінуць выпіўку. Я правёў Антона на чыгуначны вакзал і даў яму грошы. Ён спрабаваў адмовіцца, але ўсё ж забраў дваццаць даляраў «на дарогу да станцыі Койданава». Працу ў Мінску для былога токара з інваліднасцю я не знайшоў. Шукаў, размаўляў са знаёмымі, прасіў. Ніхто не захацеў дапамагчы хвораму чалавеку, якому было за пяцьдзясят.

*Чаравікі*

Доўга выбіраў. Доўга прымерваўся. Доўга разлічваў, як бы атрымаць максімальную скідку на чаравікі швейцарскай фірмы «Бэйлі». Нарэшце намераў. Выбраў з трох пар зручнейшую. Праўда, зручнасць чаравікаў лепей называць зножнасцю. У зножных абновах іду я па мінскай вуліцы Багдановіча, а побач са мной крочыць мой дзядзька — Антон Кісель. Я іду па ходніку, а ён — па траве. Яна пад ягонымі ступакамі не змінаецца. Трава нават не варушыцца. Разумею — Антон мёртвы. Ён даўно пакінуў наш мала ўтульны свет. Чаму ён вярнуўся? Каб пераадолець няёмкасць гнятлівага маўчання, кажу: «Бачыш? Я сабе ў Барселоне набыў швейцарскія чаравікі. Гады тры буду насіць. У мяне такія і раней былі. За тры гады падэшва ўсё ж сцерлася. Выдатныя чаравікі...» Антон на мяне зірнуў праз тоўстыя лінзы акуляраў і кажа: «Я свае пантофлі гадоў дзесяць нашу, не здымаючы, а яны ўсё як новыя. Як надзелі мне іх... Ну ты ж разумееш... Так і хаджу. Падэшва не сціраецца зусім». Прачнуўся я, яшчэ сонца не ўставала з-за гары. Ад начной сустрэчы з дзядзькам у мяне ўзняўся настрой. Прыемна сустрэць, хай сабе і ў сне, чалавека, які цябе любіць.

*Надзейнасць*

У мяне было тры дзядзькі: Антон, Сава і Ян. Сава і Ян — бацькавы родныя браты, Антон — зводны брат маці. Усіх сваіх дзядзькоў я паважаў. У Саве бачыў разумнасць і практычнасць, Ян быў рамантыкам і вандроўнікам, Антон — сама

надзейнасць. Антон быў і самы блізкі мне, бо шмат чытаў, збіраў бацькавы і мае кнігі. Калі здаралася якая непрыемнасць ці трэба было перахавацца, я ехаў на станцыю Койданава, у Дзяржынск, да Антона. Аднойчы пракурорскія пагражалі мне арыштам, я перачакаў мітусню і тузаніну ў Антона. Было і такое, што маскоўскія і тульскія бандыты сачылі за мной, «забівалі стрэлкі» і вялі суворыя перамовы, тады ўсё заробленае я хаваў у Антона. Яму можна было верыць, як верыш маці і бацьку. Антон браў з маіх рук пакунак і хаваў яго. Дзядзька нават не пытаўся… Што ў пакунку? Грошы? Колькі іх там? Браў моўчкі, а калі разборкі з тульскімі і маскоўскімі бандытамі скончаліся, ён вяртаў мне той пакунак. Не так і шмат людзей на свеце, каму ты можаш даверыць пакунак з грашыма, сабранымі на чорны дзень. У мяне быў такі чалавек — Антон з Койданава, надзейны родны дзядзька.

*Віншаванні*

Дзядзька Антон заўсёды тэлефанаваў мне на дзень нараджэння. Здаралася так, што мы чулі адзін аднаго толькі раз у год. Я, каюся, ніколі не віншаваў дзядзьку з ягоным днём народзінаў. Ягоную сястру — цётку Рэню віншаваў і віншую, бо так у нас склалася. Зараз сяджу і сам сабе пытанне задаю… Чаму я ніколі не віншаваў Антона? Было ж прасцей простага пазваніць і сказаць некалькі добрых слоў. Сказаць, што я яго паважаю і люблю. Не званіў і не казаў. Паважаў і любіў, але ні разу яму пра гэта не сказаў. Сорамна. Асабліва цяпер, калі ў сацыяльных сетках я штодня віншую шмат самых розных сяброў, знаёмых і фрэндаў. Віншую людзей, якіх нават у рэальнасці ніколі не бачыў. Новы час — новыя павевы ў этыкеце. Добра, што чалавек можа атрымліваць процьму віншаванняў на свой дзень нараджэння… Трэба будзе Антону кветкі на магілу занесці. Скончыцца зіма, вясною ці летам паеду ў Койданава і занясу Антону кветкі, васількі. Антон заўсёды любіў васількі колер, Рэня любіла чырвоны, а ён — васількі.

# ЦЁТКА

*Словы пра цётку маю Рэню,*
*Рэгіну Браніславаўну Сахарцаву з Кісялёў*

*Кофа*

Яна так і казала: «кофа». Зняважлівасць была непадробная. Усіх, хто п'е свой «кофа», мая цётка Рэня не паважала. «Сядзяць, нічога не робяць, цэлымі днямі п'юць свой кофа!» — так яна казала пра сваіх суседзяў з другога паверха, пра грузін. Рэня жыла на трэцім. Праз вуліцу пад гастраномам збіраліся папіць кавы таксісты з усяго Сочы. З трэцяга таксісты з кубкамі гарачай кавы глядзеліся як на далоні. «З раніцы да ночы зімою і ўлетку яны тут стаяць і п'юць свой кофа. Таксі выклікаеш і можаш паўгадзіны чакаць, а яны будуць стаяць і піць свой кофа так, быццам іх ніхто і не выклікае, ніхто не чакае»,— так цётка выказвалася пра таксістаў. Каву Рэня варыла добрую, моцную, сыпала, не шкадуючы, у турку, варыла на маленечкім агні няспешна... Часам у памяці ўсплывае высокі голас Рэні: «Валодзя, ідзі пі свой кофа! Я зварыла».

*Стужкі*

Калі Рэня пайшла ў 11 клас, у яе былі чырвоныя тоўстыя агульныя сшыткі. Цэлы стосік чырвоных сшыткаў. Хацелася вырасці, пайсці ў школу дзеля таго, каб і ў мяне завяліся на стале чырвоныя сшыткі, у якіх можна пісаць, маляваць і чарціць. Акрамя чырвоных сшыткаў былі яшчэ ў Рэні featuresрознакаляровыя шаўковыя стужкі. Яна іх заплятала ў доўгую светларусую касу і завязвала на канцы касы ў бант. Мець ружовыя, белыя і бэзавыя стужкі таксама хацелася, але гэта ўсё лічылася выключна дзявочым, і хлопцу пра іх, пра такое і гаварыць, і марыць было сорамна. Мо таму сшыткаў я сабе пазней накупляў, а шаўковых стужак ніводнай так і не набыў.

*Саплівасць*

Рэня мне казала, каб не абураўся чужымі дзецьмі і не асуджаў іх за хібы ды заганы, бо свае могуць быць менавіта з рыхтык такімі ж заганамі... У маладосці Рэня не любіла саплівых дзяцей. Нічога больш гідкага за дзіцячы нос з зялёным смаркачом яна і прыдумаць не магла. Вінаваціла ў саплівасці, смаркатасці і карэлай мурзатасці яна, канешне ж, бацькоў. Не глядзяць, не лечаць, не любяць... Яна будзе сваіх любіць, глядзець і, калі што, лячыць. Так і было. Рэня любіла і Дзіму, і Вольгу. Глядзела іх, лекавала, а яны ўсё адно прахадзілі да гадоў пяці з саплёю пад носам, а то і на шчацэ.

*Вяселле*

На вяселлі ў цёткі Рэні я не быў. У дзядзькі свайго Антака быў і гуляў, таму і вяселля Рэні чакаў. Яно было далёка, на беразе Чорнага мора ў горадзе Сочы. Хто б мог падумаць? Цётка вучылася ва ўніверсітэце на беларускім філфаку і збіралася выкладаць нашу мову і нашу літаратуру. Ніякіх марскіх узбярэжжаў не праглядалася... А тут прапанова... Чытач з мамінай бібліятэкі — Жора — папрасіў пазнаёміць яго брата Гену з прыстойнай дзяўчынай. Гену пазнаёмілі з Рэняй. Смехам-жартам яны пазнаёміліся. Рэня з’ездзіла ў Сочы, прастудзіла вуха ў цягніках і вярнулася з прапановай пайсці за Гену — маладога кухара з прыморскага рэстаранчыка. Праз пару месяцаў Рэня з’ехала з Мінска ў Сочы назаўжды. Адтуль яна прыслала нам вясельны здымак і запрашэнне прыязджаць на бераг Чорнага мора ў любы час.

*Мандарыны*

Штогод пад Каляды Рэня прысылала ў Койданава скрынку абхазскіх мандарынаў. Як ні дзіўна, але мандарыны, пазагортваныя ў газеты, даходзілі і ўпрыгожвалі навагодні стол у бабы Ядзі і дзеда Броніка. Хто-хто, а Бронік Кісель любіў сваю дачку Рэнечку моцна. Перажываў за яе. Шкадаваў, што з’ехала ў далёкі свет незваротна. Разам з Бронікам я насіў на пошту

скрынкі з-пад мандарынаў, у якія мы запакоўвалі койданаўскія прысмакі: маністы сушоных баравікоў, слоікі з малінавым варэннем, кавалкі паляндвіцы ды сушаныя на печы грушы.

*Бухгалтэрыя*

У чарнаморскім Сочы выкладчыца беларускай мовы і літаратуры не патрабавалася, таму Рэня вырашыла займецць якую-небудзь больш інтэрнацыянальную прафесію. З усіх магчымых адукацый выбрала бухгалтарскія курсы. Рэня старанна прахадзіла на ўсе заняткі, а калі пачаліся іспыты, расхвалявалася. З яе мужам Генам мы праводзілі Рэню на іспыт, чакалі пад дзвярыма, пакуль яна здавала. Гулялі пад платанамі. Гена расказваў мне пра цяжкую службу на флоце. Ён праслужыў на Каспійскім моры простым матросам ажно сем гадоў. Потым працаваў на пляжы выратавальнікам, а пазней вывучыўся на рэстарацыйнага кухара. Рэня вывучылася на бухгалтара, здала выдатна ўсе іспыты і ўладкавалася працаваць у сваё домакіраўніцтва. Там і працуе больш за сорак гадоў. Калі пачыналася першая чачэнская вайна, у домакіраўніцтве ўсім надзейным людзям раздавалі зброю. Рэні прапаноўвалі пісталет. Не ўзяла.

*Білеты*

Для мяне галоўнае было назбіраць грошай на білет да Сочы. Нешта давала маці, яна большасць давала. Нешта браў у таты. Нешта сам падзарабляў. У Сочы мне грошы былі без патрэбы: мора, сонца, пальмы і абеды са сняданкамі ды вячэрамі мне выдаваліся там за проста так. Усё мне давалася, бо ў Сочы — цётка Рэня. Жыў я ў яе. Білет з Сочы да Мінска купляла Рэня. Так бывае: цябе любіць цётка, яна жыве каля самага Чорнага мора, і таму тваё юнацтва праходзіць каля сініх хваляў, па якіх праплываюць белыя параходы.

*Цукровасць*

З усіх Сахарцавых, каго я ведаў, лепш за ўсё прозвішча падыходзіць Рэні. Бацькоўскае Кісель і матчына Александровіч ёй пасавалі значна горш за салодкае Сахарцава. Яна заўжды

была салодкая і белая, пудранацукровая, кандытарская, цукерачная. Яе ўсе любілі так, як любяць здобную булачку, густа пасыпаную салодкай пудрай. Рэня нарадзілася, каб жыць у курортнай раскошы, дзе за вокнамі — высунь руку і дастанеш — гронкі вінаграду «ізабэла». Рэня штодня ідзе на працу пад пальмамі і бананавымі дрэвамі. Рэня не любіць пякельныя пляжы і глыбокую ваду. Любіць субтрапічны цень з густым водарам зманліва-атрутнай магноліі. На вечаровы Сочы Рэня любіць глядзець са сваёй лоджыі, пад якой плыве і плыве райска-курортнае жыццё вялікіх імперый.

*«Сястра»*

Аднаго разу, едучы з нашай станцыі Койданава ў Мінск, я і Рэня разгаварыліся са спадарожнікамі — маладымі хлопцамі са Стоўбцаў. Хлопцы хацелі пазнаёміцца з блакітнавокай і ружовашчокай апетытнай Рэняй, таму распытвалі ў мяне... Хто яна? Як яе зваць? Дзе вучыцца ці працуе? Рэня загадала маўчаць, я пасміхаўся, казаў абы-што, сакрэтаў сямейных не выдаваў. А запомнілася тое падарожжа, бо Рэня схлусіла хлопцам, што яна мая сястра. Ёй — школьніцы — не хацелася называцца цёткай.

*Каменьчыкі*

Рэню паклалі ў бальніцу, бо трываць вострае паколванне ў нырках было немагчыма. Зрабілі аперацыю. Рэня вярнулася з бальніцы моцна схуднелая, празрыста-блакітная. Стоячы ў лоджыі і гледзячы на чорнае сочынскае неба, Рэня сказала мне, што думала — памрэ, думала — такі і канец, боль быў невыносны... Пасля аперацыі стала лягчэй, боль пакрысе аціх. Доктар на памяць даў ёй марлевы вузельчык з яе камянямі. Рэня паказала мне свае камяні, развязаўшы марлевы вузельчык. «Гладкія каменьчыкі, а калолі так, нібыта яны ўсе з шыпоў, як вожыкі...»

*Спакой*

Усё вялікае чарнаморскае лета ў Рэні таўклася і таўчэцца процьма людзей: сваякі, знаёмыя, знаёмыя сваякоў, знаёмыя знаёмых. Нехта прыязджае, нехта ад’язджае. Дзень прыезду і дзень ад’езду — свята. У Рэні ўсё лета ў святах. Прыехалі Папулы — сястра Гены з мужам і дзецьмі. Прыехаў Славушок — брат Гены з дзвюма жонкамі і адным дзіцёнкам. Прыехала Ніна — сястра Рэні з сынамі. Прыехала Галя Стральцова — знаёмая Рэні з новым мужам, які, зразумела, не Стральцоў. Прыехаў Анатоль — стрыечны брат Рэні з жонкай Аленай Атраховіч, унучкай байкапісца Крапівы. Прыехаў Жора — брат Гены з жонкай і дзецьмі, сынам і дачкой. Прыехаў... Прыехала... Поўны дом.

Трохпакаёвая кватэра перапоўнена людзьмі. Я сплю на лоджыі. Хаджу праз пакой, дзе спіць Рэня з Генам. Ноччу заходжу ў пакой, а Гена на Рэні. Ціха прабіраюся на лоджыю. Ніхто нікому нічога не кажа.

*Мора*

У першыя гады жыцця ў Сочы Рэня на пляж хадзіла. Пойдзе, згарыць, адпакутуе, зноў ідзе. Зноўку яе цукрова-белая скура робіцца малінавай. Муж — чалавек марскі, купаецца кожны дзень з сярэдзіны вясны да восеньскіх штормаў. Думаў, і жонка прывучыцца да мора. Не! Рэня пакінула хадзіць на пляж, перастала купацца ў моры і загараць. Бывала, што цэлы год ні разу не сходзіць на мора ногі памачыць. Ну пахадзіць каля яго, ну на хвалі паглядзець, прыбой паслухаць. Не! Беларуска — жанчына сухапутная, жанчына зямлі, жанчына палёў і лясоў.

*Вайна*

Бацька Рэні — Бронік Кісель — прайшоў тры вайны. Ён вызваляў Заходнюю Беларусь, ён прайшоў усю савецка-фінскую вайну, ён быў цяжка паранены на Вялікай Айчыннай. Таму ў сям’і Кісялёў усе як толькі маглі пазбягалі

патрапляць у зоны баявых дзеянняў. Спрабаваць уцячы ад вайны спрабавалі, але яна нібыта праследавала Бронікавых дзяцей. Сын Антон быў цяжка паранены на савецка-фінскай мяжы, а Рэня пацярпела ад вайны ў сваім Сочы. У яе быў маленькі дамок-дача ў гарах. Ад гразевай лячэбніцы Мацэсты хвілін сорак пехатою. У тых мясцінах перахоўваліся дэзерціры часоў Другой сусветнай. Я таксама думаў, што калі што якое, дык можна і перахавацца. Выдатная хованка... была! Бо гэтым разам вайна прыпаўзла з іншага боку. Яна спаўзла з гор. Баевікі спалілі дамкі «лиц славянской национальности». Дамы грузін і армян не чапалі. Мо таму, што ў мяне ёсць цётка Рэня, я ведаю дакладна, на якім баку стаю ў каўказскіх войнах. На баку «лиц славянской национальности».

*Чорны соус*

Маляваць соусам я ніколі не маляваў, але паспрабаваць хацелася. Канешне, я б з вялікім задавальненнем папісаў і алейнымі фарбамі, і акварэллю, толькі грошай у мяне хапіла на адну палачку чорнага соусу. У сочынскім мастацкім салоне я набыў соус і прынёс да Рэні. Сеў за стол і намаляваў сілуэт чалавека ў доўгім паліто і капелюшы, які ішоў праз арку. Соус маляваў як кепская тлустая крэйда. Крышыўся. На адзін невялічкі малюнак я скрышыў трэць палачкі.

Увечары Рэня сказала, што ў яе чорныя пяты. Яна іх мые, а адмыць не можа. Чорныя пяты былі ва ўсіх, хто тады жыў у Рэні. Па кватэры мы хадзілі басанож, бо горача, бо падлога — добра вымыты паркет. Так я даведаўся, што драбок соусу можа расцерціся і пакрыць даволі вялікую плошчу. Ім, калі напрактыкавацца, даволі зручна рабіць танальныя малюнкі, але я соус незалюбіў, бо, як толькі яго бачыў, адразу згадваў чорныя пяты цёткі Рэні.

*Дзень нараджэння*

Кажуць, нібыта кепска, калі чалавек нарадзіўся ў святочны ці перадсвяточны дзень. Не згодны. Рэня нарадзілася сёмага сакавіка ў краіне, якая шырока адзначала Жаночы

дзень — Восьмага сакавіка. Таму дзень нараджэння цёткі лёгка запамінаўся, таму я не забываюся штогод спытацца ў мамы. Як там наша Рэня? Мама абавязкова віншуе Рэню з днём нараджэння па тэлефоне. Усе навіны, як добрыя, так і кепскія, я ведаю. Таму і лічу, што людзям, народжаным у святы, пашанцавала. Іх помняць, іх згадваюць часцей, іх не забываюць так хутка, як усіх астатніх.

*Кватэра*

У блатным савецкім фальклоры горад Сочы фігураваў і меў вялікія кацiроўкі. «Знал бы прикуп — жил бы в Сочи». «Меняю Сочи на Чикаго». Вось так: нерухомасць у Сочы прыраўноўвалася да амерыканскай. І калі мой стрыечны брат Віця Адамчык перабраўся ў Чыкага, я падумваў набыць кватэрку ў Сочы. Цётка Рэня, працуючы ў домакіраўніцтве, валодала патрэбнай інфармацыяй і прапаноўвала дапамогу. І набыў бы я нерухомасць ля самага Чорнага мора, каб не вайна. На маіх вачах загарэлася Абхазія. Вайна была зусім побач з Сочы, за рэчкай Псоў. Цётка з сумам сказала, што ў Сочы лепей не прыязджаць. Размовы пра набыццё кватэры аціхлі, замяніліся размовамі пра пажары і бандытызм. Я памяняў Сочы на Січаз пад Барселонаю, а Чыкага — на Вільню.

*Ружы*

У Сочы Рэня пасялілася на вуліцы Руж. Яна пасялілася ў аднапавярховым дамку, дзе ўсе ўваходы ў пакоі былі наўпрост з вуліцы, прыбіральня таксама была на вуліцы, але гэта была вуліца Руж. Мыцца даводзілася хадзіць у лазню, але ж яна была зусім побач. Там былі выдатныя душавыя кабінкі. Вуліца Руж пахла кветкамі магноліі і кветкамі, канешне, руж. У Сочы шмат руж, але вуліца Руж адна. На ёй і жыла мая цётка Рэня ў аднапавярховым дамку пад вялікай жоўтай чарэшняю.

*Кніга*

Калі я жыў у Рэні, мне добра чыталася. Ёсць месцы, дзе добра чытаюцца кнігі. Так было ў доме на вуліцы Руж. Там я прачытаў самастойна сваю першую вялікую кнігу, прачытаў раман Майн Рыда пра Ацэолу, правадыра індзейцаў з племені семінолаў. У доме пад жоўтай чарэшняю я захапіўся чытаннем. Я чытаў і пераказваў прачытанае Рэгіне, сваёй любімай цётцы. Яна слухала, яна была ўдзячным слухачом.

Частка пятая

# ДАЧКА І ЖОНКА

## Дачка

*Цацка-Кіцік*

Улюбёная цацка ў Ядзі — блакітны пластыкавы кіт. Ён невялікі, сантыметраў дваццаць, падрапаны і халодны. Як такога можна любіць? А вось любіць, да грудзей прыціскае, лашчыць са словамі «кіцік, мой кіцік». А колькі было крыку і слёз, калі кіціка пусцілі плыць па вясновай ручаіне ўздоўж асфальтавага ходніка! Плыў ён, плыў па іскрыстай сонечнай плыні, блішчаў вільготнымі бакамі, пакуль не праваліўся ў закратаваны вадасцёк. Кіцік даў нырца паміж металёвымі пруткамі. А Ядзя ўшчала лямант на ўсю вуліцу Янкі Маўра. Добра, што хвост ва ўлюбёнца быў значна шырэйшы за галаву. Тым хвастом цацка і зачапілася за пруты і павісла над чорна-сцюдзёным прагалам. Выратавалі мы кіціка, абцёрлі насоўкаю. Занеслі дамоў. І больш ні разу Ядзя не брала свайго ўлюбёнца на прагулянку.

*Героі*

У кожнага дзіцяці свае героі казак і апавяданняў. Ёсць агульныя: Снежная Каралева, Аладын, Гулівер і Рабінзон Круза, але з'яўляюцца і непаўторныя, асабістыя. У Ядзі іх было тры: манеўровы цягнік — Манеўруша, грузавая Бетонамяшалка і Вогнетушыцель. Чаму гэтыя рэчы, гэтыя механізмы пакінулі найглыбейшы след у яе трох-пяцігадовай свядомасці, не ведаю. Уразілі, і ўсё! І яна патрабавала ад мяне самаробных казак пра Манеўрушу, Бетонамяшалку і Вогнетушыцель. Я імправізаваў з трыма героямі... Манеўруша ездзіў і ў Маскву, і ў Варшаву па запчасткі. Бетонамяшалка выходзіла замуж за вежавы кран, і ў іх нараджаліся маленькія трактары. Вогнетушыцель выратоўваў лес ад пажару. З ім было лягчэй: галоўнае — знайсці пазнавальны аб'ект і падпаліць. Гэта ўсё станоўчыя і ўлюбёныя героі, а быў яшчэ і злосны, брыдкі, агрэсіўны Вантуз. Ён не толькі не хацеў працаваць, прамываць чарупіну і ванну. Ён і шкоду рабіў: Манеўрушы клаў цагліны на рэйкі, у Бетонамяшалку закідваў цвікі, падпальваў Палац спорту і Палац мастацтваў. Карацей, жыў паўнакроўным лёсам злачынцы з вялікай дарогі. Даўно тое было, а цяпер, чакаючы ўнука, думаю: каго ён абярэ ў свае героі, хто і што ўразіць яго душу? Час не толькі хутка ляціць, ён яшчэ хутчэй мяняе герояў.

*Дзень нараджэння*

Адзін з самых радасных дзён у маім жыцці — дзень, калі нарадзілася Ядзя, 25 лістапада 1983 года. Снегу было шмат, у лесе пад горадам ледзь не па пояс. Я вярнуўся ў Мінск з семінара маладых літаратараў, ішоў па Бранявым завулку ў бок сіняга заснежанага парку, за які сядала вялікае і яснае сонца. Жоўты, сіні, чырвоны колеры перапаўнялі мяне. Мароз надаваў усяму існаму крыштальную яснасць і гармонію. «У мяне нарадзілася дачка. У мяне ёсць дачка...» — я паўтараў і паўтараў гэта рознымі словамі і ў розных інтанацыях, уголас і сам сабе, як запавет, як заклінанне, як малітву... Калі мне цяжка, млосна, маркотна, невыносна жыць, я ў думках вяртаюся

ў той дзень, у той стан, да сініх дрэваў, да чырвона-жоўтага неба, да глыбокага чыстага снегу. Кажу: «У мяне ёсць дачка». Супакойваюся і радуюся гэтаму свету.

*Ток*

Нарадзілася мая Ядзя не ў сем і не ў дзевяць месяцаў, як звычайна родзяцца, а ў восем. Неданасіла жонка дзіця, а ўсё з-за празмернай працавітасці. Трэба было ёй ставіць вопыты ў Акадэміі навук з нейкай там цэнтрыфугаю? Трэба было даследаваць нейкія перагародкі мембран і іх уплыў на працэсы старэння чалавечага арганізма? Можа, і трэба. Але праз любоў да ўсяго чалавецтва мы ледзь не згубілі нашае дзіця. Трыклятая цэнтрыфуга ўдарыла Алену токам, ды так лупанула, што арганізм не ўтрымаўся — і давялося нараджаць. Дачка была зусім маленькая, важыла крышку больш за два кілаграмы. І яе, бедную, адразу змясцілі ў празрысты бокс на цэлы, недаходжаны жонкаю месяц. Акадэмію навук, з яе вайсковым рэжымам, доследамі над жывёламі, таталітарным мысленнем, я не любіў даўно. Пасля ўдару токам па маіх жонцы і дачцэ гэтую ўстанову наогул узненавідзеў і зрабіў усё, каб Алена не вярнулася на працу ў Інстытут геранталогіі. Яна і не вярнулася, стала мірным і рэвалюцыйным фатографам і зрабіла безліч партрэтаў нашай Ядзі.

*Розум*

«Не збірай дзецям грошы, збірай розум»,— казала баба Броня. І не толькі казала, а і вывучыла сыноў. Гэтым афарызмам-сентэнцыяй карыстаюся і я. Збіраю, праўда, грошы, каб Ядзя хоць колькі магла павучыцца ў Лонданскім універсітэце. Наколькі вучоба і веды дадаюць розуму, можна дыскутаваць. Аляксандра Македонскага вучыў Арыстоцель — атрымаўся заваёўнік. Нерона спрабаваў адукаваць Сенека — а тыран спаліў Рым. І ўсё ж англійская адукацыя адрозніваецца ад беларускай у лепшы бок. Вярнуўшыся з Лондана, Ядзя абняла мяне, пацалавала і сказала: «Татачка, я так табе ўдзячна,

так удзячна... Ты сам не ведаеш, што ты для мяне зрабіў.» Хіба ўдзячнасць — не праява розуму? Праява, самая натуральная.

*Кефір*

У Алены не хапала свайго малака, каб карміць Ядзю. На такі выпадак была ў Мінску дзіцячая кухня. Штораніцы я бег у тую кухню з бутэлечкамі, выстойваў чаргу. Чаму ў чарзе амаль не траплялася мужчын? Чаму цёмнымі зімовымі ранкамі ў мароз і снег па кефір для немаўлят прыходзілі цёткі і бабулькі? Не ведаю. Але мне ад гэтага было толькі лепш, бо «тату» пускалі без чаргі. З кухні, пазвоньваючы бутэлькамі, я бег у радзільню, дзе мая дачка вельмі добра ела і праз месяц стала звычайнай дзяўчынкай, якую мне аддалі ў ружовай капэрце вясёлыя медсёстры.

*Cool*

Найлепш нашыя стасункі можна пазначыць англійскім паняткам «cool». Паміж мной і Ядзяй заўсёды былі прахалода, свежасць, не існавала напалу і страсці. Спакой, незамутнёнасць, халадок застаюцца і цяпер. Часам і я, і яна бываем дзёрзкімі, бессаромнымі, нахабнымі, але і гэта ўкладаецца ў слова «cool». Калі адбываюцца сутыкненні, дык гэта сутычкі двух круглых рэчаў, двух шароў. Паміж намі няма вуглоў, фактур, шурпатасцяў. Пасля ўдару мы разлятаемся ў розныя бакі, як два більярдныя шары. І астываем хутка — як гарбата на скразняку.

*Кручэнне галавой*

Спачатку ні я, ні жонка не заўважалі, як Ядзя круціць галавою. Мы яе кладзём у ложак, а яна заплюшчвае вочы і пачынае матляць галавой то ўправа, то ўлева. Заўважылі — занерваваліся. У каго ні спытаем, ніхто не ведае. Нават дасведчаныя дактары хмыкалі і пацiскалі плячыма. Гэтае кручэнне мы ўбачылі праз тыдні два, як забралі дачку з радзільні.

Алена здагадалася патэлефанаваць туды і запытацца ў нянек. Тыя і адказалі, смеючыся з нашых страхаў: «Гэта яна сама сябе гушкае, закалыхвае, каб хутчэй заснуць». Сапраўды, хто гэта будзе гушкаць-закалыхваць чужое дзіця ў пластыкавым боксе? Вось яно само і закалыхваецца. А яшчэ гэты бокс прывучыў Ядзю жыць па бальнічным раскладзе: уночы спаць, есці ў тэрмін, не капрызіць. Нам ад гэтага было значна лягчэй. Выспацца ўночы пры малым дзіцяці — вялікая раскоша.

*Дзіцячы сад*

Уладкаваць Ядзю ў дзіцячы сад, як высветлілася,— вялікая праблема. Месцаў, бач ты, няма. Загадчыцы гэтага праклятага садка я паабяцаў зрабіць роспіс на калідорнай сцяне, толькі каб яна знайшла месца. Панамалёўваў я розных пеўняў ды катоў з сабакамі. Тады і месца адшукалася ў кругласутачнай групе. «Паходзіць спачатку «на суткі», а потым перавядзём у звычайную групу». Ядзя адбыла ў тым садку тры дні і захварэла. Прастудзілі гадаўкі-выхавацелькі маё дзіця. І не толькі прастудзілі... З садка мы забіралі зусім іншую дзяўчынку, чым адводзілі туды. Мурзатую, прапахлую камбітлушчам і млоснай прэласцю, маўклівую і злосную. «На сутках» было толькі дзевяць дзяцей: два мурыны, два кітайцы, армяначка і нашы бязбацькавічы. Можна было б і даглядзець, здаецца. Але гэта адно здаецца. Таму, вылекаўшы Ядзю, мы ў садок яе не павялі, пакінулі гадавацца ў бабы Жэні і дзеда Вані. Ну а роспіс, пэўна, дажыў да першага рамонту.

*Холад*

Сяброўка спытала, чаму ў мяне працоўны кабінет пазавешаны Ядзінымі фотапартрэтамі. Я сказаў: пішу пра дачку, фоткі мне дапамагаюць. Вось і слова знайшлося, якое характарызуе нашы адносіны,— «cool». «Гэта ж «халодны».— Сяброўка нібыта і пакрыўдзілася.— «Не «халодны», а «прахалодны». «Якая розніца? Вось магу расказаць пра сваю дачку... Самы запамінальны, самы кранальны для яе эпізод у стасунках з татам звязаны з цяплом, з шалікам... Ён павёз яе

ў бальніцу на аперацыю. Апендыцыт мусілі выразаць. Медсястра сказала, каб паабразалі ўсе пазногці, і дала нажніцы. Муж разуў дачку, а каб яна не ставіла босыя ногі на халодны цэмент, зняў шалік і паслаў на падлогу. Холадна было, снежань. Дачка запомніла татаў цёплы шалік на ўсё жыццё. А ты — «cool».— «Правільна, cool. Каб не халодная падлога, каб не снежань, не бальнічныя скразнякі, не адчула б твая дачка цеплыні татавага шаліка».

*Валасы*

Адна з самых яскравых праяў у канфлікце паміж бацькамі і дзецьмі звязана з валасамі. Калі адно пакаленне носіць доўгія валасы, дык другое пастрыжэцца «пад нуль». Калі «нулявая» мода стане традыцыйнай, дык наступнікі расфарбуюцца ва ўсе колеры вясёлкі ці надзенуць парыкі. І так з веку ў век. Ведаючы гэта і памятаючы, як сам гадаваў непаслухмяны кудлаты хаер, чакаў, калі ж Ядзя пачне дэманстраваць сваю дзёрзкасць і непаслухмянасць на галаве. Дачакаўся. Дзесяцікласніцай яна была і чырвонай, і сіняй, і зялёнай, і каштанавай, і ў белыя пёры, і з жоўтым вожыкам. Я не абураўся, адно прасіў, каб купляла якасную фарбу і не перапальвала валасы, бо лысая жанчына, як і рэдкавалосая, не зусім прывабна глядзіцца пасля трыццаці. Мае парады ўспрымаліся кепска, але той цырульна-фрызурны пратэст мы даўно перажылі, і цяпер у дачкі натуральныя цёмна-русыя валасы, якія аздабляюць твар вялікімі кудзерамі.

*Пялюшкі*

Цяпер, у часы памперсаў з блакітнымі тэлевізійнымі сікунамі і празрыста-зялёнымі тэлекакамі, развагі пра мыццё, сушэнне і прасаванне мяккіх пялюшак выглядаюць архаікай. Такі ўжо ў чалавека лёс — бегчы за хутказменлівай рэчаіснасцю, стаміцца і назаўсёды застацца ў мінулым. Толькі мне дарагія ўсе Ядзіны перамытыя мной і Аленаю пялюшкі. Колькі мы іх папаласкалі? Безліч, сказаў бы я, каб не ведаў Юру Маліноўскага, які палічыў усе пялюшкі, перамытыя за сваім сынам. У яго атрымалася 1700, і амаль столькі ж перамыла ягоная жонка. Ядзіны

пялюшкі я не лічыў. Пэўна, яно і правільна — не ўсё трэба падлічваць у нашым свеце. І колькі мы яшчэ перамылі б, перапаласкалі, перапрасавалі, каб толькі Ядзя была здаровая, чыстая і вясёлая? Тут ужо дакладна — безліч.

*Нянавісць*

Падзелы, перабудовы, пераарыентацыі, што адбыліся ў нашым грамадстве за апошні час, вельмі моцна ўдарылі па маіх анарха-дэмакратычных пераканаННЯХ. Адбылося тое праз Ядзю. Яна марыла стаць доктаркаю, паступіць у медыцынскі інстытут і лячыць людзей. Таму ў школе выбрала бальніцу, каб хадзіць на практыку. Там яе на працягу трох месяцаў прымушалі мыць прыбіральні, нібыта іншай працы для медсястры і быць не можа. Ядзя паскардзілася дырэктарцы школы, а тая, паабяцаўшы дапамагчы, насамрэч затаіла сваю сацыяльную нянавісць і падчас агульнашкольнага сходу сказала, што такія, як Ядзя, калі не хочуць мыць прыбіральні, хай «валяць» да сваіх багатых бацькоў і ў іх працуюць, і ў іх вучацца, як нажывацца на бедах народа. Ну і якая пасля гэтага дэмакратыя і талерантнасць? Вядома, Ядзя пачала працаваць у мяне, і жаданне стаць медыкам у нашай краіне ў яе паменела, а потым і зусім знік намер вучыцца на доктарку.

*Несупадзенні*

Чым болей думаю пра Ядзю, чым далей пішу пра яе, тым больш бачу несупадзенняў паміж створаным мною вобразам і рэальнасцю. Мая Ядзя значна меншая за сапраўдную. Так скульптура, зробленая ў натуральную велічыню, выглядае заўсёды меншай за жывога чалавека. Каб каменная ці бронзавая постаць не была замалай, яе трэба выляпіць на трацiну большай. Жывы заўсёды ў руху, заўсёды змяшчаецца ў прасторы, дыхае, паварочваецца, узаемадзейнічае з асяроддзем, падпарадкоўваецца яму і ў той самы час падпарадкоўвае яго сабе. Нават адбітак у люстэрку меншы за таго, хто ў ім адлюстроўваецца. Таму я ніколі не разумеў Нарцыса, закаханага ва ўласны твар на паверхні вады. Таму напісаць з натуры

партрэт любімай дачкі, ведаючы наперад пра паразу, цяжка. І ўсё ж...

*Адчужанасць*

Ядзя прынесла відэакасету «Вяртанне ў пекла». Насамрэч у англійскім варыянце фільм называўся «Сын, які прапаў». Мы селі глядзець яго пасля вячэры. Жонка, дачка і я глядзім нейкі трылер з мажным французскім кінаактoрам, які даволі няўмела іграе прыватнага дэтэктыва, што намерыўся перамагчы сусветную мафію педафілаў. Сюжэт квалаваты. Ну, пераможа ён вычварэнцаў, гандляроў мексіканскімі дзецьмі. Таму разглядаем Лондан. Стараемся пазнаць гатэлі і вуліцы, дзе здымалі трылер. Гэтымі размовамі перакрываем сцэны гвалту над хлопчыкамі. І я лаўлю сябе на адчуванні, што Ядзя зусім дарослая, зусім не дзіця. І калі ўранку, запаўняючы анкеты на новы пашпарт, я з сумам прапусціў графу дзеці, дык увечары парадаваўся, што мая малодшая і любая дачка вырасла. Цяпер яна дарослая і чужая. Ці дакладней, не такая блізкая і залежная, як раней.

*Школа*

Мая асабістая нялюбасць да школы перарасла ў нелюбоў да Ядзінай школы ды і да школы ўвогуле. У Ядзінай школе я быў усяго два разы. Першы раз я прывёў яе, упрыгожаную белымі бантамі, у першы клас, а другі раз занёс дырэктару заяву, каб дачку вызвалілі ад працоўнай практыкі ў калгасе, бо мы ехалі на Балтыйскае мора адпачываць. І ўсё. За адзінаццаць гадоў два разы. Вучылася Ядзя добра, паводзіла сябе прыстойна, на бацькоўскія сходы хадзіла баба Жэня. Школу мы перажылі лёгка.

*Кашалёк*

Вось яна дарослая, дарослая. А надзявае на руку кашалёчак у выглядзе чорнага каня з белым хвастом і грываю, засоўвае яму ў жывот свой пэйджар, круціць цацку перад вачыма, любуецца лупатымі шклянымі вочкамі свайго ўлюбёнца. Дзіця яна, мая Ядзя.

*Грошы*

Каму ніколі не шкадую грошай, дык Ядзі. Даю рублі і даляры нібыта сам сабе. І не проста сабе на штодзённыя патрэбы, а сабе на святы і падарункі. Ядзі шмат чаго трэба... Урокі вакалу, ровар, набор гелевых ручак, джынсы, гліцэрынавае мыла, парфума, начная дыскатэка, карткі на інтэрнэт... Але яна не злоўжывае маёй грошадайнасцю. З дзяцінства ў яе ёсць даросли разлік, жыццёвая мудрасць, якой ні ў мяне, ні ў жонкі няма.

*Кніжны кірмаш*

Па суботах мы любім хадзіць па кніжкі. «Ты сёння ідзеш?» — «Іду».— «І я з табой». Мы праходзім паміж сталоў, застаўленых кнігамі, часопісамі, касетамі і сідзіромамі. Ядзя заглыбляецца ў контркультуру... Томпсан. Наркаманы. Байцоўскі клуб. Ярафееў. Бероўз... А яшчэ бліскучыя часопісы... Купляю ёй Бероўза, каб пагаварыць пра наркаманію і растлумачыць, што Бероўз не наркот, бо наркоты не жывуць па восемдзесят гадоў і не пішуць разумных і паэтычных кніжак пра лірыку сноў. Выхаваўчы момант? А як без яго?

*Адказнасць*

Можа, каму і не трэба мець чалавека, перад якім можа быць сорамна, меркаванне якога вельмі значнае, чые думкі і адзнакі важныя... Зазвычай гэта настаўнікі, святары, начальнікі ці Бог у яго шматаблічных праявах. У мяне ж іерархія будуецца і будавалася крыху інакш. Думка таты значыла для мяне больш, чым развагі ўсіх начальнікаў разам узятых. Развагі мамы былі дый застаюцца больш каштоўнымі за дыдактыку настаўнікаў. А кожнае значнае рашэнне я прымаю, параіўшыся з братам і ацаніўшы яго вачыма дачкі. Гэта погляд не зусім цяперашняй Ядзі, а Ядзі праз дзесяць гадоў. Ну не хачу я, каб ёй было сорамна за татавы ўчынкі ні праз дзесяць, ні праз дваццаць, ні праз пяцьдзясят... А турбаваць Найвышэйшыя сілы па рознай чалавечай драбязе не лічу патрэбным. Дачкі тут больш чым дастаткова.

*Вакал*

Ядзя ў кансерваторыі бярэ ўрокі вакальнага майстэрства. Выкладчыца яшчэ пасля іспыту безапеляцыйна вынесла прысуд: голасу няма, але ёсць жаданне, смеласць і слых, а таму яна будзе займацца з Ядзяю. Не аднойчы і на маіх мастакоўскіх і паэтычных здольнасцях ставілі крыж. Але ў кожным крыжыку можна ўбачыць плюсік. Калі захацець, калі мець характар. Колькі таго характару было трэба, каб прымусіць дачку скончыць музычную школу! І слёзы, і капрызы, і лаянкі са знявагамі — усё мінула. Школу музычную Ядзя скончыла выдатна. Цяпер неістотныя ні сваркі тыя, ні пяцёркі. Істотна — для каго яна будзе спяваць. Бо вершы і песні не зусім належаць аўтару, у большай ступені яны належаць тым, дзеля каго пішуцца. Як ёй гэта растлумачыць? І ці можна вытлумачыць любоў? Пэўна, не. А без гэтага застануцца толькі пяцёркі і грошы, і мне будзе сумна.

*Холад*

Чаму самыя цёплыя ўспаміны пра Ядзіна дзяцінства ў мяне асацыююцца з холадам? Мусіць, таму, што нарадзілася Ядзя напярэдадні зімы, і ўсе хваляванні — каб жа толькі не застудзілася, не замерзла, не захварэла. І робіцца цёпла ад успаміну, як я з ёю на руках уздымаюся ў пусты намёрзлы тралейбус, дзе ўсе шыбы пазарасталі крышталёвымі кветкамі лёду. Як сядаю на рыпучае крэсла каля вадзіцельскай кабіны і трасу бразготкаю перад яе соннымі вачыма. Не спі, нам весела, мы едзем дадому, там твой цёплы ложак...

*Неадпаведнасць*

У Рыміні Ядзя пазнаёмілася з нейкай Анжэлаю Боска, семнаццацігадовай дзяўчынаю з Мілана. Яны разам хадзілі купацца ў гатэльны басейн. Мяне вельмі выратоўвала гэтае сяброўства, бо нумар у мяне быў хоць і вялікі, але ж аднапакаёвы. Заставацца з жонкаю можна было толькі, калі Ядзя купалася з Лесавічкаю, так я пераназваў Анжэлу, бо Боска па-італьянску — «лес». Сяброўства тое скончылася раптоўна.

У басейн завіталі хлопцы, пазнаёміліся з нашымі дзяўчатамі і не прамінулі ўдакладніць узрост Ядзі і Анжэлы. А калі даведаліся, што адной толькі дванаццаць, перасталі з ёй гуляць. Больш за ўсіх здзівілася Боска. Яна нават пакрыўдзілася, быццам Ядзя яе падманвала. Ну хто вінаваты, што ўсе італьянкі каратканогія і меншыя за беларусак? Чаго крыўдаваць? Добра, што здарылася тое напрыканцы адпачынку.

*Імя*

Як назваць дачку? Такое пытанне я вырашыў для сябе яшчэ ў юнацтве, яшчэ да знаёмства з Аленаю. Мне хацелася ўзнавіць у гэтым свеце сваю любую бабу Ядзю. У гонар яе і назваў дачку. Выдатнае імя для каралевы, тым больш што нашы каралевы яго і насілі. Дачцэ яно таксама падабалася, толькі не ў памяншальна-вульгарным варыянце. І калі яе трохгадовую нейкі сусед-вісус паклікаў: «Ядзька, пайшлі гуляць!», яна зазлавала і паправіла: «Я — не Ядзька, я — Ядзенька!» У сям'і ўсе называлі яе толькі так.

*Вось вам!*

Аднойчы баба Ніна, як звычайна, прывезла з лецішча сваёй унучцы шклянку суніц. Замілаванне выклікае відовішча, калі двухгадовае дзіця есць суніцы. Перамыўшы ўсе ягады, баба насыпала іх на талерку, давала ўнучцы срэбную лыжачку, і яны былі гатовыя да свайго штонядзельнага рытуалу. Тут у варэльню ўскочыла маці Алена і выхапіла ў Ядзі з-пад рук талерачку з пачастункам. «Нельга! У яе жывот баліць! А вы тут з сырымі ягадамі!» Нешта падобнае з-за жончынага пляча казаў і я. Ядзя ўзняла над галавою лыжку і замест таго, каб заплакаць, з усяе моцы кінула яе на падлогу і гучна крыкнула: «Вось вам!!!» Мы з жонкаю не чакалі такога злоснага крыку ў наш бок і ад нечаканасці засмяяліся. Толькі тады Ядзенька заплакала.

*Буду!*

У кожнага дзіцяці ёсць рэўнасць да асяроддзя. Напэўна, цяпер гэта рэўнасць да камп'ютара, які адбірае час бацькоў.

Пра дакладнасць свайго меркавання я неўзабаве змагу сказаць, паназіраўшы за ўнукам. Што да дачкі, дык яна недалюблівала тэлевізар. Не каб з ёй пагуляць-пагаварыць — уся сям'я глядзіць у тэлескрыню! Таму скрыню трэба сапсаваць. Ядзя вырвала з тэлевізара пульт кіравання. Гэта быў яшчэ тэлевізар без вынаснога пульта, а з уманціраваным у яго блокам. Зрабіла яна шкоду дэманстратыўна, ва ўсіх на вачах. Ніхто і думаць не думаў, што чатырохгадовая дзяўчынка такое ўтворыць. Давялося выклікаць майстра, які гадзіны дзве праваландаўся з дротамі, пакуль адрамантаваў і настроіў цацку для дарослых. Баба Ніна сказала Ядзі: «Бачыш, як цяжка аднавіць тое, што ты зламала. Дзядзька-майстар дзве гадзіны працаваў... Ты больш не будзеш гэтага рабіць?» — «Буду!» Гэтае «буду» і праз пятнаццаць гадоў вельмі цешыць маю маму. «У нашай дзяўчынкі ёсць характар, а гэта вельмі важна ў жыцці, і я спакойная за яе».

*Прыгажосць*

Ці прыгожая мая дачка? Не магу адказаць так, каб нехта іншы пачуў і зразумеў, бо прыгажосць чужых людзей мае складнікі, яна нібыта сканструяваная з асобных дэталяў, а дачка для мяне прыгожая ўся. Але ёсць моманты найбольшай лірычнасці і прыгажосці. Гэта калі яна зусім дзіця, і я гладжу яе перад сном па галоўцы, нібыта адганяю цяжкія думкі і страшныя сны. Яна вось-вось засне, на развітанне яна ўсміхаецца, пазяхае, замірае, спіць. Уся прыгожая.

*Вершы*

Неяк звялася традыцыя сямейных канцэртаў і вечарын, калі дзеці граюць на музычных інструментах, спяваюць і чытаюць паэзію для вузкага кола сяброў сям'і. Аднавіць традыцыю і зладзіць паэтычную вечарыну мы вырашылі ў Крыме, на дачы Максіміліяна Валошына ў Кактэбелі. На беразе мора ў белым дамку на дзве сям'і мы жылі разам з крытыкам Аненскім. Ягоная ўнучка вывучыла і чытала Пушкіна. А Ядзя не менш традыцыйна і класічна дэкламавала Багдановіча:

Проці цячэння вады
Зможа толькі жывое паплыць,
Хвалі ж ракі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыла жыць.

Дзіўна, што яна ў апошнім радку памылілася і працытавала яго з той памылкаю, якую непазбежна раблю чамусьці і я:

...Цягнуць тое, што скончыла жыць.

Трэцім выступоўцам быў сын жывапісца Эсціса. Пяцігадовы хлопчык адбарабаніў на іўрыце вайсковую рэчоўку пра непераможнасць салдат Ізраіля. Відавочна, памылак ён не зрабіў. А чамусьці прысаромлены бацька пачаў апраўдвацца і казаць, што гэтаму вершу сына навучылі ў дзіцячым садку. І мы ўсе разам пагадзіліся з думкаю, што нельга аддаваць паэзію ў рукі садкоў і садаў.

*Ролікавыяканькі*

Жонка набыла для Ядзі ролікавыя канькі. Выпатрабавала. Надта ўжо дачцэ хацелася. Модна. Каталася. Смяялася. Весялілася. І — «вось вам»... Каля рэчкі скакала з прыступак. Упала. Няўдала. Зламала руку ў перадплеччы. Сябры і сяброўкі, што дзеразавалі разам, спалохаліся і паўцякалі. Скурчыўшыся, ледзь прытомная Ядзя праседзела на прыступках больш за гадзіну, пакуль нейкі чужы чалавек не патэлефанаваў жонцы і не расказаў пра няшчаснае здарэнне. Жонка завезла Ядзю ў бальніцу, дзе ёй увагналі ў косткі жалезныя пруткі і, паклаўшы на правы бок, зрабілі расцяжку. На адным баку Ядзя праляжала ў ложку дваццаць тры дні. Схуднела, адны вочы блакітныя засталіся. Выйшла з лякарні, а праз які месяц зноў на канькі стала: «Я асцярожна». Сэрца халадзее. А цяпер лётае на ровары і марыць пра вадзіцельскія правы.

*Дакумент*

Атрымаў новы, чысцюткі, без штампаў памежных, без візаў замежных бліскучы сіне-залаты пашпарт. Дзень змарнаваў на чэргі, сваркі, тэлефонныя званкі сябрам, і ўсё

ж маю рэч. Пашпарт для новага жыцця, з пасталелым тварам на фота і адсутнасцю дзяцей. Так. Дзяцей у мяне больш няма: на думку дзяржавы, па перакананнях грамадства, паводле ўсіх дакументаў... Выраслі. Графы «дзеці да 16 гадоў» больш не запаўняю. Дробязь, фармальнасць, дэталька. А сумна. Дзеці? І сумеўся. Ёсць? Няма? Што адказаць? Ясней яснага, Ядзя ёсць. А трэба казаць «няма». Вось так.

# ЖОНКА

*Знаёмства*

Мы знаёмімся на танцах. Сутыкненне на танцульках. Хіповая маладосць, вясёлыя вечары. Палова Мінска збіраецца на вечарынкі ў тэатральна-мастацкім інстытуце. Маю на ўвазе багемны Мінск, а не горад правінцыйных савецкіх чалавечкаў і парткамуністаў. Дваццаціпалыя казлы скачуць у іншых месцах: «на карчах» — у парку імя даўно забытых чалюскінцаў, «на дошках» — на трактарным заводзе. Мана, што ў эсэсэсэрыі няма сацыяльнага падзелу. Ёсць! І добра. І выдатна. І цудоўна. Кожны ведаў, дзе яму піць, гуляць і танчыць. Ну, і я — нервовы малады мастак — танцую ў сваім інстытуце, а вяртаюся ў майстэрню і бачу: мой шыракаполы капялюш вісіць на мальберце, а не на пачапельніку. «Якая скаціна чапала капялюш?» — «Я!» — смяецца мая будучая жонка Алена. Нахабнае, ганарыстае стварэнне. У зялёных вочках — выклік. Каму? Мне? Усяму свету і святлу? Капелюшу? Хочацца ўзяць яе за скураную куртку і адарваць рукаво. Чаму не адрываю? З-за зялёных вочак, з-за выкліку свету і святлу? З-за кахання з першага позірку? Пэўна ж. Інакш як растлумачыць, што памятаю знаёмства да розных дробязей, кшталту нейкага там капелюша на мальберце? Далей банальна: віно, набліжэнне, прапановы. «Я намалюю Вас!» — «А я Вас сфа-та-гра-фу-ю!»

*Фотавершы*

Мы сустракаемся, малюемся, фатаграфуемся, цалуемся, рвём фотаздымкі, рэжам карціны, пішам маніфесты: «Пераробім!», «Зруйнуем!», «Адновім!» Маніфест, як афарызм, будуецца на парадоксах. Весела. Шумна. Аэрадынамічна выглядаюць палёты здымкаў і малюнкаў, кінутых з моста ў рэчку Свіслач. Вынаходзім форму творчасці: фотавершы — тэксты, напісаныя на здымках, ці здымкі, аздобленыя вершамі. Робім выставу ў інстытуцкім фае. Дэкан здымае. Кажа, што ў радку «ліст паляцеў» чуецца слова «паліцай». Ідыятычны крэтынізм — асноўны стыль у паводзінах дэканаў, рэктараў і прарэктараў усіх часоў, дзяржаў і народаў. Прыхільнікаў у фотавершаў няшмат, але ёсць. Сябры, вядома. Фотавершаў робім процьму. Яны — нібыта лісцікі на дрэве нашага кахання. Я іх збіраю ў папкі. Яны і праз дваццаць гадоў у нас, у шафе кніжнай, каля ложку.

*Доўгі-доўгі дзень*

Калі ты некага кахаеш, абавязкова надыходзіць доўгі-доўгі дзень. Знікае ноч: ты не спіш, ты кладзешся спаць, але не можаш заснуць, устаеш і едзеш, імчыш-ляціш да яе. Яна гэтаксама не спіць. Вы сустракаецеся а пятай раніцы, каля возера. Чаму каля возера? Каб многа неба, каб неба адбівалася ў вадзе, а вада плыла ў небе. Каб усё ў свеце пераблыталася і перамяшалася. Ноч перамешваецца з днём, зямля — з небам, чорнае — з белым. Каб ты пацёк у яе, а яна — у цябе. Гэта і ёсць доўгі-доўгі дзень.

*Вяселле*

Мы жэнімся. Вяселле не такое, як ва ўсіх. Мы распісваемся ў вёсцы Пагост. Выдатнае месца, каб спраўляць вяселле. Могілкі люблю я. Могілкі любіць Алена. Сведак бракуе. Жанчына, якая афармляе шлюб, здзіўляецца. Дзе госці? Дзе сведкі? Дзе бацькі? У Мінску чакаюць. Вы праўда прыехалі на аўтобусе? Мы — бедныя, і прыязджаем і з’язджаем з мястэчка Пагост рэйсавым аўтобусам.

*Альбом*

Ёсць рэчы, якія робіш без пэўнай мэты, ці дакладней — імпульс, які штурхае іх рабіць, тоіцца ў глыбінях інтуіцыі. Таму цяжка растлумачыць іншым, нашто я перабіраю дзіцячыя фотаздымкі Алены, зробленыя цесцем, і, адабраўшы больш выразныя, клею іх у альбом. Ні жонцы, ні цесцю той альбом не быў патрэбны. Яны не выказалі нічога адмоўнага, але і ўхвалы былі толькі ветлівыя, не больш. Ёсць і ёсць, каб не зрабіў, нічога б не здарылася б і не змянілася. Зрэшты, я не разлічваю на іх захапленне. Мяне цікавіць іншае. Што? Пра тое я даведаюся пазней, калі Ядзя пойдзе ў першы клас, сядзе за парту, і яе сфатаграфуюць з букваром. Дачка прынясе са школы здымак, я пакладу яго ў «жончын» альбом і ўбачу: Алена і Ядзя — адзін чалавек, які адначасна жыве ў двух узростах. Насуперак логіцы, рацыі, розуму і папярэднім сваім ведам я ў гэта паверу, гледзячы на падабенства фотапартрэтаў дачкі і жонкі, Алены і Ядзі.

*Яе тата*

У жонкі ёсць адзін чалавек, які любіць толькі яе і больш нікога. Калі я гавару з ім, мне падаецца, што ён нікога і не любіў за сваё доўгае жыццё, акрамя яе. За гэтае пачуццё, за гэтую адданасць і шчырасць Алена хоча аддзячыць і запісацца мардвінкаю, як бацька. Яны абое ганарацца сваёю прыналежнасцю да вугра-фінаў. Усё фінскае, эстонскае, вугорскае ў іх добрае апрыоры. Каб не мая цешча, у жончыным пашпарце стаяла б: «мардвінка». Але цешча, мудрая жанчына, сказала, што, жывучы ў славянскім свеце, трэба выбіраць славянскую нацыянальнасць. Прозвішча Бяляеў, якое носіць сям’я, выдуманае для жыцця ў савецкай імперыі. Сапраўднае прозвішча цесця — Ісаеў. Так мая жонка робіцца беларускай.

*Вершы*

Пісаць вершы недасягальнай каханцы, адсылаць іх у лістах, чакаць адказаў. Ну вядома, такога ў літаратуры безліч.

Дульсінеі, Лауры, Анабэлі Лі... А каб жонцы пісаць? Нашто? А таму, што ў Алены да мяне быў іншы муж. А таму, што ў Алены і пасля мяне можа быць іншы муж. Таму, што на Алену наплывае наркатычны сон, і жыццё страчвае вартасці, каштоўнасці і прывабнасці. Яе жыццё крышыцца і рассыпаецца. Побыт яе прыгнятае. Прэснасць патрабуе кіслаты, вогненнасці і вастрыні. Ёй балюча і нясцерпна, яна такая:

*Жонка*

У сне сустракаеш другога,
А ўдзень ты не помніш яго.
Мяцеш і шаруеш падлогу,
Чакаючы мужа свайго.
Крухмаліш, прасуеш кашулі.
Дзіцяці гатуеш абед,
Намыўшы да бляску каструлі,—
Вось так і трымаецца свет.

Вось так трымаецца свет? Не. Ён няўстойлівы, нетрывалы, самаразбуральны і самастваральны. Прынамсі, у Алены ён такі. У ім, як у кожным мастакоўскім жыцці, святы пераблытваюцца з шэрымі буднямі...

*Свята*

Панурым восеньскім дажджом
Цякла нудлівая нядзеля.
Ты праз вакно на свет глядзела.
Твая душа плыла за шклом
І клікала пакінуць дом.
Ты нечакана спахмурнела —
Схапіла за крыло душу...—
Спыніся,— я цябе прашу.

Прашу. Яна спыняецца. Дзякуючы вершам?.. Спыняецца, і дзякуй богу.

*Пераклады*

Спачатку жонка з захапленнем перакладае маю прозу. Чытае Белага, гартае слоўнік Даля. Яна сябруе з расійскімі метафарыстамі — Паршчыкавым і Яроменкам, што выкладаюць мае вершы з маскальскіх слоў. Чым больш я пішу, тым меншае жончын імпэт да перакладаў... Пазней яна наогул пакідае чытаць мае тэксты. Знаходзяцца іншыя перакладчыкі. Рэч не ў гэтым, а ў тым, што я герметычна запакоўваюся ў сваю мову. Пераклады Алены — аматарскае захапленне, якое сваечасова згасае.

*Брат-нябожчык*

Брат у Алены быў — прыгожы, чарнавокі, добры і таленавіты. Прынамсі, усе такім яго ўспамінаюць. Брат прападае. Апошні раз яго бачаць каля Акадэміі навук. Знікае ён зімою, а цела чалавека, падобнага да Аленінага брата, знаходзяць у Свіслачы, за 30 кіламетраў ад Мінска ўніз па плыні, толькі ўвесну, калі лёд сышоў. Ёсць шмат версій, хто і як яго забіў. Аленін тата наогул адмаўляецца прызнаваць у нябожчыку сына. Алена застаецца з перакананнем, што яе брата забіваюць з-за музыкі... Так-так, ён выдатна грае на гітары, ён захапляецца бітам і рок-н-ролам, ён у 1968 годзе ўдзельнічае ў першым савецкім рок-фестывалі. А саўдэпаўская імперыя змагаецца са шкоднай ідэалогіяй усімі метадамі, не грэбуе і забойствамі. Я, працуючы журналістам, спрабую шукаць праўду, але не знаходжу. Знікненне, забойства, пакуты жончынага брата застаюцца ў цемры таямнічасці. У гэтай безнадзейнасці для ўсёй Аленінай сям'і ярка і выразна гучыць адно імя — Валодзя. Таму і мой прыход у жончыну сям'ю вітаецца напачатку з-за імя. Я мушу крыху кампенсаваць сваёй прысутнасцю іх страту. Гэта не гаворыцца, не абмяркоўваецца — так ёсць.

*Падарожжы*

Што мяне, што яе, нас заўсёды некуды нясе, гоніць у блізкі і далёкі свет. Ёй хацелася стаць акіянолагам, а я марыў пра

археалагічныя экспедыцыі. Яна пачала фатаграфаваць, а я — маляваць і апісваць. Мы разам аб’ездзілі больш за дваццаць краін. Толькі ёсць істотная розніца паміж намі як падарожнікамі. Мяне зусім абыходзяць знаёмствы з абарыгенамі. І справа не ў моўным бар’еры, хоць і ў ім таксама... Проста я не лічу, што ў Барселоне магу пазнаёміцца з кімсьці больш цікавым за Гаўдзі, Пікаса ці Міро, а ў Рыме мяне захапляюць архітэктурныя абломы, бачаныя Цэзарам і Неронам. Я шукаю месцы, дзе мог бы пачуць іх галасы... Алена знаёміцца з рознымі нікчэмнасцямі... Яна вельмі дзівіцца, што я з такімі хабламі не жадаю нават бачыцца. І на яе экстравагантных фота яны выклікаюць у мяне гідоту. Каб не гэтае жончына захапленне, каб не чалавекападобная садавіна-гародніна, мы б падарожнічалі разам значна болей, а так мы шмат ездзім паасобку.

*Геніяльнасць*

Табе кажуць: «Твая жонка — геній!.. А ты — ніхто?!» Мне такое гавораць. І хто? Крываногая палюбоўніца кінарэжысёра-дакументаліста, жоўтазубая, як нутрыя. Атручаная злосцю сліна ляціць мне ў вочы. Я не лезу на сцяну. Не пускаю з рота пену. Не б’юся ў істэрыцы... Пагаджаюся. Ветліва ківаю галавою. Так, так... У адоранага чалавека ўсё мусіць быць выдатнае: і адзенне, і творы, і заробкі, і жонку ён выбірае адпаведную: таленавітую і разумную. Можна і наадварот... У таленавітай жанчыны — муж, адораны прыродаю, лёсам, Богам і яшчэ немаведама кім і чым.

*Любіць — не любіць*

Ненавіджу вяселлі, банкеты, пахаванні, урачыстасці і ўсё астатняе, звязанае з народнымі масамі, класамі, пралетарыямі, сялянамі і элітамі. Алена таксама не любіць, не шануе і не фатаграфуе: працэсіі, ускладанні вянкоў, мітынгі, маніфестацыі, ветэранаў, ветэрынараў, дзяцей з малпамі, шлюбныя ўрачыстасці, вайсковыя парады, трупы і ружы цялеснага колеру. Яна здымае іншае. Сяброўак, сяброў, сухія кветкі, чаўны, гаражы, лімоны, сінія бутэлькі і мяне. Яна любіць мяне, Пла-

тона, Магрыта, італьянскае Адраджэнне, англійскі рок-н-рол, Вільню, срэбра, Барселону, дачку Ядзю, Амстэрдам, Бэрклі з ягоным вечназменлівым дрэвам, сына Міколу і Кёльн... Яе любяць нашы дачка і сын, манекеншчыцы, японка Акеці, натуршчыкі, гаспадары вялікай маёмасці, уладальнікі заводаў, рэдактары часопісаў, рэкламныя агенты, яўрэі, кіношнікі, разумныя кабеты... Неразумныя кабеты яе таксама любяць і ў якасці доказаў шчэрацць пашчу і гавораць мне: «Твая жонка — геній! А ты — ніхто!»

*Дамова*

Я ніхто? Я муж геніяльнай жонкі! Я люблю яе. Каб зберагчы каханне, я не купляю фотапаштовак, не фатаграфую, не здымаю кіно, не працую на TV, не малюю аголеных натуршчыц. Алена ўсё можа сфатаграфаваць і зняць у кіно. Бывае, вельмі хочацца фатаграфаваць і маляваць голых баб, дзяўчат, кабет, дзевак, дзяву-у-уль... Стрымліваюся. А бывае, Алена папросіць сфатаграфаваць яе. Толькі тады. Раз на год... Фа-та-гра-фую! А яна не піша вершаў, эсэ і апавяданняў. Такая ў нас дамоўленасць. І яшчэ ёсць дамова: пасля смерці нашы душы будуць жыць разам на Кальварыйскіх могілках, на высокіх клёнах.

*Негатывы*

Тысячы і тысячы негатываў. Вялікія шафы з негатывамі. У тэчках, у капэртах, у скрынях... Алена іх разразае і загортвае ў аклееную белую паперу. Яны складваюцца і чакаюць, каб... І ніхто ці амаль ніхто не вяртаецца, не просіць надрукаваць сябе ізноў. Вяртаюцца па негатывы негатыўныя жанчыны. Яны пагражаюць, патрабуюць грошай і знішчэння тых негатываў. Яны абвінавачваюць Алену ў распаўсюджванні парнаграфіі, у сквапнасці і ў пахабстве, у хлусні і бяздарнасці. Яны таму і негатыўныя, бо ва ўсім бачаць негатыў: чорнае, злое і лжывае. Даводзіцца ўмешвацца мне, казаць: негатывы і ўся Аленіна творчасць належаць нашай сям'і. Гэта спрацоўвае. Негатыўныя бабы і дзядулі сыходзяць, а негатывы застаюцца ў шафе чакаць.

*Утульнасць*

Натуршчыца Вольга сказала: «У вашым доме нельга адпачыць. Вы самі ўвесь час працуеце, і робіцца няёмка адпачываць...» Сапраўды, я ўвесь час імкнуся зрабіць пустату, а жонка імкнецца яе запоўніць. Мне патрэбна майстэрня, дзе можна засяродзіцца на адной рэчы, на той, над якой я працую ці збіраюся працаваць. Астатняе мне перашкаджае. Жонка, наадварот, запаўняе прастору рэчамі, якія будуць дапамагаць у будучай працы. Я раблю кабінет-майстэрню, а яна — майстэрню-лабараторыю. Людзі вакол яе — натуршчыкі і лаборанты. Іншых не бывае. Натуршчыкі пераўвасабляюцца ў лабарантаў, а лаборанты ў натуршчыкаў, як плады ў кветкі, а кветкі ў плады. З кветак, пладоў, натуршчыкаў і лабарантаў жонка спрабуе стварыць утульнасць. Я ссоўваю гэтую ўтульнасць у адзін пакой, а яна распаўзаецца па ўсіх пакоях. Працэс перасоўвання перманентны, таму адпачываць у ім немагчыма. У нашым доме ніколі не бывае выходных дзён, усе дні святочна-будзённыя і будзённа-святочныя ў адначассе. Такая ў нас квяціста-рухомая ўтульнасць.

*Паэма*

Чытае паэму. На гары, над Чорным морам яна чытае сваю паэму пра мяне. А я ў гэты час пішу аповесць пра каханне да вугоркі Агі. Тое каханне скончылася чорт ведае калі, ад яго толькі згадкі-ўспаміны, з якіх я старанна складаю кароткі раман. Гэта складанне засціць рэальны свет. Аленіна паэма выглядае недарэчнасцю, несвоечасовым падарункам... Яшчэ я кінуў курыць. Мне кепска. Свет чорны і ліпучы, нібыта абмазаны смалою. Я кажу: паэма паганая. Мая злосць пераліваецца ў Аленіны вочы. Яна смяротна крыўдзіцца. Ну і чорт з ёю. Хопіць у сям'і аднаго паэта.

*Парнаграфія*

Каханне запалохваюць парнаграфіяй. Стандартны прыём. У большасці выпадкаў дзейнічае беспамылкова і спараджае лютую рэўнасць. «А ты ўяўляеш, як яна тамака з другім?!» —

«Уяўляю».— «Яна з ім, ён у ёй...» — «Гэта, радасць мая,— танная парнуха тваіх уяўленняў, гэта — танга парнаграфіі і парнаграфіка. Да любові ўсё гэта не мае аніякага дачынення, як секс і каханне — розныя рэчы. Гэта другаснае, радасць мая. Першаснае — каханне і любоў. Так проста, што можаш мне і паверыць».

*Нарцыс*

Захапленне нарцысамі бязмежнае. Яны паўсюль. Жоўтыя, белыя, свежыя, сухія і... сфатаграфаваныя. Яны ў руках у хлопчыкаў, у вянках на галовах красунь, у букетах і паасобку. Нарцыс — сімвал Аленінай веры ў вечнасць. Міфічны юнак закахаўся ў сябе і бясконца любаваўся ўласным адлюстраваннем у ручаі. Самазакаханасць паспрыяла пераўвасабленню ў кветку. Нарцыс над адбіткам — натуршчык перад аб'ектывам. Алена множыць адлюстраванні самазакаханых. Яна, як і яны, верыць у спыненую прыгажосць вечна маладога імгнення. Яна зачараваная алхіміяй фотапрацэсаў. Яе паланіла біяхімія кветкі і апарата. Азарэнні замяніліся ўспышкамі лямпачак, замест кветак — букеты двухногіх з пляскатымі пазногцямі і без крылаў. Алена прымацоўвае на плечы расквечаным грымам натуршчыкам штучныя крылы з мёртвых пёраў. Нібыта анёлы, нібыта нарцысы, нібыта вада. Нябыт. Вада цячэ з нябыта ў нябыт. Алена захопленая імгненнямі, нябыт для яе не існуе. Ёсць: нарцыс, адлюстраванне і вечнасць.

*Колеры*

Яна захопленая шматколернасцю свету, хоць я больш люблю чорна-белыя фотаздымкі і шэры свет інтэлектуальнага спакою. У каляровасці мне бачыцца больш умоўнасці і адназначнасці, такая падлеткавая паэтычнасць. На Алениных здымках сіняе — гэта мора і неба над морам, неба і мора пад пранізліва-сінім самалётным небам. Белае — снег на крыжах, твар жанчыны, пераапранутай у П'еро. Чырвонае — вочы самазабойцы, іржавая кроў жалеза, кроў мэталёвых арганізмаў. Чорнае — цені на смалістым ад гарачыні асфальце,

халаднаватыя адтуліны ў трубах, прагалы ў паўразбураных будынках. Срэбнае — вымытая рэчаіснасць. Зялёнае — вусны русалкі, што засумавала па страчаным леце. Пярліннае — след дажджавой кроплі на люстэрку, след слязы... У манахромным варыянце ўсе колеры ярчэйшыя, прынамсі, на жончыных фотаздымках.

*Талерка*

Мы ямо з аднае талеркі... У нас усе талеркі агульныя, і не толькі талеркі. Каб не адна заўвага пісьменніка, якога я неабачліва запрасіў зайсці ў госці, не стаў бы і задумвацца над талеркаю. Мы з ім выпілі ў бары, і я прапанаваў павячэраць у мяне. Жонка, як звычайна, сабрала на стол. Перад тым, як выпіць, госць спытаў: «Вы так кожны дзень вячэраеце?» Нам з жонкай робіцца непрыемна, нібыта мы абразілі чалавека, зняважылі сваім сталом з вячэраю ў вялікім пакоі. І тады мне стала шкада талеркі, з якой пачаў есці госць. Я вырашыў завесці асобныя прыборы для гасцей і для сябе. Не завялося. Абмежаваўся сваім кубкам для ранішняй кавы і нажом для падарожжаў. У жонкі ёсць таксама асобны кубак. Талерка ў нас па-ранейшаму агульная. І зранку мне прыемна есці з талеркі, з якой увечары будзе есці яна. Чамусьці менавіта раніцамі ў мяне кепскі настрой, а талерка крышку супакойвае.

*Прыгажосць*

Забароненае ў прафесійным мастацтве слова, выцертае, залізанае, абсмактанае і выплюнутае ў масавую свядомасць, дзе яно верашчыць дурнымі колерамі і вісклівымі фарбамі. І, вядома, у фотастудыю ідуць на ўзаконьванне, на пашпартызацыю менавіта прыгажосці, уласнай прыгажосці найперш. Глядзіце сюды, глядзіце на фота. Гэты прыгожы чалавек — я. Не падобны? Ну як гэта — фота і непадобна? Фота не бывае непадобным у свядомасці дылетанта. Усе ўпэўненыя, што фота не схлусіць, наадварот, яно скажа праўду, большую за праўду, праўду непарушную. Алена робіць «прыгожа». Трэба «прыгожа»? Вядома, канешне. І Алена выбудавала кан-

веер па вытворчасці фотапрыгажосці. Над канвеерам ззяе лозунг: «Непрыгожых людзей не бывае!» Верацъ, як верацъ у неўміручасць душы, вечнае жыццё на аблоках і прадказанні па картах і зорках. Алена верыць у сваю зорку. Такая атрымліваецца вера ў прыгажосць.

*Хуткасць*

Колькі разоў яна абяцала не ездзіць у цемрадзі і тумане ўзімку! Ізноў і ізноў, як за ігральны аўтамат, яна сядае за руль. І тры гадзіны імчыць, нібыта не кранаючыся з месца. Яна ўглядаецца ў малочную сцяну. Яна ўвесь час на паўдарозе дамоў, нават калі з 170 кіламетраў засталося праехаць адзін. Яна размалочвае шэсць аўтамабіляў. Два не паддаюцца аднаўленню. Яна дзівам застаецца жыць, каб я аплаціў усе разбітыя і прыдбаў ёй новы. Яна жыве хутка.

*Фокус*

Яе ўратоўвае пэўная сфакусаванасць. Размытасць, расплывістасць, сфуматнасць і няпэўнасць тояцца ў ёй. Яна так і не становіцца майстравітым рамеснікам па вытворчасці фотамэблі. Яе фоткі застаюцца з раслінамі, з кветкамі, з узмахамі крылаў і рук, з крышку нявыспелымі пладамі, з трошкі недаціошанымі дзецьмі. Фоткі не ў фокусе. Яны дапаўняюць і дафакусуюцца ў свядомасці. Яны падаюць, хістаюцца, скручваюцца, надломліваюцца і вывальваюцца з рам. Яны не трымаюцца на сценах... Яны яшчэ не навучыліся заміраць, застываць і проста паміраць. Ім няўтульна ў альбомах, няёмка пад шклом, кепска ў часопісах і кнігах. Яны падобныя на стосы карт, дзе не пазначаныя масці. Фокус працягваецца, і бессэнсоўна чакаць фінал. Птушка не выляціць з камеры. У цыліндры аб’ектыва няма белага труса. Сумнавядомай чорнай коткі не знойдзеш у срэбна-шэрых пакоях жончыных фоталабірынтаў. У тым і фокус, што замест фокусніка на арэне — мастачка. І больш ніякіх фокусаў няма.

*1 %*

Каб у мяне была магчымасць мадэрацыі жончынай творчасці — а ў мяне ёсць магчымасць мадэрацыі ўсёй жончынай творчасці,— дык вось, калі б я захацеў скарыстаць магчымасць і выкінуць 99 % яе фатаграфій у небыццё, важна было б не тое, што выкінецца, а тое, што пакінецца — гэты адзін адсотак... Дык вось, у гэты 1 % увайшлі б толькі здымкі са святлом жніўня і ягоным ззяннем у гатычным квартале Барселоны з 11.30 да 12.00. Толькі там, напрыканцы жніўня і напачатку верасня, можна засвечваць фотастужку геніяльна. І яна засвечвала — я сведка.

*Танцы*

Жонка любіць танчыць. Вельмі. Яна можа ўранку танцаваць адна. Устаць і станчыць, гатуючы сняданак. Пэўна, праз любоў да танцаў Алена цікавіцца найсучаснейшай музыкай. А я? Таксама люблю танцы. І пазнаёміліся мы на танцах. І ўвечары, пасля вячэры з віном і віскі, мы любім танцаваць, для сябе, для радасці, для поўнага жыцця. «Дзень без танца пражыты дарэмна!» — Алена паўтарае словы Ніцшэ тысячы разоў, але мне зусім не надакучвае гэты паўтор. І смерць у танцы, якую знайшоў Эйзенштэйн, мне падаецца адной з найлепшых. Танец, жэст, рух цела — найвыразнейшыя з мастацтваў, найпатрэбнейшыя з мастацтваў, найпатрэбнейшая і найпатрабавальнейшая з гульняў, з прадгульняў напярэдадні кахання і любові. Таму і танцую я з жонкаю, таму і спыняцца не збіраюся.

*Наадварот*

Мастацтва апошніх часоў толькі тым і займаецца, што з большым ці меншым поспехам фатаграфуе творы старых майстроў і атрымлівае замест іх кірмашовыя карцінкі, выкананыя ў самай рознай паліграфічнай якасці. Алена, наадварот, фотаздымкі ператварае ў карціны.

*Дзева Марыя*

Рэлігійны кіч... Што можа быць горш, калі ты мастак — прынамсі, захацеў ім звацца? Для мяне той сектар, дзе стаяць гіпсавыя Ісусы і ззяюць несапраўдным золатам абразы, быў найгоршым месцам на мяжы рэлігіі і мастацтва. Для Алены — інакш, яна з захапленнем фатаграфавала і фатаграфуе электралямпачкі, што свецяцца замест німба над лялечным тварам парцэлянавай Дзевы Марыі. І калі, смяючыся на ўвесь Рым, Алена пытаецца: «А ты купіш мне ў Ватыкане маленькую Дзеву?» — я чую ў яе весялосці сапраўдную прагу да гэтага аматарскага і таннага мастацтва. Можа, ёй і сапраўды, каб сфатаграфаваць Боскае святло, калі трэба здымаць жах усёпаглынальнага пажару, дастаткова зрабіць нацюрморт з іржавым і скарабачаным пламегасільнікам?

*Мара*

«У мяне толькі адна мара... Я малюся, каб мае веды, мой талент, мая прыгажосць перайшлі да нашай Ядзі.» Такія настроі і падобныя словы я чую ад жонкі даволі часта, але кожны раз гэта кранае мяне, і моцна.

*Грошы*

Безумоўна, грошы — інструмент мужчынскі. Толькі мужчынскі ён таму, што мужчына вырашае, колькі мусіць мець грошай яго жонка. Перакананы: каб захаваць паўнавартасную сям'ю, неабходна, каб жонка мела доступ да паловы вольных сродкаў. Інакш яна будзе адчуваць прыніжанасць, дыскамфорт, сваю другаснасць. І можна будзе пачуць: «Ты зрабіў з нас рабоў з дапамогаю сваіх грошай. Нас: мяне, сына, дачку; нас, самых блізкіх табе людзей, ты разглядаеш, як працаўнікоў. Вырашаеш толькі ты, бо ў цябе грошы, і грошы толькі твае.» Падобнае чуеш і пасля таго, як аддасі палову вольных сродкаў у агульнае карыстанне, але гэта ўжо несправядлівы папрок, зусім несправядлівы.

*Апаратура*

Яе любяць, даглядаюць, лашчаць. На яе збіраюць грошы. Па яе ездзяць у Берлін, у Маскву. Тата з Нью-Ёрка прывёз Алене фотаапарат. Калі сапсуецца аб'ектыў — драма. Калі паб'ецца лямпа ў асвятляльніку — гора. Ну а колькі размов пра Яе Вялікасць апаратуру!.. Ніканы, Кэнаны, Хасельблады — яны амаль як людзі. Гэта для мяне — людзі, а для жонкі — звышлюдзі. Яны — магі, фокуснікі, чараўнікі і алхімікі. Калі жонка мяне дастае, я забіваю такога алхіміка. Бразь яго аб кафельную падлогу — і паляцелі ў розныя бакі парэштткі апарата!.. Даводзіцца купляць новы. Але якая асалода — знішчыць якога Нікана! Большасць вайскоўцаў кайфуе не ад знішчэння ворагаў, а ад знішчэння іх апаратуры, гэта значыць, зброі. І яшчэ цікава ў сярэдзіну апарата зазірнуць, ну і жончыны слёзы — неабходная дэталь сямейнага жыцця. Што за сям'я без слёз? Апаратура...

*Гульні з варонамі*

У парку, паміж нашым кварталам і рэчкаю, на высокіх дрэвах начуюць вароны. У шарую гадзіну яны кружляюць у небе шумлівай хмараю, а потым з крэктам і карканнем уладкоўваюцца спаць. Мы з Аленаю падыходзім пад абсаджаны птушкамі клён і грукаем па камлі. Вароны ўзлятаюць, абурана пакрыкваюць, шархацяць у паветры вугальнымі крыламі і рассаджваюцца на суседнім дрэве. У парку цёмна, пустэльна. Толькі мы і птушкі. «Ого-го-го-го!!!» — крычыць Алена, а я хутка-хутка пляскаю далонямі. Такое рамантычнае здзяцініьванне. Ніколі і думаць не думаў, што ў сорак буду варон ганяць, што так прыемна сачыць за іх палётамі ў начным абзораным небе. Вароны пералятаюць на другі бок рэчкі, сыплючы картавыя праклёны на неразумных людзей. Цяпер я разумею тых, хто трымае галубоў і гадзінамі сочыць за іх куляннем у высокім сінім небе. А тых, хто ні разу не ганяў варон, не разумею, нават крыху ім спачуваю.

*Ластаўкі*

Прыбіральшчыкі ў гатэлі «Мерыдыян» спорваюць ластаўчыны гнёзды. Алена бяжыць у дырэкцыю і сварыцца, маўляў, у ластаўках, у іх прысутнасці ўся адметнасць гэтага месца. Дырэктар дае слова, што прыбіральшчыкі больш не будуць нішчыць птушыных гнёздаў. Праз год ластаўкі вяртаюцца і лепяць свае хаткі на тых самых месцах, дзе будавалі раней. Алена ганарыцца перамогаю, выходзіць на гаўбец і размаўляе з птушкамі, як з сябрамі, а тыя лётаюць вакол яе, нібыта выказваюць удзячнасць.

*Раскоша*

Жонка раскошуе. Яна ў спантанным пошуку раскошы. Яна танчыць ад лепшага да найлепшага, ад высокага да найвышэйшага... Ласкавыя шолахі бавоўны, пяшчота футраў, ломкія промні дыяментаў, цеплыня золата, халадок палацаў — шмат, шмат недасяжных для іншых рэчаў і рэчываў ёсць у яе. А жонка не спыняецца, яе вабіць раскоша кахання, раскоша ўласнай зорнасці, раскоша распуснасці і размаітасці. Яна сама ўвасабляе гэтую раскошу са скаканнем на кані ў заснежаных палях, праз могілкі, пад аблокамі, падобнымі да анёлаў, па сумётах, іскрыстых і безжыццёвых, як вечнасць, злоўленая ў шасціпромнасць сняжынкі. Мая жонка раскошная, як сняжынка.

*Вераб’інае дрэва*

Алена прыносіць з кірмашу мяшэчак чорных семак. Насыпае на падваконне. Першымі знаходзяць пачастунак сініцы. Яны падлятаюць па адной, бяруць у дзюбку семачку, нясуць на ліпу і там лузгаюць. За сініцамі, праз колькі дзён, налятаюць вераб’і. Яны дзяўбуць семкі проста на падваконні; калі ласункі скончацца, яны яшчэ доўга сядзяць на ліпе, чакаюць. Такое вось вераб’інае дрэва заводзіць Алена пад вакном нашае варыўні. Сярод птушак ёсць адна не зусім звычайная: найсмялейшая, яна першая сядае на падваконне. Спінка, хвост і галоўка ў яе вераб’іныя, а крылцы і дзюба — як у хвалістага

папугая. Верабей-папугай менш за ўсіх баіцца людзей і хутчэй за астатніх лушчыць семкі. Да вераб'інага дрэва ў нашай сям'і стаўленне самае рознае. Алена яго гадуе, я за ім назіраю, Ядзя лічыць, што толькі сініц трэба карміць, а вераб'ёў трэба праганяць. Кот Чарлі, калі бачыць птушак, вельмі хвалюецца, калоціцца і б'е хвастом — яго даводзіцца зачыняць у іншым пакоі.

*Дачка*

Мікола з цяжарнай Юляю жывуць асобна. Ядзя едзе на Дэльфійскія гульні, яна ў нас цяпер фотамастак. Алена заглыбляецца ў скруху і кажа мне, загорнутаму ў воблака алкаголю: «Калі ў нашых дзвюх кватэрах, на нашых двухстах квадратных метрах няма жыцця, значыць, мы — без Ядзі! Сэрца маё разрываецца ад самоты...»

*Каптурык*

Алена страшна перажывае за нашую нявестку Юлю. Апошнія дні перад родамі Алена так нервуецца, што пакрываецца лішаямі, чырвонымі плямкамі па ўсім целе. Чаго ты так калоцішся? Яна ж не ведае, як гэта цяжка нараджаць, а я ведаю! Роды праходзяць нармальна. Але перажыванняў у Алены неменш. Наадварот. «Як ён там? Што сніцца нашаму ўнуку?..» — пытаецца яна пасярод ночы. «Каб ты толькі бачыў, як ён высоўвае язык...» А з каптурыкам наогул гісторыя... Нявесткі падаецца, што дзіця мерзне, і яна надзявае яму не адзін, а адразу два каптурыкі. У дзіцяці адразу ж уздымаецца тэмпература. Пакуль здагадваюцца тыя чэпчыкі зняць, Алена ледзь не памірае ад страху. Чулліва гэта ўсё.

*Мянушкі*

Без мянушак у інтымным жыцці абысціся цяжка, а можа, і немагчыма. Вось і з'яўляюцца ўсе гэтыя «коцікі», «рыбкі», «зайчыкі»... Набор мянушак даволі абмежаваны. І я не люблю, калі жонка называе мяне «коцік», бо «коцікам» можа

быць і сын Мікола, і дачка Ядзя, і чарговы натуршчык-гей, і пазачарговая натуршчыца-сапфістка. А таму для жонкі, адразу пасля знаёмства, прыдумляецца інтымнае імя «Сфінкс», а калі ласкава — «Сфінксік». Ёй падабаецца, яна сама сябе называе «твой Сфінкс». Так дваццаць гадоў я і сплю ў адным ложку са сваім Сфінксам. Часам называюцца іншыя імёны, толькі не прыжываюцца яны ў нашым ложку. У апошнія месяцы Алена паўнее, і я называю яе «Збанок». Яна адгукваецца: «Я — твой Збаночак...» Ненатуральна атрымліваецца. Прыблізна. Сфінкс відавочна перамагае і застаецца ў нашым сямейным жыцці: ён жа вечны, гэты залаты Сфінкс.

*Цяжкія дні*

З нараджэннем унука Вовачкі адносіны ў сям'і трансфармуюцца. Наша Ядзенька з маленькай дачушкі ператвараецца ў цётку Ядзю, а яе гэта зусім не радуе. Вось жонка і скардзіцца на доччыну жорсткасць. «Я стамілася, а ў мяне яшчэ і цяжкія дні...» — «Нашто табе гэткія дні, калі ты ўжо бабуля?» Уяўляеш? Гэта мне Ядзя кажа...» Уяўляю, смешна да гаркаты.

*Зорная хвароба*

Калі ў каго і ёсць у нашай сям'і зорная хвароба, дык гэта ў Алены. «Я — зорка. Я здзейсніла сексрэвалюцыю ў Беларусі і Літве. Я — гей-ікона. Я... Я. Я.» Яна і не адмаўляе, што хварэе. «Так, у мяне зорная хвароба. Ну і што? Я — лепшы фотамастак у Мінску, лепшая ў Беларусі; каб жыла ў Лондане — і там была б найлепшым фатографам.» Спрачацца бессэнсоўна, бо праяўляецца хвароба пасля бутэлькі сухога чырвонага віна. Любое аспрэчванне можа выклікаць агрэсію, што выльецца ў бойку. А каму трэба бойка з жонкаю? І ўсё ж здаралася і такое, брыдкае і хабёльскае. Толькі гэта не лекуе зорнай хваробы — наадварот, канфлікты толькі ўзмацняюць яе, нібыта служаць доказамі абранасці, самаахвярнасці маёй, безумоўна, ге(й)ніяльнай жонкі.

*Алкаголь*

Найбольшую колькасць алкаголю я выпіваю з жонкаю. Піць на працы, піць з сябрамі, з сабутэльнікамі, са знаёмымі, з жанчынамі, са сваякамі і з кім бы там ні было — значна горш, чым з жонкаю. Піць у адзіноце я не прызвычаіўся: неяк няўтульна адному напівацца, бо пачынаеш раздвойвацца, каб пагаварыць, і раздвойваешся не на сябе і сябе, а на сябе і жонку — пэўна, звычка. Так што чарку я бяру з жонкаю. А яшчэ дзякуючы яе перакананням, што спіртное затрымлівае працэс старэння, у мяне было досыць мала сямейных канфліктаў з-за бутэлькі. Як гэта ні парадаксальна, але я кідаю выпіваць таксама дзякуючы жонцы. Доктарка, якая дапамагала мне вырашаць праблему з п’янствам, вельмі агрэсіўна ставіцца не да мяне, а да яе. «Калі ён адмовіцца ад гарэлкі, ён кіне і вас!» — папярэджвае лекарка Алену. «Хай кідае, мне важна, каб ён быў здаровы!» Алкаголь я пакідаю ў мінулым, а жонку не.

*Коўдра*

Колькі жывём разам, столькі я сплю з жонкаю пад адной коўдраю. Сваё назіранне: «Любіш не таго, з кім кладзешся ў ложак, а з кім прачынаешся». Варта было б удакладніць: «прачынаешся пад адной коўдрай». Напэўна, ні прасціна, ні ручнік, ні ложак так не цэментуюць сям’ю, як коўдра. А замена зімовай коўдры на летнюю і летняй на зімовую — наогул адзін з найінтымнейшых рытуалаў, бо гэта тая ўніверсальная апранаха, якую носім з жонкаю найбольш часу. Таму і колер, і якасць, і чысціня маіх падкоўдранікаў і коўдраў вельмі важная. Улюбёны ўзор на нашай пасцельнай бялізне — белыя сланы на сінім полі.

*Конь*

Чаго я не разумею, дык гэта жончынага захаплення коньмі. Яна ездзіць у Ратамку і займаецца конным спортам. Скача ў палях. Яна — вершніца. І дачку прымушае-прывучае любіць сядло. Каб я слухаў яе аповяды пра выездку, манеж і галоп,

яна б гаварыла і гаварыла. Толькі не слухаю. Хіба такое: «Конь Салют мяне пазнаў і ўкусіў, сабака!»

*Тэрмін*

Ніхто дакладна не ведае часу сваёй смерці, у гэтым і ёсць адзін з асноўных складнікаў красы і моцы жыцця. Дактары, асабліва недавукі, з лёгкім сэрцам прарочаць прысуд: «Вам засталося...» Называецца тэрмін. Нейкая медсястра паўвар'ятка сказанула Алене, што ёй застаецца жыць дзесяць гадоў, не больш. Доктар сварыцца на сястру міласэрнасці, але атрута прароцтва распаўзаецца ў Аленінай свядомасці. Лягчэй верыцца ў горшае. «Як добра, што ў цябе чыстая кроў. А мне засталося жыць з маім ракам стрававода толькі дзесяць гадоў...» — Алена спрабуе быць мужнай.

*Жорсткасць*

Каб зняць стрэс, каб хоць неяк пазбавіцца ад думак пра хуткую смерць, Алена пачынае адкаркоўваць бутэльку шампанскага. Тая выслізгвае з рук, падае на каменную падлогу і разбіваецца ўшчэнт. На гук выбуху прылятае Ядзя: «Святкуеш сваё вар'яцтва?» Жорсткасць дачкі выклікае ў жонкі слёзы. Яны цякуць некалькі дзён, высыхаюць і зноў цякуць.

*Ліставанне*

Алена вельмі любіць пасылаць і атрымліваць лісты. Пасля нашага знаёмства я атрымліваў капэрты з яе фотаздымкамі ледзь не штодня. Цяпер я атрымліваю ад яе паэтычныя пасланні па сотавым тэлефоне. Гэта хайку, напісаныя падчас прагулянак з унукам у парку. Алена піша сваім натуршчыцам і натуршчыкам, сябрам і сяброўкам, і ўсім, усім, усім, хто здатны адказаць. Часам яна распачынае ліставанне з дачкой, абменьваючца цыдулкамі па кулінарыі. «Мамусь, дай мне грошы на інтэрнэтную карту.» — «Ядзенька, дастань з лядоўні бараніну, каб размарозілася да прыходу кухаркі...» А самыя цікавыя лісты Алена з Ядзяю пішуць да Бога. Ходзяць

у Вільні ў касцёл Францысканцаў і ў вялізнай кнізе пішуць пасланні. Што яны просяць, пра што распавядаюць — не ведаю. Але дакладна: ён ім у гэтай кнізе не адказвае. Як на маю думку, дык не трэба пісаць у такой кнізе. Бо аднойчы я напісаў ліст да каханай жанчыны і не адаслаў, напісаў яшчэ адзін і таксама не адаслаў, напісаў трэці — і зразумеў, што самыя найінтымнейшыя лісты не трэба адсылаць. Іх трэба толькі пісаць. Зрэшты, можна і адаслаць.

*Фільмы*

Кіно — вечная мара Алены. Ад самага пачатку нашага знаёмства яна разважае, як будзе здымаць кіно. Часам надараецца магчымасць зрабіць маленькі сюжэцік на тэлебачанні, але за месяц да пачатку здымкаў і тры месяцы пасля паказу роліка з Аленіных вуснаў не сыходзіць слова «кіно». Кінаманка — даволі трапная характарыстыка маёй жонкі. Першым «кіно» становіцца калаж са слайдаў з мінскімі краявідамі і вершамі Багдановіча за кадрам. Нічога лепшага за дваццаць гадоў яна на тэлебачанні так і не зробіць... Адразу агаваруся. У вялікім кіно Алена наогул нічога не зробіць. У тым чароўным каляровым мастацкім кіно, у якім згарае пакаленне нашых бацькоў, Лена ні разу і не здымецца. Ёсць поўнаметражны дакументальны фільм пра лёс савецкай жанчыны, дзе Алена іграе Алену — геніяльнага фатографа, які здымае прыгажунь. На хвалі эмансіпізму фільм нават бярэ прыз на Берлінскам фестывалі, на тым самым фестывалі, дзе Алена хапае зорную хваробу, калі прывозіць туды апошні — я спадзяюся — тэлефільм пра сябе... Фільм ніхто ў Берліне не бачыць, бо ён не змантаваны. Затое ў бары вывешваюць Аленіны фотаздымкі, нібыта кадры з кіно... Сюжэт — калі тое, што атрымалася, можна назваць сюжэтам... Натуршчык-гомасексуаліст пакахаў жанчыну-фатографа, яна — садыстка і замарозіла бедную ахвяру кахання, як Снежная Каралева спрабавала замарозіць хлопчыка Кая, спакусіўшы яго магічным словам «вечнасць», выкладзеным з крышталікаў лёду. Мне сорамна, бо выродлівы сюжэт прыдумваю я сам. Наогул, усе сюжэты яе фільмаў прыдум-

ваю я. Неяк так атрымліваецца, між іншым. Так здараецца з відэафільмам «Персыфаль», калі на музыку Рыхарда Вагнера накладаліся тры розныя матывы... Першы: Алена заходзіць у стайню, сядлае каня і скача ў палі. Другі: Алена гатуе сняданак, Алена ладзіць пікнік з сябрамі, Алена ўрачыста вячэрае. Трэці: Алена фатаграфуе мадэлек, якія распранаюцца, распранаюцца і распранаюцца. Матывы пераплятаюцца — і атрымліваецца музычны кліп Вагнера. У краіне, дзе нельга нідзе нічога нікому сказаць, такі фільм мае сімвалічнае значэнне. Толькі рэальнасць карэктуе ідэю, і фільм выходзіць бяздарны з-за дурноты рэжысёра і аператара. Мантаж запрваецца цалкам. Я наогул перыядычна стаўлю крыж на кіно ў Беларусі, на кіно ўвогуле і на ўсіх творчых працэсах, дзе задзейнічаныя больш за дзве асобы. Алена ўсё лезе і лезе ў табар кінатусоўкі, здымаецца ў эратычных сцэнах і атрымлівае зорна-брутальную хваробу. Кінатэлешоўтусоўка выклікае ў мяне агіду, а Ленку шкада. Балюча глядзець на чалавека, на творцу, на мастака, чые мары разбіваюцца аб дзверы непабудаванага кіназамка. Каб Алена здымалася ў вялікім мастацкім кіно, жыла б пад нашай коўдраю не зорная хвароба, а ўзорнапсіхічна-суіцыдальная. Дакладна.

*Кроў*

Апошнім часам большасць з напісанага была прысвечана маім самым блізкім людзям: маці і бацьку, брату і дачцэ, дзеду з бабай. Здавалася, у гэты шэраг вельмі лёгка ўпішацца і партрэт жонкі. Дык не. Чамусьці нататкі пра Алену патрабавалі зусім іншага падыходу. Адказ знайшоўся ў назве апошняга бацькавага рамана — «Голас крыві брата майго». Пішучы і думаючы пра жонку, я не чуў голасу крыві. Яна някрэўная. У нас з ёю розная кроў. Яна самы блізкі мне чалавек, але з удакладненнем — сярод някрэўных. Гэтая біялагічная, антрапалагічная, расісцкая акалічнасць апынулася непераадольнай мяжою. Прынамсі, для мяне. Так, можна праспаць дваццаць гадоў на адной прасціне, падзяліць напалам усе грошы, радасці і гароты, але кроў застанецца чужой, іншай і не

сваёй. Усвядоміўшы гэта, я пакідаю спробы ўвесці жонку ў шэраг маіх найбліжэйшых і родных, а пачынаю рабіць асобны партрэт, асобны раман пра яе і толькі пра яе.

*Адлегласці*

З аднаго боку, мне крыху нестае крэўнасці, з іншага — аддаленасці. Алена заўсёды поруч, побач, блізка... Я не бачу яе цалкам, толькі фрагментарна. Не магу сказаць, ці прыгожая яна, ці шчаслівая, ці наадварот — няшчасная. Як у Сакрата: «Нельга сказаць, ці шчаслівы чалавек, пакуль ён не памёр». Божа мой, я не жадаю ёй смерці. Толькі спрабую крышку аддаліцца. Немагчыма. Нават калі я запальваю святло пасярод бяссоннай ночы, каб чытаць, Алена не сыходзіць у другі пакой, яна перакідвае падушку на цёмны бок ложка і моцна-моцна абдымае мяне за нагу, каб так спаць.

*Упрыгожванне*

Заходжу дамоў. «У мяне кроў з носу ідзе,— кажа жонка,— ідзе, і ідзе, і ніяк не спыняецца...» На белай падлозе чырванеюць крывавыя манеткі. «Ты ляж і паляжы».— «Я ляжала, колькі можна?» Сядаем палуднаваць. Левая ноздра ўся чорная ад засохлай крыві. Маўчу. Жонка нешта гаворыць пра сваіх мадэлек. Раблю выгляд, што ем, а сам думаю пра яе кроў на падлозе: яна нібыта пачула мае думкі пра родную і чужую кроў і ўпрыгожыла сваёй крывёю ўсю кватэру.

*Сюжэт*

Ёсць сюжэт, вынайдзены Гамерам і выкарыстаны Джойсам: чалавек выйшаў з дому, паблукаў і вярнуўся дамоў. Дзякуючы жонцы я вынаходжу іншы сюжэт: чалавек закахаўся, ажаніўся і пражыў-праспаў на адной прасціне 21 год.

*Сяброўка*

«Ты выдумаў яе талент, ты прыдумляеш яе мастакоўскасць, яе зорнасць... Ты ўсяляк падтрымліваеш яе вядомасць і папу-

лярнасць. Пішаш за яе інтэрв'ю, перапісваеш яе вершы, будуеш ёй студыю. Дазваляеш неверагодныя і экстравагантныя вольнасці кшталту дэманстратыўнага лесбіянства і здымак у кіно са зграямі голых геяў. Разам з гэтым ты паўтараеш казку пра вашую ідэальную сям'ю. Насамрэч, таленту ў тваёй жонкі няма...» — мармыча мая сяброўка, п'ючы куплены мною апельсінавы сок. «Калі я прыдумаў талент, значыць, гэта мая таленавітая прыдумка.» Такога я чую шмат.

*Прага*

Калі б Алена сказала мне: вазьмі і выпі маю кроў, калі толькі пажадаеш — бяры і пі, я б адмовіўся. Не таму, што я ніколі не хацеў жаночае крыві, не таму, што я ніколі не кахаў... Яе кроў — чужая, халодная, неспакуслівая. Кроў бясстрасная, кроў жонкі, а не жаданае каханкі. Яе кроў не спатоліць маёй прагі, не натоліць жорсткага голаду.

*Яе мама*

Не было дня, каб жонка не наракала на цешчу. Яны супрацьлегласці ва ўсім. І ў любові таксама. Цешча любіла сына Валодзю. Лепш казаць інакш. Яна любіць, дагэтуль любіць сына Валодзю. Калі загаворвае пра прыгажосць — людзі, падобныя да яго, прыгожыя. Яна любіць унука Міколу, яна выгадавала яго. Яна любіць мужа Ваню. Яна любіць унучку Ядзю, і яе яна гадавала. Яна любіць праўнука Валодзю, яна любіць мяне, бо — Валодзя, бо акуратна стаўлю абутак і акуратна вешаю паліто на плечыкі. Тое, што застаецца ад гэтых любовяў, дастаецца дачцэ, а ёй мала, а ў цешчы больш няма, бо тое, што застаецца, трэба яшчэ даць старэйшай цешчынай сястры Ніне.

*Жанчыны*

«Я люблю прыгожых жанчын!» — ганарыста паўтарае жонка. Сапраўды, яна любіць жанчын. Але якіх? І якія жанчыны любяць яе? Розныя. Гэтая любоў даходзіць да таго,

што паўсюль поўзаюць чуткі, і добразычлівыя шэпты лезуць мне ў вушы: «Кажуць, твая жонка лесбіянка...» Насамрэч Алена любіць жанчын з ярка акрэсленымі заганамі. Вось яе даўняя сяброўка Л.— само ўвасабленне ляноты. Яна спіць з поўначы да поўдня. Яна вялая, як лялька, ненапоўніцу набітая пілавіннем. Яна пазяхае так, што праз колькі хвілін пачынаюць пазяхаць усе, хто побач. А ёсць іншая Л.— жорсткая і лютая, такая лютая, што звяла са свету свайго мужа. С. з-за сквапнасці проста развялася, сказаўшы, што, калі здохне яе былы муж, яна эксгумуе цела, разрэжа жывот і падастае адтуль дыяменты, бо ён хавае грошы і каштоўнасці ў жываце, каб не пакралі. Н. хавае ў сваіх вантробах іншыя прадукты, замест крыві ў яе жылах цячэ тераін з алкаголем. Ненажэрнасць Н. здзіўляе. Як і зайздрасць З.: «Вой, як я вам зайздрошчу!!!» — рэфрэн яе размоў і песень. Б.— ціхая распусніца, яе блуд мяшчанскі і прымітыўны, але татальны: з кім заўгодна, як заўгодна і дзе заўгодна. П.— пыхлівая і ганарыстая, настолькі пыхлівая, што не выйшла замуж і п’е вечарамі гарэлку адна. Гэтыя сем жончыных сяброўак найлюбімейшыя, чамусьці найлюбімейшых у яе заўсёды сем, і яна іх сапраўды страшэнна любіць, толькі ўсе яны непрыгожыя. Зрэшты, калі любіш, прыгажосць не мае значэння, нават для фатографа.

*Вільня*

Не магу сказаць, што не люблю Вільні. Люблю, пішу вершы і эсэ пра Вільню, малюю Вільню. Але я не люблю Вільні так, як яе любіць Алена. У мяне ёсць здагадка, што са сваім першым мужам Алена развялася з-за Вільні. Ён абяцаў ёй пабудаваць пад Вільняю дом. Абяцаў і не пабудаваў. Я не абяцаў, а пабудаваў... Не дом, а кватэру з відам на сінагогу і касцёл Святога Казіміра. Ёй жа так хацелася мець сваё месца ў месце Вільня. Ёсць, у Вільні, сваё... Гэта каб перамагчы дзве рэчы: жабрацкае існаванне бацькоў у Вільні і свае рамантычна-ружовыя ўспаміны пра віленскае дзяцінства. Перамагла, дамаглася, зрабіла і павесіла на сцяне вялікую карціну Чыпоніса, на якой яна, аголеная, ляжыць на канапе. Самасцвярджэнне —

рыса характару. І ўсё ж на яе нельга сказаць — «вілянчанка», бо Алена не належыць якойсьці адной культуры і аднаму месцу, яна належыць адно сонечнаму святлу.

*Чужаніцы*

Дома — свае, родныя, крэўныя. За сценамі дома — чужаніцы. Яны лезуць у дом і разбураюць яго. Калі тут ідзецца пра жонку, дык разбуральнікі спакушаюць яе досыць прымітыўна. Дакладней, яна спакушаецца на адно і тое ж: на ўхваленне яе мастакоўскага таленту. Я даўно не хвалю яе фота. Колькі можна?! Не працую з ёй. Чужаніцы гэтым карыстаюцца... «Ты геніяльная, ты вартая лепшага жыцця.» Яны прапануюць: выставы ў Лондане, фотастудыю ў Маскве, працу ў Дзюсельдорфе... Яны хлусяць, жонка верыць. Па праўдзе, жонка не верыць, а верыць фатограф, які жыве ў жонцы. Калі ашуканства і ашуканцы выкрываюцца, калі наводзіцца цвярозая рэзкасць ва ўзаемаадносінах, я ведаю, што гэта часова, а жонка клянецца, што назаўсёды. Не бывае назаўсёды. Мой клопат — бараніць дом ад чужынцаў. Я іх пазнаю па алейных вочках і кажу: «Цябе зноў падманваюць». А яна... Ну хто ж не хоча, каб яго хвалілі і спакушалі?!

*Нельга сфатаграфаваць*

Развагі пра тое, што нельга сфатаграфаваць, пераследуюць Алену. І тое, і гэтае нельга... Збольшага яе развагі зводзяцца да раскручвання фотастужкі ў кінастужку... «Чарада падзей. Доўгае падарожжа на машыне. Скрозь ноч, праз палі, праз лес, зноў праз палі... Дом цёмны, бязлюдны... Сходамі на самы верх... Вялізны пакой перапоўнены музыкаю. Какафонія. Чатыры мужчыны і жанчына... Цішыня. Sex. Маўчанне.» Чаму гэтага нельга сфатаграфаваць? Гэта напэўна з несфатаграфаванага. Ці сфатаграфаванага на ўяўную фотастужку. Мае аргументы ігнаруюцца. Мае развагі пра нелінейнае святло літаратуры не чуюцца. Алена чапляецца за метафары, за паэтычную бессэнсоўнасць, за інтуіцыю. Я не спрачаюся. Мяне мала цікавяць аб’екты, якія не сфатаграфаваліся, я не сумую

па іх, я не прысвячаю паэмы хвалі, якая ўпала, рассыпалася і стала мінулым, мяне хвалюе тая хваля, што падае, ляціць, гудзе. Мяне захапляе тое, што фатаграфуецца, пішацца, творыцца і ствараецца. Саўдзельнасць у боскім стваральным руху — маё прызначэнне... Жонка — іншая, яна сама сабе купляе зрэзаныя кветкі і, гледзячы на іх, піша вершы пра тое, што нельга сфатаграфаваць.

*Партрэт*

Калі я закахаўся ў Алену, дык несупынна яе маляваў. Цяпер у мяне процьма тых малюнкаў... Але ёсць адзін партрэт, зроблены алейнымі фарбамі на палатне, які ўвабраў у сябе ўсе мае графічныя пошукі. Алена яго любіць і заўсёды вешае на сцяну. Гэтая далёка не найлепшая з маіх карцін часам моцна раздражняе вочы. Аднойчы, у прыпадку вар'яцкай лютасці, я хапаю нож і рэжу палатно, нявечу сваё, каб не калечыць ейнае. Алена хавае дзіравую карціну за шафу. Праз тры гады яна вязе парэзаны нажом партрэт да рэстаўратараў. Тыя здзіўляюцца: «Ніколі не здаралася, каб нехта хацеў аднавіць сучасную карціну». Цікава, якім будзе жончын партрэт пасля аднаўлення?

Частка шостая

# УНУК

*Падарунак*

Жонка гаворыць: «Найлепшы падарунак, які я зрабіла табе за жыццё,— унук Вова. Ён, як і ты,— Валодзя Адамчык. Мы ўсе будзем яго любіць, як і цябе». Не пярэчу. Не каментую. Усміхаюся, бо прыемнасць у невядомасці.

*Водар*

Узяў Вову на рукі. Іду з ім праз вераснёвы парк. Яму толькі тры месяцы. Яму яшчэ цяжка трымаць галаву. І я прыціскаю яго лоб да сваёй шчакі. Водар... У дзяцей пяшчотны водар. Першага разу я выразна пачуў гэты пах, калі выцягнуў з калыскі сваю стрыечную сястру. Ёй было таксама месяцы тры. Яна капрызілася, плакала... Каб супакоіць, я ўзяў яе на рукі. Водар дзіцяці мяне здзівіў. Прэсна-салодкі, чысты і моцны. Так пахла мая Вольга, так пахла мая Ядзя. Цяпер такі водар сыходзіць ад Вовы. Чужыя дзеці пахнуць крышку інакш, менш салодка і больш прэсна.

*Перацяканне*

Алена праспала цэлы дзень. Яна нечым атруцілася — на Камароўскім кірмашы каштавала розную садавіну. Як ты купіш, не пакаштаваўшы?! Да гэтага Алена прастудзілася, катаючыся ў полі на кані. Хваробы нападаюць на яе адна за адной, нібыта прырода паўстала супраць яе цела. Алена марнее проста на вачах. Асабліва выразна перамены бачацца тады, калі яна бярэ ўнука на рукі. Той нібыта пачынае расці. Я бачу, як ён павялічваецца, а баба змяншаецца. Жыццё наўпрост перацякае з яе ў яго. Ад назірання за перацяканнем жыццёвай сілы я нямею.

*Прыход*

«Вова прыходзіў»,— кажу брату. «Прыносілі...» — «Цяперака ў нас гэта называецца «Вова прыходзіў».— «Ну і як?» — «Спакойны хлопчык, спаў, пакуль мы вячэралі. Прачнуўся, на рукі папрасіўся... Усё яму цікава... Спрабуе нешта сказаць. Белы, чысты, вочы блакітныя...» — «Адчуваеш сябе старым?» — «Так».

*Адлегласць*

«Як твая ўнучка?» — знаёмы мастак Валодзя глядзіць на мяне блакітнымі вачыма. «Унук!» — «Прабач.» — «Унук —

Вовачка!» Смешна. Мы добра помнім старэйшых вучняў у сваёй школе і студэнтаў у сваіх інстытутах і акадэміях, кепска — маладзейшых. А ўнукі страчваюць пол, так яны далёка ў нашай памяці. Мастака Валодзю не ўратоўвае ні тое, што мой унук — ягоны цёзка, ні тое, што я трэці раз кажу яму пра гэта. Чужыя ўнукі ўжо на той адлегласці, калі неабавязкова ведаць іх імёны, усё адно не дагукаешся.

*Рэўнасць*

Здавалася б, чаго... Але ёсць зайздрасць і рэўнасць да новага чалавека. Вось ён будзе жыць, а ты, а мы, а ўсе... «Вядома, у Вовачкі будзе ўсё!» — з ледзь прыхаванай злосцю кажа Ядзя. Яна больш за ўсіх у сям'і страціла з прыходам Вовы ў гэты свет. Яна была малодшая, найлюбімейшая, найдаражэйшая... А тут ён — цэнтр увагі, цэнтр размоў і перажыванняў. А яна — цётка Ядзя. З дзяўчынкі ды ў цёткі. І незваротнасць. Да любові, што прыйдзе, што з'явіцца, трэба яшчэ прывыкнуць, і не толькі Ядзі, а ўсім нам, хто страціў, але ж і набыў.

*Гу!*

Вова гаворыць: «Гу-у!» Смяецца. Хапае мяне за нос і вострым, як лязо, пазногцікам пакідае драпіну. Цяпер і ў мяне, і ў Вовы аднолькава падрапаныя насы. Вось табе і «гу».

*Песні*

Успомніць не магу, калі Алена спявала. Ці то пяць гадоў мінула, ці то ўсе дзесяць. А тут чую — пяе. У нядзелю Мікола з Юляю ходзяць у басейн, а Валодзю пакідаюць у нас. Вова — наш анёл. Чысценькі, светленькі, дабрадушны, адно што ў свае паўгода яшчэ не размаўляе. Ён смяецца і вельмі любіць, калі яму песні спяваюць. Жонка спявае, ну і я раблю «ля-ля-ля-ля». Унук вярнуў нам песні.

*Словы пра прозвішча маёй маці — Ніны Глобус*

# УСТУП

*Псеўданім і пашпартнае прозвішча*

Тата вельмі любіў сваё прозвішча Адамчык і ганарыўся ім. У гутарках пра наша прозвішча ён заўжды падкрэсліваў ягоную чалавечнасць. Не стану казаць, што я не люблю сваё пашпартнае прозвішча,— і люблю, і ганаруся ім, але падпісваю свае літаратурныя і мастацкія творы псеўданімам, бо не люблю блытаніны. Тата — Вячаслаў Уладзіміравіч Адамчык, я — Уладзімір Вячаслававіч Адамчык. Падабенства настолькі вялікае, што кожная другая бухгалтарка блыталася, выпісваючы ганарары, таму я вырашыў падпісвацца прозвішчам маці — Глобус. А каб не крыўдзіць тату, дадаў да Глобуса імя Адам. Так з'явіўся мой псеўданім — Адам Глобус. Большасць маіх чытачоў лічыць псеўданім прыдуманым і штучным, але я да такога памылковага стаўлення прызвычаіўся.

# ГЛАВА ПЕРШАЯ

*Глобус і Напалеон*

Пасля першай публікацыі маіх вершаў у маскоўскай «Літаратурнай газеце» я атрымаў ліст ад сям'і Глобусаў з Тбілісі. Яны пісалі, што іх продкі некалі жылі ў Гродна. У сям'і захавалася легенда пра паходжанне прозвішча Глобус... Сам Напалеон звярнуўся да іх сваяка, заможнага і разумнага яўрэя, каб той паказаў на карце найлепшы шлях да Масквы. Разумнік дапамог Напалеону, а той у якасці ўдзячнасці назваў яго жывым глобусам. У памяць пра сустрэчу з Напалеонам яўрэй змяніў сабе прозвішча на Глобус... Нашчадкам гродзенца я даслаў паштоўку з падзякаю за казку. На гэтым ліставанне і скончылася.

*Глобусы і Букоўскі*

Я моцна здзівіўся, прачытаўшы прозвішча Глобус у цітрах геніяльнага фільма «П'янь», які быў пастаўлены французскім рэжысёрам Барбетам Шродарам па творах амерыканскага літаратара Чарльза Букоўскі. Галоўную ролю гіперрэальнага п'янчугі выканаў Мікі Рурк. Прадзюсарамі шэдэўра былі пазначаны Менахем Голан і Ёрам Глобус. У мяне нават узнікла жаданне напісаць ім ліст у Галівуд. Але сваё жаданне я не здзейсніў. Пасаромеўся, пэўна ж. Пасля заўчаснай смерці Ёрама Глобуса Менахем Голан вярнуў сабе сваё сапраўднае прозвішча. І не трэба здзіўляцца! Ён стаў Глобусам. Голанам Менахем зрабіўся ў 1948 годзе, калі служыў у ізраільскіх вайскова-паветраных сілах. Тады ён мяняў прозвішча з патрыятычных меркаванняў: Голан гучала ў Ізраілі больш патрыятычна за лацінскае Глобус.

*Глобус і караімы*

Не ведаю, наколькі патрыятычна гучыць прозвішча Глобус для караімаў, але старшынёй таварыства караімаў у сучаснай Літве з'яўляецца менавіта Глобус. Караімы — татары, што спавядаюць іудаізм. Таму можна ўпэўнена казаць, што прозвішча Глобус носяць людзі розных нацый.

*Глобус і Сікорскі*

У Архіве Польскага інстытута і музея імя генерала Сікорскага ёсць дакумент ад 17.VI.1944, у якім згадваецца Сцяпан Глобус, праваслаўны з Баранавіцкага павета, ён служыў у першай танкавай дывізіі, у дзявятым стралецкім батальёне. Выпіску ў архіве зрабіў для мяне навуковец Ігар Войніч.

*Глобус у «Канвееры смерці»*

Сярод кніжак серыі «Архіў найноўшай гісторыі» ёсць зборнік дакументаў, сведчанняў, успамінаў, складзены Ігарам Кузняцовым,— «Канвеер смерці». У раздзеле «Мартыралог. Спіс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных на тэрыторыі Заходне-Сібірскага краю (Томская вобласць) у 30—40-я гады і ў пачатку 50-х гадоў» я знайшоў такі запіс: «ГЛОБУС Мірон Ільіч (1895, Шчучын) жыў у Томску, загадчык кафедры № 2 Томскага ўніверсітэта. Арыштаваны ў 1937. Расстраляны».

*Глобус — поўны кавалер ордэна Славы*

У канверт, які я атрымаў ад галоўнага рэдактара віцебскага часопіса «Мішпоха» спадара Аркадзя Шульмана, быў укладзены ліст з Арэнбурга. У ім я прачытаў пра Льва Глобуса — поўнага кавалера ордэна Славы. «…22 снежня 1944 года падчас блакіравання вялікага дома на ўскраіне горада Секешфехервара, што ў Венгрыі, Глобус выявіў на гарышчы гэтага дома кулямётчыка. Прабраўшыся на гарышча, ён знішчыў кулямётны разлік і дваіх аўтаматчыкаў. Там жа ж

ён захапіў варожую радыёстанцыю і перадаў яе ў штаб палка...» Леў Глобус загінуў у Будапешце 1 студзеня 1945 года. Нарадзіўся ён «у 1914, быў сяржантам і камандаваў аддзяленнем штурмавога інжынерна-сапёрнага батальёна. Да вайны ён жыў па адрасе: Чкалаўская (цяпер Арэнбургская) вобласць, горад Орск, вуліца Сцяпана Разіна, дом 78». За свае подзвігі Леў Глобус «быў узнагароджаны акрамя ордэна Славы ўсіх трох ступеняў ордэнамі Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі і трыма медалямі «За адвагу». Кожная з гэтых узнагарод — сведчанне доблесці, мужнасці, высокага вайсковага майстэрства... Пакуль што не знойдзена сваякоў нашага славутага земляка».

Пісаць у Арэнбург я не стаў.

# ГЛАВА ДРУГАЯ

*Ліда і Пілаты*

Даўно збіраўся наведаць мясціны, дзе жыў мой дзед Валодзя Глобус. Мама казала, што жыў ён на Капыльшчыне, у пасёлку Жыліхава. Там і маці мая — Ніна Глобус — нарадзілася. Вось і выбраўся я ў вандроўку з журналістам Змітром Бартосікам. У нядзелю прыехалі мы ў тое Жыліхава. Раніца была хмурная, а пасярод дня праяснілася. «Добра ў іх тут, у Жыліхаве, сонца свеціць і цёпла!» Бартосік пасмяяўся з майго хвалявання.

Пачалі мы людзей распытваць пра маіх Глобусаў. Спачатку ніхто не мог згадаць іх. Усе казалі, што ў Жыліхаве Глобусы ніколі не жылі. Валодзю Глобуса ніхто не памятаў. Нарэшце адна цётка згадала, што ў Жыліхаве працаваў Мікалай Глобус, сын Мікалая. Яшчэ знайшлі мы жанчыну, што вучылася ў школе з Галяй Глобус. Яна і падказала, што ўсе Глобусы жылі ў пасёлку Гулевічы. Ва ўсіх маміных дакументах пазначаны менавіта пасёлак Жыліхава, таму я вырашыў адведаць

жыліхаўскія могілкі. А раптам тамака знойдзецца хоць нейкі след-напамін пра майго дзеда Валодзю.

Колькі мы ні хадзілі па кладах, а ніводнага Глобуса не знайшлі. Затое там вельмі шмат Пілатаў. Ледзь не палова магіл належыць людзям з прозвішчам Пілат. Як ні паварочвай, а прозвішча Глобус мне падабаецца больш за прозвішча Пілат. Зрэшты, і Пілат гучыць магутна, па-імперску. І ўражвала тое, што старажытны біблейскі вобраз меў не толькі мужчынскае, але і жаночае аблічча. На якое імгненне мне падалося, што я недзе ўжо бачыў Пілата ў жаночым абліччы. Я паразглядаў твары Пілатаў на помнікавых фотаздымках, але так і не згадаў, дзе я іх мог бачыць.

Сярод жыліхаўсіх Пілатаў я знайшоў невялічкі, пафарбаваны ў глыбока-блакітны колер камень, зарослы ў зямлю. Пад тым каменем ляжыць Ліда Ваўчок. Надпіс-напамін пра Ліду зроблены па-беларуску. Пра гэтую Ліду Ваўчок мы папыталіся ў людзей. Памерла яна маладой. Мужчына ўзяў яе з нейкага інтэрната. Чаму надпіс зрабілі па-нашаму, ніхто не сказаў. Мае спадзяванні знайсці магілу дзеда Валодзі ў Жыліхава не спраўдзіліся.

Дарэчы, прозвішча Ваўчок у маёй сям'і не чужое. Першая жонка майго малодшага брата Міраслава — Наталля Ваўчок, маці майго пляменніка Чэсіка.

Каб дарасказаць пра Пілатаў, я зайду крышку наперад...

У сераду, ідучы на працу, на аўтобусным прыпынку я сустрэў журналістку Таццяну Снітко, якая разам з дачкою Вераю часам бярэ заказы і ў маім выдавецтве «Сучасны літаратар». Таня сказала, што ў нядзелю ездзіла ў вёску, ну і я расказаў пра сваё падарожжа ў Жыліхава. Тутака і высветлілася, што баба Таццяны і прабаба Веры жыла ў Жыліхаве, што пад Копылем, а прозвішча ў яе дзявочае — Пілат. Таня згадала, што некалі даўно яе маці пыталася: «Ці не мае твой знаёмы пісьменнік Глобус сваякоў у Гулевічах?» А Таня сказала, што не, бо я нарадзіўся ў Койданаве.

*Павел і магілы*

У пасёлку Гулевічы я не пабачыў на вуліцы ніводнага старога чалавека. Мы з Бартосікам праехалі ўвесь пасёлак і не знайшлі, з кім бы пагаварыць пра майго дзеда. «Што будзем рабіць?» — «Шукаць, будзем хадзіць па хатах...»

На ўскрайку пасёлка пасвіўся конь. Мне захацелася падысці да гнядога каня і спытацца ў яго пра майго Уладзіміра Рыгоравіча Глобуса. Але распытваць я пачаў не маладога каня, а старога конюха Паўла. «Валодзю Глобуса? Ведаю! Тут ён і жыў. І дом яго стаіць. І жонка яго першая — Алена — яшчэ жыве. Ёй 97 гадоў. Хутка будзе 98. І пляменніца яго тут. Магу паказаць іх хаты...» — «Можа, спачатку на могілкі з’ездзім, вы мне магілу дзедаву пакажаце...» — «Можна і на могілкі...» Сівавусы Павел загрузіўся ў Бартосікаву «Волгу», і мы паехалі на клады.

«А вы хто яму?» — «Унук!» — «А ад якой жонкі?» — «Ад Ядзі!» — «Не помню Ядзю. У Валодзі было пяць жонак!» — «Пяць?» — «Алена — першая жонка. Ваша баба, з якой ён ажаніўся, калі ў войску служыў,— другая. Потым ён Маню ўзяў. Дзяцей у іх не было, і ён Маню, сваю трэцюю жонку, прагнаў. Ездзіў ён у Тамбоў, і казалі, што там у яго была нейкая жонка, але пра яе я нічога не ведаю. А пятая, апошняя жонка Валодзі — Антоля, яна яго і глядзела, яна яго і пахавала. Недзе тут усе вашы Глобусы...»

Ніякага хвалявання я не адчуваў, стоячы на беразе зарослых бярэзінамі могілак. Было такое адчуванне, што я некалі быў тут, у пасёлку Гулевічы, бачыў гэтыя дамкі, вуліцу, бачыў няголенага старога, падобнага да эсэіста Сяргея Дубаўца,— Паўла. Ён хутка пайшоў шукаць магілу майго дзеда, а я закурыў цыгарэтку і пачаў глядзець на далёкі сіняватазялёны лес. «Во тут ляжыць Мікалай, малодшы брат вашага Валодзі...» Я падышоў да шэрага, абвязанага бэзавай стужачкай помніка з фотапартрэтам немаладога лысаватага мужчыны. На помніку быў надпіс, з якога вынікала, што мой стрыечны дзед, Глобус Мікалай Рыгоравіч, нарадзіўся 22.12.1911, а памёр 08.02.1983. Непадалёк стаяў помнік маёй стрыечнай бабе Мані, якая

жыла з 1918 па 1991 год. Яе твар не сказаў мне нічога. Побач з Маняю, пад шэрым каменным слупком з крыжыкам, ляжала мая прабаба — Вольга Глобус, якая пражыла 89 гадоў, з 1885 па 1974. «Маці ў Валодзі была вялікая жанчына, кілаграмаў 120. Яна і дзяцей ягоных глядзела. Ён іх прывозіў, адвозіў, а глядзела іх яна. Яе ўсе паважалі. Здаровая была баба...» — так расказаў Павел пра маю прабабу — Вольгу Глобус.

«Валодзя, хадзі сюды!» — гукнуў мяне Зміцер Бартосік. Я падышоў да жалезнай агароджы, за якою стаяў помнік майму дзеду. «Ага, вось тут ён і ляжыць, ваш Валодзя!» — сказаў, нібыта папіхнуў мяне ў спіну, конюх Павел. Бартосік зрабіў сур’ёзны твар і нейкім тэатральна-замагільным голасам спытаў: «І што ты адчуваеш?» Нічога я не адчуваў, але каб крышку падыграць Бартосіку зрабіў суровы твар: «Плакаць хочацца!» — «Праўда?» — Зміцер мне не паверыў, а мне стала радасна на душы. Вось ехаў я, шукаў, на нешта там цьмянае спадзяваўся і нарэшце знайшоў магілу дзеда Валодзі, майго Глобуса Уладзіміра Рыгоравіча, майго лейтэнанта Глобуса. Маці мне казала, што ён нарадзіўся ў 1902 годзе, а насамрэч — у 1907, казала, што памёр ён прыблізна ў 1962, на металічнай шыльдачцы ж быў пазначаны 1961 год. Побач з дзедам адпачывае ў вечным сне і яго апошняя жонка — Глобус Антаніна Сцяпанаўна.

«А які ён быў, Валодзя Глобус?» — спытаў я ў конюха. «Разумны быў, адукаваны, рабіў добра, харошы чалавек, каб не...» — «Каб не што?» — «Каб не жонкі, каб не бабы... Хітры ён быў!» — «Чаму хітры?» — «У банку працаваў, і нагул...» — Павел пакруціў у паветры загарэлай і парэпанай рукою. «Скажыце, а якой яны веры былі, гэтыя Глобусы?» — «Ні ў што яны не верылі, вашы Глобусы...» Не ведаю, што мой дзед зрабіў кепскага Паўлу ці што такога непрыемнага я яму сказаў, але твар яго зрабіўся злосны, і ў вачах засвяціўся недавер: «Дык вы ўнук Валодзі?» — «Унук!» — «А з якога вы года?» — «З 58-га...» — «Мой з 57-га... Дачка з 68-га... Нешта вы замолада выглядаеце...» — «Паехалі ў пасёлак!» — сказаў я Бартосіку. Злаваць старога Паўла я не хацеў.

*Алена і авечка*

Алене — 97. У яе васільковыя вочы і востранькі носік. Я пытаюся ў яе пра першага мужа, пра свайго дзеда, пра Валодзю Глобуса. «Харошы быў. На вас не падобны. Сярэдняга росту. Мажны. Прыгожы і разумны... Работу розную ўмеў рабіць. Усё рабіў сваімі рукамі. І дом мог пабудаваць. Сам, усё сам рабіў. І не піў... У мяне ад яго дачка ёсць, Надзя. Яна жыве ў вёсцы Старыца. У доме каля возера. Там адзін дом каля возера. У Старыцы спытаеце дом каля возера, і вам кожны пакажа. Калі Надзя замуж выходзіла, я Валодзю запрашала на вяселле, а потым і ён запрашаў да сябе нашу Надзю з жаніхом. Мы з ім не сварыліся. А вы ягоны ўнук... Як, вы кажаце, вашу маму звалі? Ніна? Помню я вашу Нінку. Я ўжо сабе іншага мужыка ўзяла. Валодзі тры гады не было, і я сабе іншага ўзяла. А ён вярнуўся і прывёз вашу... Як вы кажаце? Ядзю? Ну так... Ядзю. Яны не па вуліцы ішлі ў сваю хату, а там, вунь там, па загуменнях. Ён, мусіць, баяўся, што я іх біць буду... Выскачу з хаты, налячу і палкаю паб’ю...» Васільковавокая Алена ўзняла сваю кульбачку і засмяялася бяззубым ротам. Я злавіў сябе на думцы, што ў мяне зусім няма агіды да яе па-дзіцячы бяззубага рота. «Ён жа не ведаў, што ў мяне другі мужчына... А Нінку вашу помню. Яна ўсё прыходзіла да мяне і плакала. Не хацела Нінка жыць у нашых Гулевічах...» — «Ядзя, Ядзя не хацела жыць у Гулевічах!» — папраўляю я вясёлую Алену. «Правільна, Ядзя не хацела жыць у Гулевічах. А я ёй кажу: чаго табе з ім не жыць? Жыві! У мяне новы мужчына. А ты жыві з Валодзем. А яна харошая жанчына, прыгожая, з чыстым тварам, прыйдзе да мяне і плача. Тады Валодзя прадаў авечку, купіў ёй білет, і мы праводзілі яе ў Мінск. І дачку яна забрала з сабой, Нінку вашу...»

Мой падарожны сябра Бартосік спытаўся ў старой Алены: «Што трэба рабіць, каб пражыць 97 гадоў? Ці ёсць які сакрэт?» — «Рабі больш за ўсіх — і пражывеш даўжэй за астатніх. Я работы не баялася, рабіла больш за ўсіх, вось і пражыла доўга!»

*Зінкевіч і дом над возерам*

У вёсцы Старыца ў рудавалосай прадаўшчыцы з прадуктовай крамы я спытаўся, як знайсці дом над возерам, у якім жывуць спадары Зінкевічы, і патлумачыў, што мне патрэбна Надзея Уладзіміраўна. Прадаўшчыца крыху надзьмулася: «У нас адзін дом над возерам. Вы аб'едзеце возера. Паставіце машыну каля гарматы, а потым сцежкаю пройдзеце ў той дом...»

Які гэта дом! Сядзіба! Сад з вуллямі! Шэпты чароту... Мой сябра Бартосік доўга стукаўся ў дзверы, і нарэшце мы пабачылі сівога, моцна падвяселенага алкаголем дзядзьку: «А вы хто такія?» — «Я шукаю Надзею Уладзіміраўну Зінкевіч, старэйшую дачку Уладзіміра Глобуса!» — «Ясна, каго вы шукаеце. А вы хто такія?» — «Я — унук Валодзі Глобуса, бацькі Надзеі Уладзіміраўны!» — «Ясна. Вы — унук, а гэта ваш шафёр з магнітафонам?» — «Гэта мой таварыш...» — «Давайце пачнём з самага пачатку...» — «Я — унук...» — «У Валодзі Глобуса было сем жонак... Вы ад якой жонкі ўнук?» — «Ад Ядзі!» — «Не ведаю Ядзі. Яна жыве?» — «Ядзя памерла ў 1971 годзе. Жыве яе дачка — Ніна Уладзіміраўна Глобус, мая маці...» — «Не ведаю Ніны...» — «Можа, Надзея ведае?» — «Можа, і ведае... Вось што я вам скажу... Калі гэта праўда, што вы ўнук Валодзі Глобуса, калі гэта ўсё пацвердзіцца, нам трэба будзе зладзіць банкет. Гэта ж радасць, што сваякі адзін аднаго знаходзяць...» — «Вы нам скажыце, дзе Надзея Уладзіміраўна.» — «У бальніцы яна. Тут недалёка, па дарозе на Мінск...» Мне стала сумна, у бальніцу я ехаць не хацеў, не хацеў — і ўсё... І не паехаў. Я адклаў сустрэчу з Надзяй Глобус да наступнай вандроўкі на Копыльшчыну.

У Мінску я адчуў спакой на душы. Я ўпарадкаваў сваё мінулае і адчуў спакой.

Смерць — толькі частка жыцця, як Бог — частка прыроды.

*Лена і 1000 дробязей*

Адкрыццё чакае за кожным вуглом. Праўда. Вось я ўсё жыццё хадзіў і хаджу побач з крамаю «1000 дробязей». Сорак гадоў я праходзіў каля крамы «1000 дробязей», якая стаіць на плошчы Калініна ў Мінску, і не ведаў, што там працуе стрыечная сястра маёй маці — Вольга Мікалаеўна Глобус. А цяпер вось даведаўся, і зайшоў у «1000 дробязей», і спытаўся ў касіркі: «Дзе мне знайсці Вольгу Мікалаеўну?» — «Яна ў адпачынку...» — «А калі вернецца?» — «У аддзеле электрапрыбораў працуе яе дачка Алена. Спытайцеся ў яе...» У аддзеле электрапрыбораў я спытаўся ў прадаўшчыц, хто з іх Алена. Мне паказалі на высокую, светлавокую і светлавалосую жанчыну. «Вы дачка Вольгі Мікалаеўны?» — «А што?» — «Нічога. Я проста хацеў бы з ёй пагаварыць... Яе прозвішча Глобус?» — «Глобус».— «Калі яе прозвішча Глобус, тады я — ваш брат!» — «Х-х-ха-а-а! — я хацеў быў дастаць пасведчанне з псеўданімам Адам Глобус, але перадумаў.— Мама зараз дома. Я дам вам яе сотавы тэлефон, пазваніце, пагаварыце...» Лена запісала на паперцы нумар, і я пакінуў краму з дробязямі.

*Вольга і імёны па бацьку*

Патэлефанаваў я Вользе Глобус. «Што ж вы так доўга не прыходзілі?» — «Нагоды не было...» — «А маці ваша чаму не прыходзіла?» — «Мама сказала, што яе бацька ёй не цікавіўся, таму і яна не вельмі хоча цікавіцца ім. Яна мае права на такое стаўленне. А я напісаў кнігу пра сваю сям’ю, там ёсць згадка і пра Валодзю Глобуса. Цяпер я ўдакладняю дэталі, таму і прыйшоў да вас. Вы мне скажыце, калі ласка, як імя па бацьку вашай бабулі Вольгі Глобус?» — «А я і не помню...» — «А дзе пахаваны мой прадзед Рыгор Глобус?» — «Там жа, у пасёлку Гулевічы. Ягоная магіла ў адной агароджы з Валодзевай. Такі драўляны помнік. Вы яго не бачылі?» — «Не. А калі ён памёр?» — « У 1952-м, здаецца...» Мой прадзед Рыгор Глобус памёр у 52-м, яго-

нае імя па бацьку дырэктарка крамы таксама не згадала. Мы дамовіліся сустрэцца праз тыдзень у краме «1000 дробязей».

*Вольга і шклянка кісялю*

Ісці да Вольгі Глобус у яе краму «1000 дробязей», шчыра кажучы, зусім не хацелася. Яе папрок, што я так доўга да яе не прыходзіў, можна павярнуць і ў адваротны бок. Ніхто з іх да мяне ні разу не звярнуўся. Не, канешне, зусім не з-за гэтага я не хацеў ісці да Вольгі, а з-за навальніцы, якая насоўвалася на горад. Патэлефанаваў я ёй, а яна не ўзяла трубку, я ўздыхнуў з палёгкаю, але яна тут жа перазваніла, і я паабяцаў праз 15 хвілін быць у яе. Пачалася навальніца. Ліло так, нібыта ўсё яшчэ лета, а не другі тыдзень верасня. І грымела па-летняму, магутна. Давялося пераскокваць шырокія і бруістыя ручаіны.

У дырэктарскім кабінеце я знайшоў жанчыну, нечым падобную да маёй маці. «Лье тут у вас!» — «А ў вас не лье?» — «Я пра вуліцу Калініна... Давялося мне добра разагнацца, каб пераскочыць ручаіну...» — «Пераскочылі?» — «Так!» — «Значыцца, вы ў добрай спартыўнай форме, калі можаце лёгка пераскочыць шырокі ручай...» — «Бегаю раніцай... Вольга Мікалаеўна, я тут пытанні да вас пазапісваў. Можна, я іх пазадаю?» — «Задавайце!» — «Вашу бабулю, а маю прабабу, звалі Вольга. А вы не ўзгадалі, як яе імя па бацьку?» — «Іванаўна. Здаецца, Іванаўна. Так мне старэйшая сястра Валянціна сказала. Мы з ёй сазвоньваліся...» — «Выдатна. Мая прабаба — Вольга Іванаўна Глобус. А мой прадзед — Рыгор?..» — «Сямёнавіч...» — «Мой прадзед — Рыгор Сямёнавіч Глобус. Выдатна. А хто яны былі па веравызнанні?» — «Праваслаўныя. Там, у Гулевічах, у нас усе праваслаўныя...» — «А Глобусы заўсёды жылі ў Гулевічах? Ці, можа, яны аднекуль туды прыехалі?» — «Глобусы лічыліся сераднякамі, і іх не раскулачвалі. У Гулевічах іх дакладна не раскулачылі... Але ў сям’і казалі, што раней іх высылалі на Каўказ, што раней яны жылі недзе пад Баранавічамі ці ў

Баранавічах... Дакладна я пра высылку на Каўказ нічога не ведаю і пра Баранавічы толькі чула ад старэйшых...» — «А майго дзеда Валодзю Глобуса вы помніце?» — «Ён памёр у 61-м, мне было дзевяць гадоў. Памятаю, як яны ўсёй сям'ёю прыйшлі да нас на нейкае свята. Сядзелі ў нас за сталом... Твараў не помню...» — «У Валодзі Глобуса было чатыры жонкі: Алена, Ядзя — мая баба, Маня і Антаніна?» — «Маню не ведаю».— «Мне Павел, той, што ў Гулевічах каня трымае, расказаў пра Маню, якая жыла з Глобусам пасля Ядзі...» — «Вы ўжо больш за мяне ведаеце...» — «А як прозвішча Паўла? Я не спытаўся ў яго...» — «Аляшкевіч».— «Ён мне сказаў, што ў Мані ад Глобуса дзяцей не было... Ад Алены ў яго была Надзя, ад Ядзі — Ніна, а якія дзеці былі ад Антаніны?» — «Быў сын Мікалай. Ён старэйшы за мяне, яму недзе пад 60. Жыве ён у Копылі. Ляжыць. Спаралізавала яго. Ён хацеў быць мараком. Ездзіў у Кранштат, некалькі разоў паступаў у мараходку, але не паступіў. Жыў недзе ў Петразаводску, а потым вярнуўся...» — «А яшчэ былі дзеці?» — «Быў яшчэ сын — Іван Глобус з 1948 года. Я з ім у школе вучылася. Вы на іх, на Ваню і Колю, нечым падобны. Нешта такое ёсць. Не скажу што, але нешта ёсць...» — «Мне ў Гулевічах казалі, што ў Івана не ўсё добра?» — «Ай, у калгасе мех бульбы ці нечага там узяў... Яго судзілі. Сядзеў ён не доўга, а потым з'ехаў... Дзе ён, ніхто не ведае... Мала я вам інфармацыі дала. А прозвішча сваё — Глобус — я люблю. Каб ведала наперад, як маё жыццё складзецца, дык і засталася б на сваім прозвішчы... Вы ўжо збіраецеся сыходзіць?» — «Так... Адно пытанне ў мяне засталося... Як памёр Валодзя Глобус?» — «Ад шклянкі кісялю. Яму зрабілі аперацыю ў Мінску. Доўга рабілі. Баба Вольга нават жыла ў Мінску, пакуль Валодзя ў бальніцы ляжаў. Потым прывезлі яго ў Гулевічы. Яму захацелася кісялю. Дактары казалі, што яму нельга пасля аперацыі піць шмат вадкасці, а ён выпіў цэлую шклянку кісялю і памёр...» — «Містычнасць ёсць у гэтай шклянцы кісялю, бо прозвішча другога мужа маёй бабы Ядзі — Кісель. Мамін айчым Бронік Кісель вельмі любіў Ядзю, а Валодзю Глобуса

ўсе Кісялі страшэнна не любілі... Я пайду?» — «На Пасху мы — усе Глобусы — збіраемся ў Гулевічах, ходзім на могілкі. Вы ж бачылі, у нас там цэлы радок магіл. Можаце прыехаць. Там вам старэйшыя больш за мяне раскажуць».— «Я пайду?..» — «Заходзьце...» — «Зайду!» Навальніца сціхла, але дождж усё яшчэ сыпаўся, дробны восеньскі дождж.

# ЧЭСЬ

*Словы пра тату майго, Чэся (Вячаслава) Адамчыка, напісаныя да ягонага 80-годдзя*

*Дзяргай і лірыка*

«Адведаем старога Дзергая?» — пытаецца бацька. «Адведаем». Мы заходзім у пракураную аднапакаёўку, што ў трэцім пад’ездзе на першым паверсе. Паэт Дзяргай жыве ў нашым чатырохпавярховым белацагляным доме, які стаіць на рагу Коласа і Ламаносава. Дзяргай любіць сінядымны тытунь і густабурштынавую гарбату. Ён робіць мне паўшклянкі моцнай і салодкай, як павідла з яблыкаў, гарбаты-дзергаёўкі. Значна пазней я даведаюся, што бацька паэта ў дваццатыя гады мінулага стагоддзя меў у нашым Мінску ўласную сталоўку, у якой закусвалі нават Купала з Коласам. А тады, стоячы каля этажэркі з беларускімі кнігамі, я спажываў гарачы напой маленечкімі глыткамі. Мужчыны курылі ў адчыненае на летні горад акно. Мужчыны гаварылі пра паэзію. Курыць тытунь, піць гарбату, разважаць пра вершы — тры правільныя дарослыя мужчынскія справы, якія добра робяцца ў нядзельны сонечны вечар. Так я думаў у дзяцінстве, стоячы ў нізкастольнай аднапакаёўцы паэта Дзергая. Дый цяпер так думаю.

*Мядзведзь і гадзіннік на ланцужку*

Мяне малога тата вадзіў на елку ў Саюз пісьменнікаў. Там ладзіліся забаўляльныя гульні з віктарынамі, танцавалі Дзед Мароз са Снягуркай, паказваліся мультфільмы і раздаваліся падарункі — кардонныя скарбонкі з печывам ды цукеркамі. Найбольш мяне ўражваў мядзведзь. Нават не сам артыст, апрануты ў брунатнага вялікагаловага мішку, мяне радаваў-вабіў яго круглы, пасаджаны на ланцуг гадзіннік. Той гадзіннік быў пафарбаваны ў жоўтую, лічы, залатую, фарбу. Чорныя стрэлкі нястомна паказвалі без пяці дванаццаць, паказвалі вечна-святочны навагодні час. Танцуючы з мядзведзем, я марыў як мага хутчэй вырасці і набыць круглы гадзіннік на ланцужку... У мастацкай вучэльні я адкладваў грошы са стыпендыі і нарэшце назбіраў сямнаццаць рублёў на свой першы гадзіннік — круглы, кішэнны і з ланцужком. Насіць яго не змог: не зручны.

*Тата і Сангі*

З ніўхскім паэтам Уладзімірам Сангі тата пазнаёміўся і пачаў сябраваць на вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. Ніўх Сангі знешне быў нечым падобны да знакамітага японца Ісікава Такубоку — прынамсі, ягонае тагачаснае аблічча мне такім запомнілася. Пасля вучобы татавы шляхі і шляхі Сангі амаль не перакрыжоўваліся. Апошні раз сябры сустрэліся зноў жа ў Маскве на з’ездзе савецкіх пісьменнікаў у 1981 годзе. Тата пацікавіўся, ці не атрымаў Сангі якую высокую ўзнагароду ці прэмію. На што той засмяяўся і адказаў: «Ніўхам прэмій не даюць!» Бацьку адказ спадабаўся, і прынагодна ён паўтараў за сваім даўнім таварышам, што ніўхам (чытай — беларусам) вялікіх прэмій не даюць.

*Апавяданні*

Тата расказваў, што ў маладосці ён вырашыў напісаць сто апавяданняў. «Калі хоць бы адно з сотні надрукуюць, буду пісьменнікам!» Сваё першае апавяданне ён паслаў у беластоцкі тыднёвік «Ніва», і за гэта тату выключылі з універсітэта.

«Студэнт, які вучыцца ў СССР, не павінен слаць лісты ў панскую Польшчу»,— такое бацька пачуў ад універсітэцкага начальства. Другое татава апавяданне згубіў рэдактар — Максім Танк. Здавалася, трэба скарыцца і кінуць пісаць, але бацька верыў у сябе. Не дарма верыў, бо ягоныя ўнукі вывучалі татавы ўзорныя апавяданні ў школе. У мяне з літаратарствам было крыху інакш. Я задумаў напісаць дзесяць апавяданняў, каб стаць прафесійным пісьменнікам. Маё першае апавяданне называлася «Слон», а надрукавала яго Рая Баравікова 11 верасня 1985 года. Як жа даўно ўсё тое было... 11 верасня 2001 маці ўбачыла ў тэлевізары руйнаванне Амерыкі. Яна падхапілася з канапы і пабегла па кватэры, каб падзяліцца з нашым бацькам жудаснай навіною. Яе так узрушыла ўбачаная вайна, што маці нават забылася пра бацькаву смерць.

*Партрэты паэтаў*

У мяне ў працоўным кабінеце вісіць партрэт Якуба Коласа і фотаздымак Янкі Купалы. Гледзячы на іх, я згадаў, што ў кабінеце Уладзіміра Караткевіча вісеў вялікі партрэт Каліноўскага, у бацькавым кабінеце была фотакартка Дубоўкі, у жончынай студыі сумна ўсміхаецца напісаны мною для яе Гіём Апалінэр, у брата на кніжнай паліцы стаіць партрэт нашага бацькі — Вячаслава Адамчыка, у пакоі Анатоля Сыса вісеў партрэт Максіма Багдановіча, а ў кабінеце Янкі Брыля быў Леў Талстой, Ала Сямёнава любіць фотапартрэт Міхася Стральцова... Цікава, якія партрэты пісьменнікаў ёсць у іншых людзей? Мяне гэтае пытанне хвалявала заўжды...

*Месца сустрэчы*

Нядзельнай раніцай крочыў па праспекце Незалежнасці. Нешта-нейкае нібыта мяне штурханула, і я спыніўся на тым месцы, дзе апошні раз выпадкова сустрэў на вуліцы яшчэ жывога, але ўжо смяротна хворага бацьку. Мінакі праходзілі паўз мяне, а я стаяў ды стаяў, бо аслупянеў. З’явіўся бацька. Цяперака ён зусім празрысты і ледзь чутны. Тата-нябожчык сказаў, каб я пастаяў побач з ім яшчэ якую хвіліну. Я спытаў у

нябожчыка, як яму там без нас трываецца. Адказаў, што існуе ціха-мірна. Удзень на тым самым месцы я сустрэў маці. Яна несказана ўзрадавалася нашай выпадковай сустрэчы, абняла мяне, і я пацалаваў яе ў шчаку.

*Непрачытаныя бібліятэкі*

У мяне шмат кніжак. Сярод іх многа недачытаных і непрачытаных зусім. Мая бібліятэка большая за мяне, яна большая за маё жыццё. У мяне не хопіць часу прачытаць усе набытыя і расстаўленыя на паліцах кнігі. Нейкі час змрочнае адкрыццё і бянтэжыла, і непакоіла, і нервавала... Цяпер я змірыўся з простенькай думкаю, што ўсю сваю бібліятэку не прачытаю, як не прачытаў уласны кнігазбор мой бацька-нябожчык.

*Гадзіннік*

Паскардзіўся маці, што ад спёкі прыпухае рука і робіцца нязручна насіць гадзіннік. На што мама сказала: «А я ўжо гадоў дзевяць яго — свой наручны гадзіннік — не надзяваю. Як наш бацька памёр, так я і перастала насіць гадзіннік...»

*Месца і тытунь*

Над магілаю таты і праз паўтара года, як кінуў курыць, хочацца глыбока зацягнуцца тытунёвым дымам.

*Цемра*

Маці кажа, што ёй не хапае татавага храпення. Яно яе раздражняла, шмат начэй яна з-за таго храпення не магла заснуць, а цяпер тое бацькава пахрапванне ўспамінаецца зусім інакш... Прачынаешся, услухоўваешся ў цемру, і здаецца, зараз пачуеш храп. Пачуеш і скажаш: «Слава, ты так храпіш, што я заснуць не магу». Ён прачнецца, павернецца на другі бок і скажа: «Ніна, ты адразу не засынай, бо тады я з-за твайго храпення да раніцы спаць не буду. Давай мы паспрабуем разам заснуць...» Таты амаль дзесяць гадоў з намі няма, а маці ўсё ўслухоўваецца ў цемру.

*Летнія травы*

На праспекце спыніўся перакінуцца словам са знаёмым збіральнікам беларускага жывапісу. Нечакана для мяне ён сказаў, што на самым пачатку лета зноў перачытае татава апавяданне «Пах летніх траў». Ён перачытвае гэтае апавяданне кожны год, бо і ў яго была заўсёдная дарога са сталіцы ў родную вёску. Бацька дакладна апісаў настрой вяртання дамоў. Вяртанне, пасля якога на нейкае імгненне табе здаецца, «што ты нідзе не быў, што жыў дома, што гэтае самае было ўчора, пазаўчора, год назад, два і болей...» Кнігу бацькавых апавяданняў «Міг бліскавіцы» я палюбіў з юнацтва і таксама шматкроць яе перачытваў. Пасля сустрэчы з татавым чытачом зноў прагартаў «Пах летніх траў», зноў спыніўся на фрагменце з сонечна-жоўтым лубінам: «Аўтобус страсяне — абарвуцца думкі. І будзеш зноў глядзець у акно, будуць мільгаць белыя слупкі — адзін за адным — ля мосціка, і здалёк на грудку будзе відаць лубін — увесь у цвеце, як сонца, і раптам ён запахне густым цяплом, лёгкаю пясчанаю зямлёю, і нехта, аж прыпаднімаючыся, скажа: «Ой, як хораша!» Пойдуць далёкія панурыя лясы...» Хутка лета.

*2011—1958. Сацыялістычны рэалізм*

Позна ўвечары на чыгуначным вакзале выпадкова сутыкнуўся з Анатолем Сідарэвічам, які сем гадоў абяцае напісаць прадмову да выбраных твораў майго бацькі. Мо з гадзіну мы прагаварылі пра татаву прозу. Сідарэвіч прачытаў шмат розных артыкулаў і дысертацый, напісаных пра бацьку. Ён нават накідаў схему прадмовы, у якой будзе паказаны шлях беларускага пісьменніка ад сацрэалістычнай схемы да жорсткага рэалізму. Мяне зацікавіла схема, што выкарыстоўвалася ў сацыялістычным рэалізме. У якасці прыкладу Сідарэвіч прывёў адно з ранніх татавых апавяданняў «Свой чалавек». Дзякучы Анатолю я зноў перачытаў першую бацькаву кнігу, складзеную з двух апавяданняў «Зоня» і «Свой чалавек». Схема сапраўды прысутнічае ў апавяданні пра свайго чалавека — Язэпа з вёскі Рэпкі. Але гэтая схема мала чым адрозніваецца ад звычайнай казкі з добрым заканчэннем, і, як спрошчаная

казка, апавяданне пра селяніна Язэпа мае крыху рамантызаванае заканчэнне: «На ўсходзе святлела неба: бралася на дзень».

*Палатняныя вокладкі*

Тата не любіў кнігі ў папяровых вокладках, хоць шмат ягоных кніжак павыходзіла менавіта ў такіх. Ён шанаваў вокладкі кардонныя, абклееныя шэрым палатном. У такім выглядзе выйшлі толькі дзве прыжыццёвыя татавы кнігі — раманы «І скажа той, хто народзіцца» ды «Чужая бацькаўшчына». Аздабленне рабілі мастакі Селяшчук ды Шэвераў. Зрабілі добра, улічылі ледзь не ўсе патрабаванні аўтара.

*Лішак вагі*

Паскардзіўся маці, што, кінуўшы паліць, набраў лішнія сем кілаграмаў. Мама паспачувала і распавяла, як, кінуўшы паліць, гэтаксама пачала набіраць вагу: «Каб яшчэ наш тата, мой Чэсь, быў жывы, дык дзеля яго скінула б вагу. А так... Мне было ўсё адно, як я выглядаю. Цяпер я даглядаю сябе, каб хадзіць і нікога не турбаваць сваёй прысутнасцю ў гэтым свеце». Мама, як і заўжды, мела рацыю. Мы глядзім сябе дзеля іншых, а не дзеля сябе. Нам бы і хацелася, каб дзеля сябе, а ўсё адно мы скідваем вагу, кідаем піць і курыць дзеля іншых, дзеля любімых і каханых.

*Тры падзеі*

Задумаўся пра падзеі ў сваім жыцці... Каб не заглыбляцца ў бясконцы пералік дат, я абмежаваў сябе лічбай «тры».

З падзей, якія скаланулі свет у час майго жыцця, вылучылася наступнае: палёт чалавека ў космас, вайна СССР з Кітаем і маштабны тэрарыстычны акт 11 верасня 2001 года ў ЗША. Тры значныя падзеі ў жыцці Беларусі знітаваны ў мяне з іншымі датамі: аўтакатастрофа, у час якой загінуў кіраўнік рэспублікі Машэраў, выбух на атамнай станцыі ў Чарнобылі, абвяшчэнне незалежнасці ў 1991 годзе. Асабістае жыццё я мог бы пазначыць наступнымі лёсавызначальнымі падзеямі: паступленне ў мастацкую вучэльню, нараджэнне дачкі Ядзі і смерць таты ў 2001-м. У іншых іншае, а ў мяне пакуль так...

# НІНА

*Словы пра сыход мамы маёй — Ніны Глобус*

*Вароны*

У бальніцы мама назірала праз вакно за жыццём варон. Расказвала, як адна варона ўвечары разоў з пяць дзеўбанула ліхтар, ажно пакуль той не загарэўся. Калі запалілася святло, варона радасна закаркала, узнялася і паляцела ў вечаровае неба. Другое здзіўленне ў мамы выклікала варона-правадыр, яна прыляцела, гучна каркнула камандзірскім тонам, пяць маладых варон, што сядзелі на дрэве, у адначассе ўзняліся і паляцелі за ёй. «Гляджу праз бальнічнае вакно серыял пра варон! Такое ў мяне цяпер кіно»,— сумным бальнічным голасам казала мне мама.

*Туфлі*

Калі мы з братам забіралі маці з бальніцы, яна ўжо не магла сама ісці. Я прапанаваў ёй заставацца ў хатніх тэпцях, бо ўсё адно мы яе або на вазку павязём, або на руках панясём. Маці загадала абуць яе ў чорныя лакіраваныя чаравічкі. Мірык абуў, і мама абрадвалася. Яна радавалася і ўсміхалася, як малая дзяўчынка.

*Ключы*

Седзячы за кухонным сталом, маці расказала мне, як некалі сустракала Новы 1966 год. Апавяданне падалося мне цікавым, і я запісаў яе словы: «Пад Новы год пісьменнік Віктар Дайліда са Слуцка прывёз гуся. Я адмовілася гатаваць. Нават не хацела, каб у нашай кватэры збіраліся госці. Мірыку яшчэ і паўгода не споўнілася. Вырашылі занесці гуся да Галі Стральцовай і сустракаць Новы год у яе. Галя паставіла гуся ў духоўку. У яе кватэры сабралася шмат народу. Прыйшоў Валодзя Караткевіч. Прыехаў Гардзіцкі з жонкай. Памятаеш Гардзіцкага? Ён у Саюзе пісьменнікаў адказваў за сувязі з замежнымі краінамі. Дайліда быў таксама з жонкай. Я з тваім бацькам рэзала

смажанага гуся. Мы сустрэлі Новы год і выйшлі на вуліцу. Наш бацька Чэсь узяў снежку і закінуў яе ў чужое вакно. На вуліцу павыскоквалі п'яныя мужчыны і пасунуліся да нашых біцца. Міша Стральцоў смяяўся, наш бацька рабіў выгляд, што ён не мае аніякага дачынення да кінутай у вакно снежкі. Гардзіцкі з Караткевічам крычалі, што яны ўсіх адлупяць, калі справа дойдзе да сапраўднай мужчынскай бойкі. Ніхто тады не пабіўся, усе вярнуліся даядаць смажанага гуся. Я пайшла да Мірыка. Легла і заснула. Пасярод ночы прачнулася, бо нехта корпаўся ў нашым замку. На пляцоўцы стаяў наш бацька і Валодзя Караткевіч. У бацькі быў ключ ад кватэры Караткевіча, а ў Караткевіча ад нашай кватэры. Як і калі яны памяняліся ключамі? Не зразумела. Раніцай бацька спытаў, ці чула я, як ён прыйшоў. Тады я пераканалася, што таямніца з абменам ключоў застанецца неразгаданай».

*Ордэн*

Мама разам з Мірыкам перадалі мне татавы ордэн і дакументы. Вядома, я ўсё забраў. Настрой быў цяжкі, бо складалася ўражанне, што не толькі маці збіраецца хутка пакінуць наш свет, а яна збіраецца гэта зрабіць разам з Мірыкам.

*«Хуткая»*

Домработніца выклікала «хуткую дапамогу». Дактары ўгаворвалі маму паехаць у бальніцу, бо ціск быў зусім нізкі. Маці не пагадзілася ехаць і напісала распіску, што адмаўляецца. Я зварыў для мамы моцнай кавы з цукрам. Ні кавы, ні цукру яна даўно не ўжывае, але дактары гэтым разам дазволілі такую салодкую раскошу. Яны нават на гэтым настойвалі. Ціск павысіўся. Мама нават пагадала адной доктарцы на каўнай гушчы.

*Тата*

Раніцай маці апранулася па-святочнаму. Яна нібыта перапрашала за папярэднія трывогі з «хуткай». Усё цяжкае папярэдняе я не стаў з ёй абмяркоўваць. Парадаваўся за яе добры выгляд і настрой. Ад маці я паехаў на татаву магілу, дзе слёзна папрасіў яго не спяшацца забіраць да сябе нашу Ніну Глобус.

*Сон*

Мама расказала мне свой сон, у якім я з нейкай Вольгай раблю літаратурны праект. У мяне з гэтай Вольгаю ёсць нейкае памяшканне, накшталт студыі. Мама папрасіла ключ ад студыі, але я ніякага ключа ёй не даў. У сне мама на мяне пакрыўдзілася, што пашкадаваў ключ. Яна расказвала пра крыўду, а я глядзеў на яе карычневыя зубы. У мамы заўсёды былі вялікія белыя і роўныя зубы. Мне яны вельмі падабаліся. Я нават ганарыўся прыгажосцю маміных зубоў. Цяпер яны зусім старыя. Мірык прапаноўваў памяняць маме зубы, але калі мы спахапіліся, было запозна, бо ў мамы зусім слабенькае сэрца: мяняць зубы з такім сэрцам небяспечна.

*«Montroig»*

Патэлефанаваў маці з кавярні «Montroig». Калі я ў адпачынку, заўсёды тэлефаную маме з кавярні «Montroig». Такая завядзёнка. Голас у мамы бадзёры, і яна радасна сказала, што любіць мяне. Пацікавілася, ці хутка вернецца Ядзя з Італіі. Я запэўніў маму, што Ядзя вернецца хутка. На тым і развіталіся. Нават не папытаўся, што ёй прывезці з Барселоны, бо ведаю — парфуму.

*Сэрца*

Раніцай сямнаццатага ліпеня ўся наша сям’я моцна перахвалявалася. Прапала мама. Домработніца зайшла ў бацькоўскую кватэру, а тамака пуста. Знайшлася мама ў рэанімацыі 2-й мінскай бальніцы. Уночы ёй стала кепска з сэрцам. Яна выклікала дактароў, што завезлі яе на аперацыйны стол і дасталі тромб. З рэанімацыйнай палаты мама мне патэлефанавала, калі я ўжо ехаў у тую бальніцу. Доктарка сказала, што бліжэйшыя пару дзён маці будзе адпачываць пасля перанесенага інфаркту, і да яе нікога не пусцяць. Усё патрэбнае — ваду, сок, сурвэткі — ёй занесла Ядзя.

*Халат*

З рэанімацыі патэлефанавала мама. Сказала, што ёй зрабілі не адну, а дзве аперацыі. Цяпер яна пачуваецца крыху лепей, і трэба, каб я прынёс ёй станік, трусы, майку, халат, зубную шчотку, пасту і мыла. Мыла яна папрасіла дзіцячае. Мама сказала, што з дому яе забралі голай з іголкай кропельніцы ў руцэ. Так голай яна і праляжала цэлы тыдзень, а цяпер ёй трэба халат. Я папытаў, ці трэба ёй кубак. Сказала, што нейкі кубак ёй далі.

*Лён*

У мамы з'явіліся пролежні. Алена пашыла з ільнянога ручніка пляскаты мяшок, у які засыпалася льняное семя. Мяшок разам з гарэлкай і празрыстым дзіцячым шампунем я занёс у бальніцу. Настойваць на сустрэчы з мамаю не стаў, перадаў пакунак медсястры і пайшоў на працу. За працоўнымі турботамі крыху забываешся пра павольны сыход мамы, і не так балюча.

*Хадунок*

Паабяцаў Мірыку, што ў суботу схаджу да маці ў бальніцу, і не схадзіў. Пайшоў у другі бок, пайшоў купляць белы халат. Крама са спецадзеннем была зачыненая. Непадалёк ад яе некалі была бібліятэка, дзе маці працавала. Я вырашыў зайсці ў бібліятэку, каб проста пастаяць сярод нашых любімых кніжак. Мне ясна ўяўлялася размова з бібліятэкаркай пра маці, пра далёкія гады. Бібліятэкі я не знайшоў. У пустых памяшканнях ішоў рамонт. Я нават не стаў пытацца пра бібліятэку будтрэста нумар чатыры. Пастаяў крыху пад вокнамі, сцішыўся. Тут і пайшоў дождж. Пакуль я бег да метро, крыху вымак. У майстэрні пераапрануўся ў сухое і выпіў гарачай кавы. Чытаў. Прыслухоўваўся да сябе. Ці не захварэў? Здаецца, абышлося. Сіл ісці да маці ў бальніцу не знайшоў, бо ноч не спаў. У вачах усё стаяла бальнічная палата... Мама запатрабавала

сабе тапкі. Яна ўсё спадзяецца на папраўку. Мы з Мірыкам прынеслі ёй тапкі і хадунок. Медсястра вельмі здзівілася, што мы прынеслі хадунок. Не хацела нас пускаць у палату, але мы сказалі, што хадунок патрэбен для псіхалагічнай падтрымкі. Пусціла. У палаце два ложкі. Я паглядзеў на сівую жанчыну і падумаў, што мама змянілася да непазнавальнасці. Я не адразу зразумеў, што гэта зусім іншы чалавек. Маці спала на баку, накрытая прасцінай амаль з галавою. Яна спала і цяжка дыхала. Жанчына сказала, што трэба маму пабудзіць. Мы адмаўляліся, але яна настойвала. Пачала крычаць: «Алена Уладзіміраўна, да вас прыйшлі! Прачынайцеся! Яна вас чакала! Вы павінны пабудзіць яе...» Мірык сказаў, што наша мама — Ніна Уладзіміраўна. Ён пабудзіў маму, яна павярнулася да мяне і спытала: «Як ты? Кот цябе не крыўдзіць?» Дзеці — Юля, Коля і Вова з’ехалі на мора ў Літву, а мне ў кватэры пакінулі сваю котку Сару. Я сказаў, што кот мяне не крыўдзіць. Мама паскардзілася, што яе ўвесь час ванітуе. Ад салодкіх ёгуртаў, што прынёс Мірык, яна адмовілася. Мы пакінулі каля ложка хадунок і тапкі. Усю ноч мне бачылася бальнічная палата з хворай маці. Не спалася, і я чытаў мярзотныя дзённікі савецкага кіношніка Нагібіна.

*Плач*

Каб не плакаць, не рыдаць і не крычаць, я выходжу на сярэдзіну майстэрні. Моцна заплюшчваю вочы і раскрываю рот. Не крычу. Стаю ціха. Крык бязгучна сыходзіць з мяне. Робіцца крыху лягчэй, нібыта выкрычаўся і выплакаўся. Можна зноў ісці ў бальніцу да маці, якая слабне і аддаляецца ад мяне ў незварот.

*Любоў*

Сыходзіць, прападае вялікая любоў, з якой мама да мяне ставіцца. Ніхто мяне так не любіў і не стане любіць, як любіць яна. Ад страты матчынай любові асабліва балюча, нібыта гэты боль вылучаны ў нейкую своеасаблівую пакуту. Зрэшты, так яно і ёсць.

*Страх*

Баюся застацца без маці; падобны страх узнікаў у самым далёкім дзяцінстве, калі я баяўся заблукаць у лесе, на які павольна і несупынна апускаецца ноч.

*Ёгурт*

Доктар сказаў, што мы можам прынесці маме стравы, якія яна любіць. У краме я сказаў, што трэба браць ёгурт пусты, без дадаткаў, на што Мірык заўважыў, што маме можна ўжо не баяцца свайго дыябету. З майго правага вечна хворага вока выкацілася сляза.

*Пекла*

Калі гляджу на маці, у мяне адчуванне, што мы з ёю ў пекле. Яна пакутуе, я таксама ўвесь змучаны. Калі сыходжу з бальніцы, дык увесь час чакаю званка з весткай пра яе смерць. Даводзіцца хавацца ў творчасць, у маляванне. Малюючы, я згадаў яе ўспамін пра дзяцінства і дзедаву кузню. Маленькая Ніна Глобус прыходзіла да свайго дзеда — Яна Александровіча ў кузню, і там ён варыў ёй — любімай унучцы — яечка ў жалезным кубку. Яечка, зваранае ў дзедавай кузні, грэла маю маму праз усё жыццё. Але за цёплым яечкам паўставала вогненнае пекла. Кузню ў Александровічаў забралі бальшавікі, але фашысты кузню вярнулі. Калі карнікі палілі нашу вёску Старую Рудзіцу, дзеда — Яна Леапольдавіча Александровіча — яны спалілі жыўцом у зачыненым гумне... Усё гэтае пекла маці пакідае мне, яна сыходзіць, а пекла застаецца, і я яго малюю ў тры фарбы — белая, чорная і вогненна-чырвоная.

*Ядзя*

Мама ўжо не можа гаварыць. Як казаў у такіх выпадках тата, у чалавека пачало забіраць мову. Ядзя сказала, што трэба нашу Ніначку Глобус прымушаць піць, трэба паіць яе з лыжачкі, трэба з ёю гаварыць. Усё так. Разумею, але ў мяне

няма сілы глядзець на маці, якая пазірае на наш свет ужо толькі адным блакітным вочкам. Сіл няма... Спаць не магу... Ляжу і думаю пра яе, пра нашу пакутніцу маці... Заўтра абавязкова праведаю, занясу бацькаву кнігу найлепшых апавяданняў — «Песня».

*Два словы*

Раніцай 8 жніўня напісаў два словы: «Мамы няма...»

*Рэчы*

У бальніцы мне выдалі мамiны рэчы ў цалафанавых пакетах, блакітным і белым. У адным з іх была паперка з запісам: «Глобус Н. В. Памерла 08.08.13 г. у 03:00».

*Доктарка*

Доктарка, якая адказвала за палату інтэнсіўнай тэрапіі, дзе памерла мама, выглядае як Дон Кіхот. Высокая, сухая, стрункая, з маскай глыбокай журбы на твары, яна штодня сутыкаецца з подыхамі смерці. Яна змагаецца са смерцю, як іспанскі рыцар з непераможнымі веліканамі. Яна ведае словы суцяшэння. Я ёй удзячны, бо яна зрабіла шмат, каб маме было крышку лягчэй у апошнія дні і гадзіны.

*Апошнія словы*

Апошняе, што я пачуў ад мамы: «Слабасць. Зусім я саслабела. Зусім слабая...» Апошняе, што я ёй сказаў: «Ма, я цябе люблю...»

*Развітанне*

У суботу 10 жніўня мы ў крэматорыі развіталіся з мамаю...

*Музейныя рэчы*

Мама дажыла да таго паважнага веку, калі вакол яе стала шмат музейных рэчаў. Школы і ліцэі папрасілі ў яе татавы рукапісы і ўзнагароды. На яе дачы стаяў стол Уладзіміра Караткевіча. У фотаальбоме былі арыгінальныя здымкі Івана Мележа і Міхася Стральцова. Калі ўсе гэтыя музейныя рэчы зрабіліся запатрабаванымі, мама і пакінула нас.

*Суцяшэнні*

Пасля сядзення за жалобным сталом я вырашыў прайсціся па горадзе. На выхадзе з метро незнаёмы хлопец высока над галавою ўзняў ражок з марозівам і сказаў: «Паглядзіце! Я тут сяджу на сонцы і напоўніцу адчуваю асалоду жыцця!» — «Які ты малайчынка!» — сказаў я маладому аматару ружовага марозіва і пайшоў у бок свайго дома. Пакуль я дайшоў да скрыжавання, сонца прапала, узняўся вецер, і над маім домам навісла цёмная хмара. Пад светлафорам стаяў іншы незнаёмы хлопец, які спытаў у мяне: «Як думаеце, моцна ўлупіць?» — «Моцна! Таму я і пабягу на чырвонае святло...» Не паспеў я забегчы ў дом, як з неба пасыпаліся буйныя кроплі. Стоячы ў пад'ездзе, падумаў, што ў маім абліччы нешта ўсё ж выдае несуцешны боль, таму нават чужыя людзі спрабуюць мяне падтрымліваць сваёй увагай. Яны не ведаюць пра маё развітанне з мамай, але бачаць боль і суцяшаюць самымі простымі і неабавязковымі словамі.

*Муха*

Убачыў на ваконнай раме муху. Звычайная шэрая жнівеньская муха грэлася на сонцы. Падумалася з нейкай малапераадольнай крыўдай: муха жыве, а мамы маёй няма. Раней так думаў толькі пра людзей, маўляў, гэты глюганосы няздара псуе паветра, а тата мой таленавіты ляжыць у кальварыйскім пяску. Цяпер азліўся на муху, і думкі пра муху больш пякучыя, чым пра кепскіх людзей. Адназначна, больш пякучыя.

*Кальварыя*

Цяпер на Кальварыйскіх могілках знайшоў спачын і прах маці маёй — Ніны Глобус. Далакопаў не знайшлося. Давялося самому выкопваць яму, хаваць важкую скарбонку з попелам і ставіць крыж. Добра, што мне дапамагаў брат. Штыкавая рыдлёўка была досыць вострай, таму лом і шуфаль не спатрэбіліся. Падхаванне маці да бацькі прайшло сціпла і ўрачыста, без лішніх вачэй і слоў.

*Сцішванне*

Закапаў прах маці ў сухую, шэрую, поўную камянёў зямлю і захацелася сцішыцца. Захацелася маўчаць як даўжэй, каб нікога не патрывожыць сваім уздрыгваннем у няпэўным голасе. Толькі маўчаць не атрымалася. Трэба было ехаць, ісці на працу, размаўляць і рабіць выгляд, што нічога страшнага не адбылося, што ўсё нармальна і час ідзе сваім заўсёдным ходам.

*Скаргі*

Маці няма, і няма каму паскардзіцца на боль. Гэта мне баліць, тое ные, тут калоціцца... Маці выслухоўвала скаргі, і мне рабілася лягчэй. Яна нібыта забірала сабе частку маіх хвароб і боляў, нібыта іх несла паперадзе мяне і ведала паратункі ад шмат якіх нягод. Цяпер я не магу падзяліць свой боль, нават маленечкую яго частку няма каму перадаць, а яшчэ я адчуў, як да майго болю пацíху пачаў дадавацца і боль маіх дзяцей.

*Віншаванне*

Маці — першы чалавек, хто раніцай віншаваў мяне з днём нараджэння. Гэтага страчанага назаўсёды віншавання мне будзе моцна не ставаць, заўсёды.

## ЗМЕСТ

**Глобус, А.**

Г54 Сям'я : раман / Адам Глобус.— Мінск : Мастацкая літаратура, 2017.— 159 с.— (Беларуская проза XXI стагоддзя).

ISBN 978-985-02-1798-1.

Новую кнігу сучаснага беларускага літаратара Адама Глобуса склалі найлепшыя словы, напісаныя ім за апошнія гады. Найлепшыя, бо пісаліся яны пра самае дарагое, каштоўнае і важнае, што мае кожны чалавек: пра маці і бацьку, пра брата і сваякоў, пра жонку, дачку, унука. Кніга «Сям'я» пра крэўных і блізкіх, пра родных і любімых. Пісьменнік у ёй дакладны, гіперрэалістычны і шчыры. «Шануй бацьку свайго і маці сваю, каб падоўжыліся дні твае на зямлі…» Так напісана ў біблейскай кнізе «Выхад». Пра гэта ж апавядаецца і ў кнізе Глобуса «Сям'я».

**УДК 821.161.3-32**
**ББК 84(4Беи)-44**

Літаратурна-мастацкае выданне

Беларуская проза XXI стагоддзя

**Глобус** Адам
(Адамчык Уладзімір Вячаслававіч)

**СЯМ'Я**

*Раман*

16+

Рэдактар *В. А. Шніп*
Мастак *А. І. Цароў*
Мастацкі рэдактар *М. Ю. Дайлідаў*
Тэхнічны рэдактар *Л. І. Астрэйка*
Стылістычныя рэдактары *А. М. Анцытовіч, Ю. В. Тыркіч*

Падпісана да друку 18.10.2017. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Гарнітура Таймс. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 8,4.
Улік.-выд. арк. 7,09. Тыраж 1000 экз. Заказ 2872.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/5 ад 09.07.2013.
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск. www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

ААТ «Друкарня “Перамога”».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/38 ад 29.01.2014.
Вул. Таўлая, 11, 222310, Маладзечна.